# БЕЛАРУСКІ ІЛЮСТРАВАНЫ КАЛЕНДАР

# 1928



LIT. CH. ŁASKOWA WILNO.

Выдавецтва Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

# Беларускі Ілюстраваны КАЛЕНДАР на 1928 год.

## З Новым Годам!

З Новым Годам, словам шчырым,
Беларусь вітаю я! —
Аб надзеі, што пашырым
Волю, сьніць душа мая.
Бо надзея гэта-ж — сіла!..
Дасьць яна нам моцным быць,
Каб да мэты сваей мілай
Бязупынна, сьмела плыць.
Веру я — ня вечна мукі
Будзе лёс нам пасылаць!
Мы прыложым свае рукі,
Каб бядоту зваяваць!
Мы спаткаем сваю долю
І збудуем ўласны гмах,
Пераможам лёс-нядолю,
Бо нашлі належны шлях.

. . . . . . . . . . . . . .

Беларусь з яе Народам,
Які ёсьць мая сям'я,
Словам шчырым з Новым Годам!
Гэтак вось вітаю я.

*Скарга.*

# 1928 ГОД

## хрысьціянскай эры

лічыцца годам пераступным і мае 366 дзён. Дзеліцца на 4 астранамічныя пары, з якіх вясна пачынаецца 20 сакавіка, лета 21 чэрвеня, восень 23 верасьня і зіма 21 сьнежня.

Жыды сёлетні год лічаць 5688.

**Зацьменьне сонца і месяца.** (Даты новага стылю).

У 1928 годзе будзе 3 зацьменьні сонца і 2 зацьменьні месяца. У нашым краі будзе відаць толькі адно частковае зацьменьне сонца 12 лістапада прад палуднем.

Поўнае зацьменьне сонца будзе відаць 19 мая на паўднёвай паўкулі. Частковым будзе яно у паўднёвай часьці Паўднёвай Амэрыкі, у паўднёвай часьці Атлянтыцкага Акіяну, на поўдні Афрыкі і паўднёва-ўсходняй часьці Індыйскага Акіяну.

17 чэрвеня частковае зацьменьне сонца будзе відаць толькі на далёкай поўначы Эўропы і Азіі.

Поўнае зацьменьне месяца будзе 17 чэрвеня, якое займе абшар галоўна Спакойнага Акіяну. Другое зацьменьне месяца выпадае на 27 лістапада. На Беларусі ня будзе яно відаць.

**Календарныя знакі.**

☽ Маладзік (першая квадра). ☉ Поўня (другая квадра).
● Сход (трэцяя квадра). ☾ Вятох (чацьвертая квадра).

**Праваслаўная пасхалія.** (Даты старага стылю).

Новы Год у суботу; мясаеду 6 тыдняў і 2 дні. Вялікі пост пачынаецца 14 лютага. 40 мучанікаў у чацьвер 4-га тыдн. посту. Аляксея у пятніцу 5-га тыдня посту. Дабравешчаньне ў суботу Лазараву. Вялікдзень 2 красавіка. Юр'я ў 4-ы тыдзень па Вялікадні. Прэпалавеньне 26 красавіка. Яна Багаслова ў панядзелак 6-га тыдня па Вялікадні. Ушэсьце 11 мая. Тройца 21 мая. Загавіны на Пятроў пост 28 мая. Пятровага посту 4 тыдні і 3 дні. Пятра і Паўлы ў чацьвер.



**Праваслаўныя сьвяты ў 1928 г.**

Новы Год — у суботу 1 (14) студня.
Вадохрышча — у чацьвер 6 (19) студня.
Срэценьне Гасподне — у сераду 2 (15) лютага.
Дабравешчаньне — у суботу 25 сакавіка (7 красавіка).
Вербная — у нядзелю 26 сакавіка.
Вялікдзень — 2, 3 і 4 красавіка.
Юр'я — 23 красавіка (6 мая).
Перанясеньне мошчаў сьв. Міколы Чудатворца — у аўторак 9 (22) мая.
Ушэсьце — у чацьвер 11 мая (24 чэрвеня).
Тройца — 21 мая (3 чэрв.).
Дзень сьв. Духа — у панядзелак 31 мая (13 чэрв.).
Нараджэньне Іоана Хрысьціцеля — у суботу 24 чэрвеня (7 ліпня).
Сьв. Апост. Пётры і Паўлы ў чацьвер 29 чэрвеня (12 ліпня).
Сьв. прарока Ільлі — у чацьвер 20 ліпня (2 жніўня).
Прэабражэньне Гасподне (Спас) — у нядзелю (19 жніўня).
Усьпеньне Прачыстай Багародзіцы (1-ая Прачыстая) — у аўторак 15 (28) жніўня.
Сьцяцьце галавы Іоана Хрысьціцеля — у аўторак 29 жніўня (11 верасьня).
Нараджэньне Прачыстай Багародзіцы (2-ая Прачыстая) — у пятніцу 8 (21) верасьня.
Узьвіжаньне Жыватворнага Крыжа (1-ае восенскае сьвята) — у чацьвер 14 (27) верасьня.
Апост. і Евангелістага Іоана Багаслова — у аўторак 26 верасьня (9 кастрычніка).
Пакроў Прасьв. Багародзіцы — у нядзелю 1-га (14) кастрычніка.
Уводзіны ў Храм Багародзіцы — у аўторак 21 лістападу (4 сьнежня).
Сьв. Міколы Чудатворца — у сераду 6 (19 сьнежня).
Каляды 25—27 сьнежня (9 студня 1928 г.).

**Праваслаўная Царква забараняе вянчацца.**

1) Напярэдадні сярод і пятніцаў усяго году, не выключаючы і ўсеядных, а так сама на пярэдадні нядзеляў і сьвятаў.
2) З 7 (20) лютага да 9 (22) красавіка — дзеля Масьлянкі, Вялікага посту і Вялікадня.
3) З 29 мая (9-VI) да 28 чэрвеня (12 ліпня) уключна і з 1 (14) да 14 (27) жніўня — дзеля Пятроўкі і Спасаўкі.
4) З 15 (28) лістападу да 6 (19) студня — дзеля Піліпаўкі і Каляд.
5) Напярэдадні і ў дню сьцяцьця галавы Іоана Хрысьціцеля 29 жніўня (11 верасьня) і Узьвіжаньня Жыватворнага Крыжа 14 (27) верасьня.

## Пасты Праваслаўнай Царквы ў 1928 г.

Куцьця перад Вадохрышчам — 5 (18) студня.
Вялікі пост — 14 (27) лютага да 1 (14) красавіка.
Пятроўка — з 29 мая (11 чэрвеня) да 28 чэрвеня (12 ліпня).
Спасаўка — 1 (14) да 14 (27) жніўня.
Сьцяцьце галавы Іоана Хрысьціцеля — 29 жніўня (11 верасьня).
Узьвіжаньне — 14 (27) верасьня.
Піліпаўка (Калядны пост) — 5 (28) лістапада да 24 сьнежня (7 студня).
Серады і пятніцы ўсяго году, апроч ніжпералічаных усяедных.

## Памінкі па ўмерлых ў праваслаўных (Дзяды) ў 1928 г.

Мясапусная бацькаўская субота — 5 (18) лютага.
Суботы 2, 3 і 4 Вялікага посту — 26 лютага (10 сакавіка, 4 (17) сакавіка, 11 (24) сакавіка.
Радаўніца — 11 (24) красавіка.
Траецкія Дзяды (Троецкая субота) — 20 мая (2 чэрв.).
Восенскія Дзяды (Зьмітроўская субота) — 23 кастрычніка (5 лістападу).

## Pierachodnyja katalickija światy ŭ 1928 h.

(Nowy styl).

| | |
|---|---|
| Niadziela starazapusnaja | 5 lutaha. |
| Papialec . . . . . . | 22 „ |
| Wialikdzień . . . . . | 8 krasawika. |
| Ušeście P. Jezusa . . | 17 maja. |
| Siomucha. . . . . . | 27 „ |
| Božaje Cieła . . . . | 7 červiena. |
| Serca Jezusowaha . . | 15 „ |
| 1-ja niadziela Adwentu . | 2 šniežnia. |

## Čas zabaronieny na wiasielli ŭ katalikoŭ.

Ad 1 da 6 studnia ŭłučna; ad 12 da 14 krasawika ŭłučna; ad 2 šniežnia da kančatku hodu.

**Zapusty** trywajuć ad 7 studnia da 21 lutaha ŭłučna, znača 45 dzion.



Saulis
Январь
Styczeń

# СТУДЗЕНЬ

(мае 31 дзень)

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар | Новы стыль | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| | | **СЬНЕЖАНЬ 1927 г.** | | |
| Н. | **19** | Муч. Баніфата і Цімахвея | **1** | **Nowy Hod.** Abrazańnie P.J. |
| П. | 20 | Ігната Баганошы. | 2 | Imieńia Jezus. |
| А. | 21 | Муч. Юльляны, Пётры. | 3 | Genowefy. |
| С. | 22 | Муч. Настасі, Зоіла. | 4 | Aŭhienia. |
| Ч. | 23 | Паўлы, Навума. | 5 | Wil. Telesfora. |
| П. | 24 | *Куцьця.* Муч. Аўгеньні. | **6** | **Try Karali.** |
| С. | **25** | **Каляды.** Мел., Касп. і В. | 7 | Lucyjana. |
| Н. | **26** | *2-гі дзень Каляд.* Еварэста. | 8 | **1 pa 3 Kar.** Seweryna op. |
| П. | 27 | Муч. Архід. Сьцяпана. | 9 | Św. Radzimy. |
| А. | 28 | Муч. Дарахвея, Агаты. | 10 | Jana Dobraha bp. w. |
| С. | 29 | 14 тыс. муч. бязьл., Марк. | 11 | Honoraty pn. |
| Ч. | 30 | Пр. Хвядоры, Анісі. | 12 | Arkadzia, Ernesta. |
| П. | 31 | *Багат. Куцьця.* Маланьні. | 13 | Leoncija bp. w. |
| | | **СТУДЗЕНЬ 1928 г.** | | |
| С. | **1** | **Новы Год. Абраз. Гасп.** | 14 | Hilara. |
| Н. | 2 | Сьв. Сыльвэстра. | **15** | **2 pa 3 Kar.** Paŭły 1-ha pust |
| П. | 3 | Прар. Малахіі, Гардзея. | 16 | Marcelaha p. |
| А. | 4 | Сабор 70 апостал., Якуба. | 17 | Antoniaha op. |
| С. | 5 | Палінара і Рыгора. | 18 | Katedr. św. Piotry, Pryski. |
| Ч. | **6** | **Вадохрышча,** Рамана. | 19 | Marjuša m., Kanuta kar. |
| П. | 7 | Сабор сьв. Іоана Хрысьц. | 20 | Siebaściana m. |
| С. | 8 | Юрыя і Рыгора. | 21 | Jahniešy p. m. |
| Н. | **9** | Піліпа і Пётры. | **22** | **3 pa 3 Kar.** Wincentaha m. |
| П. | 10 | Рыгора і Паўлы. | 23 | Rajmunda. |
| А. | 11 | Хвядоса і Міхаіла. | 24 | Cimachwieja b. i m. |
| С. | 12 | Тацьяны і Пётры. | 25 | Nawiarn. św. Paŭły. |
| Ч. | 13 | Ярмілы і Якуба. | 26 | Palikarpa b. i m. |
| П. | 14 | Сьцяпана і Ніны. | 27 | Jana Załatawusnaha bp. |
| С. | 15 | Паўлы і Іоана. | 28 | Waleraha b. |
| Н. | **16** | Муч. Леванілы. | **29** | **4 pa 3 Kar.** Pranc. Salez. b. |
| П. | 17 | Антона Вялікага. | 30 | Martyny. |
| А. | 18 | Панаса Вял. і Кірылы. | 31 | Piotry z Nolaska. |

**Перамены месяца**

Поўня 7 д. у гадз. 7.
Вятох 14 дн. у г. 22.
Сход 22 д. у 21 гадз.
Маладзік 29 дня у 20 гадз.

**Зьмены пагоды паводле 100-годняга календара.**

Да паловы месяца пагода, у ночы мароз. Далей да 20 халады і вятры. Пасьля 20 нясталая паг.

| | Усход | зах |
|---|---|---|
| 1 дн. | 7,31 | 3,48 |
| 5 дн. | 7,38 | 3,52 |
| 9 дн. | 7,37 | 3,57 |
| 13 дн. | 7,35 | 4,02 |
| 17 дн. | 7,32 | 4,06 |
| 21 дн. | 7,29 | 4,14 |
| 25 дн. | 7,25 | 4,20 |
| 29 дн. | 7,20 | 4,27 |

Vasaris
Февраль
Luty

# ЛЮТЫ

(мае 29 дзён)

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар | Новы стыль | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| | | **СТУДЗЕНЬ** | | |
| С. | 19 | Макара, Ефрасіньні. | 1 | Ihnata b. i m. |
| Ч. | 20 | Яўхіма Вялік., Лаўрына. | 2 | M. B. Hramničnaj. |
| П. | 21 | Максіма, Аўгена. | 3 | Błažeja b. i m. |
| С. | 22 | Цімахвея. | 4 | Andreja Kors. |
| Н. | **23** | Клімэнта, Генада. | **5** | *Starazap.* Agaty p. i m. |
| П. | 24 | Аксеньні. | 6 | Cita b., Daroty. |
| А. | 25 | Рыгора Багаслова. | 7 | Romualda op., Ryšarda kar. |
| С. | 26 | Марыі, Сымона, Тодара. | 8 | Jana z Matty. |
| Ч. | 27 | Пер. мошч. Іоана Залатав. | 9 | Apolonii. |
| П. | 28 | Ахрэма Сірына. | 10 | Scholastyki. |
| С. | 29 | Ігната і Лаўрына. | 11 | Zjaw. N. Dz. M. ŭ Lurd. |
| Н. | **30** | Васіля Вял. і Іоана Залат. | **12** | *Miasapusnaja* 7 Zakł. Serw. |
| П. | 31 | Мікіты. | 13 | Ryhora II. |
| | | **ЛЮТЫ** | | |
| А. | 1 | Муч. Трыфона. | 14 | Walentaha b. i m. |
| С. | 2 | **Срэценьне Гасподне.** | 15 | Faustyna i Jowit. mm. |
| Ч. | 3 | Сямёна і Ганны. | 16 | Jullany p. i m. |
| П. | 4 | Сідара, Міколы, Кірылы. | 17 | Jullana Kapad. |
| С. | 5 | Агаты, Макара. | 18 | Symeona b. i m. |
| Н. | **6** | *Мясапусная.* Марты і Мар. | **19** | *Zapusnaja.* Marcelaha m. |
| П. | 7 | Пархвен. | 20 | Lawona bp. |
| А. | 8 | Хведара і Захара. | 21 | Feliksa b. i w., Eleonory. |
| С. | 9 | Нікіпара. | 22 | *Papialec.* Stol. św. Piotry. |
| Ч. | 10 | Прахора. | 23 | Piotry Dziamiana bp. |
| П. | 11 | Зьмітры Прылуцкага. | 24 | Macieja apostała. |
| С. | 12 | Аляксея. | 25 | Cezaraha. |
| Н. | **13** | Марцініяна. | **26** | **1 п. postu.** Wiktara. |
| П. | 14 | *Пач. вял. пасту.* Кірылы. | 27 | Aleksandra m. |
| А. | 15 | *Віл. образ Божай Маці.* | 28 | Ramana op. |
| С. | 16 | Муч. Памфілы. | 29 | Teafila. |

**Зьмены месяца.**

- Поўня 5 дня ў 17 г.
- Вятох 13 дн. у 21 г.
- Сход 21 дня ў 11 г.
- Маладзік 28 д. у 4 г.

**Зьмены пагоды паводле 100-годняга календара**

Да 6 вятры і сьнягі, ад 6 да 14 пагодна і марозна, ад 14 да 17 сьнег, ад 17 да 25 ясна і марозна, пасьля чаго да канца месяца сьцюдзена.

| | Усход | зах. |
|---|---|---|
| 1 дн. | 7,16 | 4,32 |
| 5 дн. | 7,10 | 4,39 |
| 9 дн. | 7,14 | 4,46 |
| 13 дн. | 7,57 | 4,53 |
| 17 дн. | 6,50 | 5,00 |
| 21 дн. | 6,42 | 5,05 |
| 25 дн. | 6,37 | 5,13 |
| 29 дн. | 6,33 | 5,20 |

Kovas
Март
Marzec

# САКАВІК

(мае 31 дзень)

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар | Новы стыль | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| | | **ЛЮТЫ** | | |
| Ч. | 17 | М. Тодара з Тыру. *Дзяды.* | 1 | Albina b. |
| П. | 18 | Сьв. Льва, Папы рым. | 2 | Paŭła m. Haleny. |
| С. | 19 | Архіпа і Хвілімона. | 3 | Kunegundy cezar. |
| Н. | **20** | Агапона. | **4** | **2 п. postu.** Kazimiera kar. |
| П. | 21 | Цімахвея. | 5 | Eŭzebiaha. |
| А. | 22 | Пётры Слупніка. | 6 | Perpetui. |
| С. | 23 | Палікарпа. | 7 | Tamaša z Akw. |
| Ч. | 24 | Рамана Вугліцкага. | 8 | Wincentaha Kadł. |
| П. | 25 | Тараса. | 9 | Pranciški Rym. |
| С. | 26 | Муч. Севасьцяна. | 10 | 40 Mučańnikaŭ. |
| Н. | **27** | Пракопа. | **11** | **3 п. postu.** Kanstantaha. |
| П. | 28 | Марыны. | 12 | Ryhora W. pap. |
| А. | 29 | Касьяна. | 13 | Krystyny. |
| | | **САКАВІК** | | |
| С. | 1 | Аўдоцьці, Антона. | 14 | Matyldy. |
| Ч. | 2 | Арсеня. | 15 | Klemensa. |
| П. | 3 | Зэнона. | 16 | Cyryjaka m. |
| С. | 4 | Гарасіма, Данілы. | 17 | Gertrudy pn. |
| Н. | **5** | Маркі. | **18** | **Siarodposnaja.** Kiryły Jer. |
| П. | 6 | Аркадзя. | 19 | Jazepa Abl. N. Dz. M. |
| А. | 7 | Васіля, Ахрэма. | 20 | Aŭchimy. |
| С. | 8 | Тэодарыта. | 21 | Benedykta op. |
| Ч. | 9 | Сорак Мучаньнікаў. | 22 | Kaciaryny. |
| П. | 10 | Кандрата і Купрыяна. | 23 | Feliksa m. |
| С. | 11 | Сапрона. | 24 | Gabryela arch. |
| Н. | **12** | Грыгора. | **25** | **5 п. p. Źwiastaw. N.Dz.M.** |
| П. | 13 | Хрыстыны. | 26 | Emanuela, Tekli. |
| А. | 14 | Расьціслава. | 27 | Jana z D. |
| С. | 15 | Муч. Агапа. | 28 | Jana Kapistrana. |
| Ч. | 16 | Савіна, Іоана. | 29 | Aŭstaza. |
| П. | 17 | Аляксея Чалав. Божага. | 30 | Anieli ŭd. |
| С. | 18 | Кірылы і Трахіма. | 31 | Balbiny. |

**Зьмены месяца**

- Поўня 6 д. ў 12 г.
- Вятох 14 д. у 16 г.
- Сход 21 дн. у 21 г.
- Маладзік 28 дня ў 13 гадзіне.

**Зьмены пагоды паводле 100 г. к.**

Да палавіны месяца сьцюдзена і хмарна наперамен з вятрамі, далей да 22 дождж са сьнегам. Да канца мес. пагода але ветрана.

| | Усход | зах. |
|---|---|---|
| 1 дн. | 6,24 | 5,22 |
| 5 дн. | 6,16 | 5,28 |
| 9 дн. | 6,08 | 5,35 |
| 13 дн. | 5,59 | 5,41 |
| 17 дн. | 5,50 | 5,48 |
| 22 дн. | 5,42 | 5,54 |
| 25 дн. | 5,33 | 6,00 |
| 29 дн. | 5,24 | 6,08 |

## Balandis / Апрель / Kwiecień — КРАСАВІК (мае 30 дзён)

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар | Новы стыль | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| | | **САКАВІК** | | |
| Н. | **19** | Муч. Дар'і | **1** | **Wierbnaja.** Hugona b. |
| П. | 20 | Муч. Іоанна, Сяргея, Лева | 2 | Pranciški z Paŭli. |
| А. | 21 | Якуба. | 3 | Ryšarda. |
| С. | 22 | Муч. Васілія. | 4 | Izydara b. |
| Ч. | 23 | Піліпа, Лідзіі. | **5** | **Wial. čaćw.** Wincent. Ireny. |
| П. | 24 | Арцёма. | **6** | **Wial. piatn.** Celestyna pap. |
| С. | **25** | **Дабравешчаньне** Дз. М. | **7** | **Wial. sub.** Epifana b. i m. |
| Н. | **26** | **Вербная.** Гаўрылы. | 8 | **Wialikdzień.** |
| П. | 27 | **Вялікі панязд.** Матроны. | **9** | Maryi Kleofas. |
| А. | 28 | **Вял. аўт.** Гіляра, Сьцяп. | 10 | Ezechiela. |
| С. | 29 | **Вял. сер.** Марк., Кір., Іоан. | 11 | Lawona W. pap. |
| Ч. | **30** | **Вял. чацьв.** Іоана. | 12 | Juljuša pap. |
| П. | **31** | **Вял. пятн.** Іпата і Апал. | 13 | Hermanehilda m. |
| | | **КРАСАВІК** | | |
| С. | **1** | **Вял. суб.** Марыі. | 14 | Justyna m. |
| Н. | **2** | **Вялікдзень.** Ціта, Палік. | **15** | **Prawodnaja.** Nastasi m. |
| П. | 3 | Мікіты. | 16 | Bened. |
| А. | 4 | Язэпа. | 17 | Rudolfa. |
| С. | 5 | Маркі. | 18 | Apalonii. |
| Ч. | 6 | Мятода вуч. сл. | 19 | Juryja. |
| П. | 7 | Акуліны. | 20 | Todara. |
| С. | 8 | Флегонта. | 21 | Anzelma b. |
| Н. | **9** | Вадзіма. | **22** | **2 pa Wial.** Sotera i Kaj. m. |
| П. | 10 | Максіма. | 23 | Wajciecha b. i m. Jaryja. |
| А. | 11 | *Радаўніца.* Антона. | 24 | Fidel. |
| С. | 12 | Васіля. | 25 | Marki Ew. |
| Ч. | 13 | Арцімона. | 26 | Kleta i Marcelina. |
| П. | 14 | Антона, Марціна, Іоана. | 27 | Zyty p. |
| С. | 15 | Трахіма. | 28 | Paŭły ad Kryža. |
| Н. | **16** | Ірыны, Галіны. | 29 | **3 pa W.** Piotry z Wer. |
| П. | 17 | Сямёна. Адрыяна. | 30 | Kaciaryny Sien. |

**Перамены месяца**

Поўня 5 дн. ў 5 г.
Вят. 13 дня. ў 9 г.
Сход 20 дн. ў 6 г.
Мал. 26 дн. ў 23 г.

**Зьм пагоды паводле 100 г кал.**

З пачатку пераменна з ветрам, ад 5 да паловы мес. хораша, ад 5 да 20 пераменна з даж. і ветрамі. Да канца мес. хораша з прымаразк.

| | Усход | зах |
|---|---|---|
| 1 дн. | 5,18 | 6,11 |
| 5 дн. | 5,09 | 6,17 |
| 9 дн. | 5,00 | 6,24 |
| 13 дн. | 4,56 | 6,30 |
| 17 дн. | 4,44 | 6,36 |
| 21 дн. | 4,36 | 6,42 |
| 25 дн. | 4,28 | 6,49 |
| 29 дн. | 4,21 | 6,55 |

## Gegužis / Май / Maj — МАЙ (Травень) (мае 31 дзень)

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар | Новы стыль | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| | | **КРАСАВІК** | | |
| А. | 18 | Віктара. | 1 | Pilipa i Jakuba. |
| С. | 19 | Нікіфара, Іоана. | 2 | Žyhimonta. |
| Ч. | 20 | **Радаўніца.** Гаўрылы Сл. | 3 | Znachod św. Kryža. |
| П. | 21 | Сократа і Дзяніса. | 4 | Floryjana, Moniki. |
| С. | 22 | Хведара, Лукі Віталія. | 5 | Piusa V. Papieža. |
| Н. | **23** | **Вялікамучан. Юрыя.** | **6** | **4 pa W.** Jana Apost. |
| П. | 24 | Муч. Саўвы, Лявона. | 7 | Flawii, Damiceli. |
| А. | 25 | Сьв. Маркі Евангеліст. | 8 | Stanisława b. m. |
| С. | 26 | *Прэпалавеньне.* Васіля. | 9 | Izydara, Ryhora. |
| Ч. | 27 | Сымона, Сьцяпана. | 10 | Antanina. |
| П. | 28 | Кірылы Тараўскага. | 11 | Mamerta. |
| С. | 29 | Хвядота. | 12 | Pankrata. |
| Н. | **30** | Апост. Якуба. | **13** | **5 pa W.** Serwacaha. |
| | | **МАЙ** | | |
| П. | 1 | Макара. | 14 | Banifata. |
| А. | 2 | Сьв. Апанаса Вялік. | 15 | Zofii ŭd. |
| С. | 3 | Цімахвея, Пётры. | 16 | Andreja, Jana. |
| Ч. | 4 | Пелагеі. | 17 | **Ušeście P. Jezusa.** Pasch. |
| П. | 5 | М. Арыны. | 18 | Feliksa. |
| С. | 6 | Сьв. Евы Мнагапакутн. | 19 | Piotry, Celestyna. |
| Н. | **7** | Пахома. | 20 | **6 pa W.** Bernara. |
| П. | 8 | *Іоана Багаслова.* | 21 | Feliksa. |
| А. | **9** | **Пер. мошч. сьв. Міколы.** | 22 | Wileja. Julii m. |
| С. | 10 | Сымона, Анісіма. | 23 | Dazydara. |
| Ч. | **11** | **Ушэсьце.** Мят. і Кір. в. сл. | 24 | Joanny. |
| П. | 12 | Апіфана. | 25 | Ryhora. |
| С. | 13 | Леокадзіі і Юрыя. | 26 | Pilipa. |
| Н. | **14** | Сідара і Максіма. | **27** | **Siomucha.** Bedy w. |
| П. | 15 | Пахома і Еўфросіна. | 28 | Aŭgustyn. |
| А. | 16 | Віта, Мадэста. | 29 | Maksima. |
| С. | 17 | Андроніка і Сьцяпана. | 30 | Feliksa. |
| Ч. | 18 | Аляксандры, Клаўдзіі. | 31 | Anieli. |

**Зьмены месяца**

Поўня 4 д. ў 21 г.
Вятох 12 д. у 22 г.
Сход 19 дн. у 14 г.
Маладзік 26 дня ў 10 гадзіне.

**Зьмены пагоды паводле 100 г. к.**

Ад 1—6 хораша, ад 6 да 15 дажджы часам з ветрамі. Ад 15 да 22 пераменна з дажджамі. Да канца мес. сталая пагода зноў.

| | Усход | зах. |
|---|---|---|
| 1 дн. | 4,17 | 6,58 |
| 5 дн. | 4,10 | 7,04 |
| 9 дн. | 4,03 | 7,10 |
| 13 дн. | 3,57 | 7,16 |
| 17 дн. | 3,52 | 7,21 |
| 22 дн. | 3,47 | 7,27 |
| 25 дн. | 3,42 | 7,32 |
| 29 дн. | 3,37 | 7,37 |

Birželis
Іюнь
Czerwiec

# ЧЭРВЕНЬ (мае 30 дзён)

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар | Новы стыль | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| | | **МАЙ** | | |
| П. | 19 | Патрыкея і Іоана. | 1 | Jakuba. |
| С. | 20 | Яззпа. | 2 | Marcelina. |
| Н. | **21** | **Тройца** (Сёмуха). Канст. | **3** | **1 pa św. Trojcy.** Erazma. |
| П. | **22** | **Дзень Сьв. Духа.** Якуба. | 4 | Witaŭta, Alaksandra. |
| А. | 23 | Еўфрасіньні кн. Полацк. | 5 | Banifata. |
| С. | 24 | Сямёна і Мікіты. | 6 | Norberta. |
| Ч. | 25 | Знаход гал. сьв. Іоана. | **7** | **Božaje Cieła.** S. Paŭły. |
| П. | 26 | Карпы, Алены, Юрыя. | 8 | Medarda. |
| С. | 27 | Ніла, Хвядоры. | 9 | Pryma i Felic. |
| Н. | **28** | *Пятр. мясап.* Мікіты Сапр. | **10** | **2 pa siom.** Bahumiła. |
| П. | 29 | Андрэя і Іоана, Хвядосіі. | 11 | Barbary. |
| А. | 30 | Ісака. | 12 | Jana Fak. |
| С. | 31 | Ярэмы. | 13 | Antoniaha Pad. |
| | | **ЧЭРВЕНЬ** | | |
| Ч. | 1 | Юстына, Харытона. | 14 | Bazyla. |
| П. | 2 | Нікіпара, Іоана. | 15 | *Serca Jez.* Wita i Madesta. |
| С. | 3 | Клаўдзія, Паўлы, Юльл. | 16 | Jana Rehisa. |
| Н. | 4 | Мітрафана, Франтаса. | **17** | **3 pa siom.** Innocentaha. |
| П. | 5 | Леваніда, Дарахвея. | 18 | Marki i Marcela. |
| А. | 6 | Гілярага. | 19 | Garwaza i Prataza. |
| С. | 7 | Маўры і Смарагда. | 20 | Sylwera. |
| Ч. | 8 | Ахрэма, Засімы. | 21 | Aloiza. |
| П. | 9 | Муч. Фёклы, Марты і М. | 22 | Paŭlina, Flawija. |
| С. | 10 | Аляксандра, Антаніны. | 23 | Zenona. |
| Н. | **11** | Баўтрамея і Варнавы. | **24** | **4 pa siom.** *Jana Ch.* |
| П. | 12 | Анупрэя, Пётры, Арс. | 25 | Daroty. |
| А. | 13 | Антаніны, Ганны, Іоана. | 26 | Jana i Paŭły. |
| С. | 14 | Алісея. | 27 | Uładysława. |
| Ч. | 15 | Мадэста. | 28 | Lawona II pap. |
| П. | 16 | Ціхона. | **29** | **Š. Š. Piotry i Paŭły.** |
| С. | 17 | Мануіла. | 30 | Uspamn. š. Paŭły. |

| Перамены месяца | Зьмены пагоды паводле 100-годняга календара | Усход | зах |
|---|---|---|---|
| Поўня 3 д. у г. 13. | 1-я палавіна месяца дажджлівая, часам з навалніцай, пасьля чаго да 21 хораша, а ад 21 да канца мес. пераменна. | 1 дн. 3,36 | 7,40 |
| Вятох 11 дн. у г. 7. | | 5 дн. 3,33 | 7,44 |
| Сход 17 д. у 22 гадз. | | 9 дн. 3,31 | 7,47 |
| Маладзік 24 дня у 24 гадз. | | 13 дн. 3,30 | 7,49 |
| | | 17 дн. 3,30 | 7,51 |
| | | 21 дн. 3,31 | 7,53 |
| | | 25 дн. 3,31 | 7,53 |
| | | 29 дн. 3,33 | 7,35 |

Lepos
Іюль
Lipiec

# ЛІПЕНЬ (мае 31 дзень)

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар | Новы стыль | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| | | **ЧЭРВЕНЬ** | | |
| Н. | **18** | Муч. Лявона. | **1** | **5 pa siom.** *Najśw. Krywi P J.* |
| П. | 19 | Іоана, Зінона. | 2 | *Adwiedziny [illegible]. Dz. M.* |
| А. | 20 | Сьв. муч. Мятода. | 3 | Anatola b. |
| С. | 21 | Муч. Юльляна і Цярэнція. | 4 | Todara b. |
| Ч | 22 | Муч. Аўсея, Зінона і Зін. | 5 | Antoniaha. Mar. Zach. |
| П. | 23 | Муч. Грыпіны. | 6 | Łucei m. |
| С. | **24** | **Радзіны Іоана Хрысьціц.** | 7 | Kiryły i Metoda. |
| Н. | **25** | Давіда, Пракопа. | **8** | **6 pa siom.** Alžbiety kar. |
| П. | 26 | Давіда з Салуня. | 9 | Weroniki. |
| А. | 27 | Самсона, Марціна. | 10 | Bratoŭ muč. |
| С. | 28 | Майсея, Ксенофонта. | 11 | Piusa I pap. i m. |
| Ч. | **29** | **Апост. Пётры і Паўлы.** | 12 | Jana Gwalberta. |
| П. | 30 | Сабор 12-ёх апосталаў. | 13 | Anakleta pap. i m. |
| | | **ЛІПЕНЬ** | | |
| С. | 1 | Муч. Кузьмы і Дзямяна. | 14 | Bonawentury. |
| Н. | **2** | Ювянала. | **15** | **7 pa siom.** Henryka. |
| П. | 3 | Маркі, Анатоля. | 16 | *M. B. Škapl.* An. i Ben. |
| А. | 4 | Андрэя Крыцкага, Тодар. | 17 | Alaksieja. |
| С. | 5 | Сяргея Радaнескага. | 18 | Symona z Lip., Kamila. |
| Ч. | 6 | Марты, Валентына. | 19 | Wincentaha a Paulo. |
| П. | 7 | Хамы, Гармана. | 20 | Časława, Haron. Em. M. |
| С. | 8 | Вял. муч. Пракопа. | 21 | Praksedy pn. |
| Н. | 9 | Сьв. муч. Панкрата. | **22** | **8 pa siom.** Maryi Magdal. |
| П. | 10 | Данілы, Антона. | 23 | Palinara b. |
| А. | 11 | Вольгі, Аўхімі. | 24 | Kuneg. Kr. |
| С. | 12 | Муч. Прокла. | 25 | Jakuba ap., Kryštofa. |
| Ч. | 13 | Саб. Арх. Гаўрылы, Сьц. | 26 | Hanny. |
| П. | 14 | Апост. Акілы, Анісіма. | 27 | Pantaleona. |
| С. | 15 | Сьв. Уладзімера. | 28 | Wiktara pap. i m. |
| Н. | **16** | Валентыны 4 сусьв. Саб. | **29** | **9 pa siom.** Marty pn. |
| П. | 17 | В. м. Маргарыты, Лазара. | 30 | Rufina m. |
| А. | 18 | Муч. Амільляна і Якінфа. | 31 | Ihnata Lojoli. |

| Перамены месяца | Зьм. пагоды паводле 100 г кал. | Усход | зах |
|---|---|---|---|
| Поўня 3 дн. ў 4 г. | Да 7 слота і сьцюдзена, пасьля чаго распагаджаецца да 12. Ад 12 да 18 пераменна але цёпла. Далей да канца мес. пагодна з малымі перамен. | 1 дн. 3,34 | 7,53 |
| Вят. 10 дн. ў 13 г. | | 5 дн. 3,37 | 7,51 |
| Сход 17 дн. ў 6 г. | | 9 дн. 3,41 | 7,49 |
| Мал. 24 дн. ў 16 г. | | 13 дн. 3,45 | 7,46 |
| | | 17 дн. 3,49 | 7,42 |
| | | 21 дн. 3,54 | 7,38 |
| | | 25 дн. 3,59 | 7,33 |
| | | 29 дн. 4,05 | 7,28 |

## Rugpiutis / Август / Sierpień — ЖНІВЕНЬ (мае 31 дзень)

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар | Новы стыль | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| | | **ЛІПЕНЬ** | | |
| С. | 19 | Макрыны. | 1 | Piotry ŭ akowach. |
| Ч. | 20 | **Прарока Ільлі.** | 2 | N.Dz M. Anielskaj, Alfonsa. |
| П. | 21 | Нупрэя і Анісіма. | 3 | Zachod św. Ściapana. |
| С. | 22 | Марыі Магдалены. | 4 | Daminika. |
| Н. | **23** | Муч. Трахіма. | **5** | **10 pa siom.** M. B. Śnieżnaj. |
| П. | 24 | Хрыст., Барыса і Глеба. | 6 | Pieramianieńnie P.J. |
| А. | 25 | Ганны. | 7 | Kajatana. |
| С. | 26 | Муч. Ермалая, Ярміна. | 8 | Cyryjaka. |
| Ч. | 27 | Панцеляймона. | 9 | Ramana m. |
| П. | 28 | Прахора, Ніканора. | 10 | Łaŭryna m. |
| С. | 29 | Муч. Калініка. | 11 | Zuzanny pn. i m. |
| Н. | **30** | Сілы, Сілуана. | **12** | **11 pa siom.** Klary pn., Hilar. |
| П. | 31 | Аўдакіма. | 13 | Wil. Hipalita j Kaśjan mm. |
| | | **ЖНІВЕНЬ** | | |
| А. | 1 | Сьв. муч. Макавееў. | 14 | Eŭzebija bp. |
| С. | 2 | Сьцяпана, Васіля блаж. | **15** | **Uniebaŭziaćcie N. Dz. M.** |
| Ч. | 3 | Ісака, Далмата. | 16 | Joachima. |
| П. | 4 | Дзяніса, Еўдакіі. | 17 | Jacki. w. |
| С. | 5 | Муч. Яўсігнея. | 18 | Haleny ces. |
| Н. | **6** | **Пераабражэньне Г. Іс. Хр.** | **19** | **12 pa siom.** Ludwika Tol. b. |
| П. | 7 | Пімена. | 20 | Bernarda op. |
| А. | 8 | Мірона, Леваніда. | 21 | Joanny. |
| С. | 9 | Ап. Мацея, муч. Антона. | 22 | Cimachwieja. |
| Ч. | 10 | Муч. Лаўрына, Рамана. | 23 | Pilipa Beniej. |
| П. | 11 | Муч. Сусанны, Максіма. | 24 | Baŭtramieja. |
| С. | 12 | Памфіла і Капітона. | 25 | Ludwika kar. |
| Н. | **13** | Максіма, Ціхана. | **26** | **13 pa siom.** M.B. Čanstach. |
| П. | 14 | Прар. Міхея. | 27 | Jazepa Kalas. w. |
| А. | **15** | **Успеньне Прачыст. Баг.** | 28 | Aŭgustyna. |
| С. | 16 | Нерукатв. Абр. Г., Еакіма. | 29 | Sciaćcie św. Jana Chryścic. |
| Ч. | 17 | Мірона, Піліпа. | 30 | Rožy Lim. |
| П. | 18 | Муч. Хлора і Лаўры. | 31 | Rajmunda. |

**Зьмены месяца.**

Поўня 1 дня ў 17 г.
Вятох 8 дн. у 18 г.
Сход 15 дня ў 15 г.
Маладзік 23 д. у 9 г.
Поўня 31 дн. ў 4 г.

**Зьмены пагоды пав. 100 г. кал.**

Ад 1 да 6 хмарна, пасьля да палавіны мес. хараша. Да 25 бурна рэшта мес. кароткія дажджы з пагодай.

| | Усход | зах. |
|---|---|---|
| 1 дн. | 4,08 | 7,23 |
| 5 дн. | 4,14 | 7,17 |
| 9 дн. | 4,20 | 7,10 |
| 13 дн. | 4,26 | 7,03 |
| 17 дн. | 4,32 | 6,53 |
| 21 дн. | 4,38 | 6,47 |
| 25 дн. | 4,44 | 6,39 |
| 29 дн. | 4,50 | 6,31 |

## Rugseis / Сентябрь / Wrzesień — ВЕРАСЕНЬ (мае 30 дзён)

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар | Новы стыль | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| | | **ЖНІВЕНЬ** | | |
| С. | 19 | Андрэя Стр., Цімахвея. | 1 | Branisławy. |
| Н. | **20** | Прар. Самуіла. | **2** | **14 pa siom.** Sciapana. |
| П. | 21 | Апост. Хвадзея. | 3 | Symona. |
| А. | 22 | Муч. Севяр'яна, Панаса. | 4 | Razali. |
| С. | 23 | Калініка. | 5 | Łaŭryna, Justyna. |
| Ч. | 24 | Арсеня і Пётры. | 6 | Zachara. |
| П. | 25 | Баўтрамея, Ціта. | 7 | Bł. Melchiora. |
| С. | 26 | Муч. Адрыяна і Натальлі. | 8 | **Naradž. Dziawicy Maryi.** |
| Н. | **27** | Пімена Вялікага. | **9** | **15 pa siom.** Piotry Klawera. |
| П. | 28 | Майсея Мурына. | 10 | Mikałaja z Tolentynu. |
| А. | 29 | **Сьцяцьце гал. Іоана Хр.** | 11 | Prot. i Jacki m. |
| С. | 30 | Аляксандра. | 12 | Najśw. Im. M. B. |
| Ч. | 31 | Генадзя. | 13 | Pilipa m. |
| | | **ВЕРАСЕНЬ** | | |
| П. | 1 | Сімеона, Марты. | 14 | Uźwižańnie Św. Kryža. |
| С. | 2 | Іоана. | 15 | M. B. Balesnaj. |
| Н. | **3** | Зінона, Домны. | **16** | **16 pa siom.** Karnela j Cypr. |
| П. | 4 | Вавілы, прар. Майсея. | 17 | Stygmata św. Franciška. |
| А. | 5 | Захара, Альжбеты. | 18 | Jazepa z Kup. |
| С. | 6 | Міхаіла, Архіпа. | 19 | Januara bp. m. |
| Ч. | 7 | Сазонта, Анісіфора. | 20 | Aŭstacha. |
| П. | 8 | **Нараджэньне Пр. Багар.** | 21 | Such. Macieja. |
| С. | 9 | Яхіма і Ганны. | 22 | Tamaša z Wilan. |
| Н. | **10** | Клімента. | **23** | **17 pa siom.** Tekli pn. i m. |
| П. | 11 | Хвядора. | 24 | Najśw. Dz. M. ad. źn. |
| А. | 12 | Аўтонома, Юльляна. | 25 | Uładysława. |
| С. | 13 | Муч. Ільлі, Лук'яна. | 26 | Cypryjana i Justyny. |
| Ч. | **14** | **Узьвіжаньне Жыв. Кр.** | 27 | Kuźmy j Dziamiana. |
| П. | 15 | Мікіты, Парфіра. | 28 | Wiačasława. |
| С. | 16 | Яўхімі, Піктара. | 29 | Michała Arch. |
| Н. | **17** | Муч. Веры, Надзеі і Люб. | **30** | **18 pa siom.** Haronima. |

**Зьмены месяца.**

Вятох 6 дня ў 24 г.
Сход 14 д. у 2 гадз.
Маладзік 22 д. у 4 г.
Поўня 29 дня ў 14 г.

**Зьмены пагоды паводле 100 годняга календара.**

Да 17 пагода з малымі пераменамі, пасьля дождж і вятры, ад 20 да канца мес. переменна.

| | Усход | зах. |
|---|---|---|
| 1 дн | 4,56 | 6,23 |
| 5 дн. | 5,00 | 6,16 |
| 9 дн | 5,06 | 6,08 |
| 13 дн. | 5,12 | 5,59 |
| 17 дн. | 5,18 | 5,50 |
| 21 дн. | 5,24 | 5,41 |
| 25 дн. | 5,30 | 5,32 |
| 29 дн. | 5,36 | 5,24 |

Spalio
Октябрь
Październik

# КАСТРЫЧНІК (мае 31 дзень)

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар | Новы стыль | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| | | **ВЕРАСЕНЬ** | | |
| П. | 18 | Муч. Зофіі, Ірыны. | 1 | Jana z Dukli, Taresy. |
| А. | 19 | Трахіма, Тодара. | 2 | Aniołaŭ W. |
| С. | 20 | Міхала, Тодара. | 3 | Kandyda i Gerarda. |
| Ч. | 21 | Андрэя. | 4 | Pranciška z Asyžu. |
| П. | 22 | Прарока Ёны. | 5 | Placyda. |
| С. | 23 | Іоана, Іраіды. | 6 | Brunona op., Amila. |
| Н. | **24** | Сьв. першамуч. Тэклі. | **7** | **19 po siom.** M. B. Ražanc. |
| П. | 25 | Еўфрасіньні, Сяргея. | 8 | Brygidy pn. |
| А. | **26** | **Ап. й Еванг. Іоана Баг.** | 9 | Ludwika B. |
| С. | 27 | Муч. Калістрата. | 10 | Pranciška Bor. |
| Ч. | 28 | Вячаслава. | 11 | Amiljana m. |
| П. | 29 | Кіпрыяка. | 12 | Maksymiljana b. |
| С. | 30 | Рыгора. | 13 | Adwarda kar. |
| | | **КАСТРЫЧНІК** | | |
| Н. | **1** | **Пакроў Прасьв. Багар.** | **14** | **20 po siom.** Kaliksta pap. |
| П. | 2 | Кіпрыяна, Юстыны. | 15 | Taresy pn. |
| А. | 3 | Дзяніса. | 16 | Gerarda. |
| С. | 4 | Ерахвея, Дамніны. | 17 | Jadwigi, Maŭharety. |
| Ч. | 5 | Аляксея, Піліпа. | 18 | Łukaša ew. |
| П. | 6 | Апост. Хамы. | 19 | Piotry z Alk. |
| С. | 7 | Муч. Сяргея. | 20 | Jana Kantaha. |
| Н. | **8** | Палагеі. | **21** | **21 po siom.** Aršuli pn. i m. |
| П. | 9 | Сьв. апост. Якуба. | 22 | Karduli pn. |
| А. | 10 | Яўхіма, Пархвена. | 23 | Serw. i G. |
| С. | 11 | Апост. Піліпа, Зінаіды. | 24 | Rafała arch. |
| Ч | 12 | Муч. Прова, Тараха. | 25 | Kryšpina. |
| П. | 13 | Муч. Карпы, Мікіты. | 26 | Ewarysta pap. |
| С. | 14 | Муч. Назара, Гарваса, Пр. | 27 | Sabiny m. |
| Н. | **15** | Яўхіма, Лук'яна. | **28** | **22 po siom.** Symona i T. |
| П. | 16 | Муч. Лёнгіна. | 29 | Narcyza b. |
| А. | 17 | Андрэя Крыцкага. | 30 | Alfonsa R. |
| С. | 18 | Апост. і еванг. Лукі. | 31 | Wil. Wolfganga b. |

| Зьмены месяца. | Зьмены пагоды паводле 100-годняга календара. |
|---|---|
| ☾ Вятох 6 дня ў 6 г. | Да 11 пагодна, пасьля да 16 хмарна. Да 27 хораша. Канец месяца ветраны і слотны. |
| ● Сход 13 дн. ў 17 г. | |
| ☽ Мал. 21 д. у 22 г. | |
| ◎ Поўня 28 д. у 24 г. | |

| | Усход | зах |
|---|---|---|
| 1 дн. | 5,39 | 5,19 |
| 5 дн. | 5,46 | 5,11 |
| 9 дн. | 5,52 | 5,02 |
| 13 дн. | 5,58 | 4,54 |
| 17 дн. | 6,04 | 4,46 |
| 21 дн. | 6,11 | 4,38 |
| 25 дн. | 6,18 | 4,30 |
| 26 дн. | 6,24 | 4,23 |

Lapkritis
Ноябрь
Listopad

# ЛІСТАПАД (мае 30 дзён)

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар | Новы стыль | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| | | **КАСТРЫЧНІК** | | |
| Ч. | 19 | Клеопатры. | 1 | **Usich Światych.** |
| П. | 20 | Вял.-муч. Арцёма. | 2 | Dzień zad. (Dziady). |
| С. | 21 | Ілярыёна Вялікага. | 3 | Huberta b. |
| Н. | **22** | Ганны, Альжбеты. | **4** | **23 po siom.** Kar. Baramieja |
| П. | 23 | Якуба. | 5 | Zachara pr. |
| А. | 24 | Муч. Арэхвы, Панаса. | 7 | Leonarda w. |
| С. | 25 | Муч. Маркіяна і Настаса. | 6 | Bł. Antoniaha Bal. |
| Ч. | 26 | Зьмітры, Панаса. | 8 | Gotfryda b. |
| П. | 27 | Нестара. | 9 | Todara m. |
| С. | 28 | Сарвілы, в. м. Параскевы. | 10 | Andreja z Awelinu. |
| Н. | **29** | Пр. муч. Настасі. | **11** | **24 po siom.** Marcina b. |
| П. | 30 | Сьв. муч. Зіноўя і Зіноўі. | 12 | Marcina pap. |
| А. | 31 | Прэп. Сьпірыдона. | 13 | Stan. Kostki. |
| | | **ЛІСТАПАД** | | |
| С. | 1 | Кузьмы і Дзямяна. | 14 | Jazafata b. i m. |
| Ч. | 2 | Прэп. Маркіяна. | 15 | Gertrudy pn. |
| П. | 3 | Язэпа. | 16 | M. B. Astrabr. Edm. b. |
| С. | 4 | Муч. Нікандра. | 17 | Salomei pn., Ryhora. |
| Н. | **5** | Рыгора. | **18** | **25 po siom.** Anieli m. |
| П. | 6 | Панасі й Матроны. | 19 | Alžbiety kar. |
| А. | 7 | Лазара. | 20 | Fel. Walua. |
| С. | 8 | Сабор Архістр. Міхаіла. | 21 | Achwiar. N. Dz. M. |
| Ч. | 9 | Антона й Аляксандра. | 22 | Cecylii m. |
| П. | 10 | Алімпа, Канстанціна. | 23 | Klemensa pap. i m. |
| С. | 11 | Муч. Віктара й Сьцяпан. | 24 | Jana ad Kryža św. |
| Н. | **12** | Ніла, Іоана. | **25** | **26 po siom.** Kaciaryny. |
| П. | 13 | Сьв. Іона Залатавуснага. | 26 | Jana Ber., Sylw. op. |
| А. | 14 | Апост. Піліпа. | 27 | Walarjana. |
| С. | 15 | *Пач. кал. посту.* Маркела. | 28 | Ździsławy. |
| Ч. | 16 | Апост. і еванг. Мацея. | 29 | Saturnina. |
| П. | 17 | Сьв. Рыгора. | 30 | Andreja ap. |

| Зьмены месяца. | Зьмены пагоды паводле 100 годняга календара. |
|---|---|
| ☾ Вятох 4 дня ў 15 г. | Да 7 пагодна, але раніцай мыгла, пасьля да 15 пагодна. Ад 15 да 23 хмарна і ветрана, да канца мес. слота, часамі сьнег. |
| ● Сход 12 д. у 11 гадз. | |
| ☽ Маладз. 20 д. у 15 г. | |
| ◎ Поўня 27 дня ў 10 г. | |

| | Усход | зах. |
|---|---|---|
| 1 дн | 6,29 | 4,18 |
| 5 дн | 6,36 | 4,11 |
| 9 дн | 6,42 | 4,05 |
| 13 дн. | 6,49 | 3,59 |
| 17 дн. | 6,56 | 3,54 |
| 21 дн. | 7,02 | 3,50 |
| 25 дн. | 7,08 | 3,46 |
| 29 дн. | 7,14 | 3,43 |

**Groudis**
**Декабрь**
**Grudzień**

# СЬНЕЖАНЬ (мае 31 дзень)

| Дні | Стары стыль | Праваслаўны календар | Новы стыль | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| | | **ЛІСТАПАД** | | |
| С. | 18 | Платона, Рамана. | 1 | Eligija b. |
| Н. | **19** | Прар. Аўдзея. | **2** | **1 niadz. Adwentu,** Babjany. |
| П. | 20 | Муч. Аўстаха. | 3 | Pranciška Ksaw. |
| А. | **21** | **Уводз. ў Храм Пр. Баг.** | 4 | Piotr. Chr., Barb. |
| С. | 22 | Апостала Філімона. | 5 | Sabby op. |
| Ч. | 23 | Амхілоха. | 6 | Mikałaja b. |
| П. | 24 | Вял. Муч. Кацярыны. | 7 | Ambrožaha. |
| С. | 25 | Клімента. | 8 | **Biazhr. Pačaćcie. N.Dz.M.** |
| Н. | **26** | Прэп. Аліпа. | **9** | **2 n. Adw.** Leŭkadyji pn. |
| П. | 27 | Усевалада. | 10 | Dz. M. Loretanskaj. |
| А. | 28 | Прэп. муч. Сьцяпана. | 11 | Damazaha. |
| С. | 29 | Муч. Парамона. | 12 | Alaksandra m. |
| Ч. | 30 | Апост. Андрэя. | 13 | Lucyji pn. i m. |
| | | **СЬНЕЖАНЬ** | | |
| П. | 1 | Прар. Навума. | 14 | Śpirydona b. |
| С. | 2 | Прар. Авакума. | 15 | Walarjana b. |
| Н. | **3** | Прар. Сафоніі, Тодара. | **16** | **3 n. Adw.** Eŭzebija b i m. |
| П. | 4 | Вял. муч. Барбары. | 17 | Łazara b. |
| А. | 5 | Прэп. Саўвы, Настаса. | 18 | Čak. N. Dz. M. |
| С. | **6** | **Сьв. Міколы Чудатворца.** | 19 | Niamiezia b. |
| Ч. | 7 | Ніла. | 20 | Teofila m. |
| П. | 8 | Прэп. Патапа. | 21 | Tamaša ap. |
| С. | 9 | Ганны, Сапрона. | 22 | Zenona m. |
| Н. | **10** | Муч. Міны, прэп. Хамы. | **23** | **4 n. Adw.** Wiktoryji pn. i m. |
| П. | 11 | Прэп. Данілы і Лукі. | 24 | Kućcia, Adama i Ewy. |
| А. | 12 | Сьв. Сьпірыдона. | **25** | **Naradžeńnie Jezusa.** |
| С. | 13 | Аўксенця, Аўгеня. | **26** | Kalady 2-dz. Ściapana m. |
| Ч. | 14 | Філімона, Апалона. | 27 | Jana ap. i ew. |
| П. | 15 | Сьв. муч. Елеўфэра. | 28 | Dzietak muč. |
| С. | 16 | Прар. Агея. | 29 | Tamaša b. i m. Urbana p. |
| Н. | **17** | Прар. Данілы, Ананіі. | 30 | Aŭhienia b. |
| П. | 18 | Муч. Севасьцяна, Нік. | 31 | Sylwestra pap. |

**Зьмены месяца.**

◐ Вятох 4 дня ў 4 г.
● Сход 12 дня ў 6 г.
☽ Мал. 20 д. у 5 г.
○ Поўня 26 д. у 21 г.

**Зьмены пагоды паводле 100 г. к.**

Пачатак сьнежня сьцюдзёны і сьнежны. Далей да 18 мароз, ад 18 да 26 вецяр са сьнегам, пасьля чаго пагодна і хараша.

| | Усход | зах |
|---|---|---|
| 1 дн. | 7,18 | 3,41 |
| 5 дн. | 7,21 | 3,40 |
| 9 дн. | 7,26 | 3,38 |
| 13 дн. | 7,30 | 3,38 |
| 17 дн. | 7,33 | 3,39 |
| 21 дн. | 7,36 | 3,40 |
| 25 дн. | 7,38 | 3,43 |
| 26 дн. | 7,39 | 3,46 |

Выдавецтва Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

# З РОДНАЕ НІВЫ.



ВІЛЬНЯ — — — — — — — — 1928.



Янка Купала
Беларускі Народны Паэт.

Беларуская Друкарня імяні Францішка Скарыны.

# Прыгожае пісьменства.

*Янка Купала.*

СПАДЧЫНА.

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай.

Аб ёй мне баюць казкі-сны
Вясеньнія праталіны,
І лесу шэлест верасны,
І ў полі дуб апалены.

Аб ёй мне будзіць успамін
На ліпе бусел клёкатам
І той стары амшалы тын,
Што лёг ля вёскі покатам;

І тое нуднае агнят
Бляяньне-зоў на пасьбішчы,
І крык вароніных грамад
На могілкавым кладзьбішчы.

І ў белы дзень, і ў чорну ноч
Я ўсьцяж раблю агледзіны,
Ці гэты скарб ня збрыў дзе проч,
Ці трутнем ён ня зьедзены.

Нашу яго ў жывой душы,
Як вечны сьветач-полымя,
Што сярод цемры і глушы
Мне сьвеціць між вандоламі.

Жыве з ім дум маіх сям'я
І сьніць з ім сны нязводныя...
Завецца-ж спадчына мая
Ўсяго-ж Старонкай Роднаю.



РОДНЫЯ ПЕСЬНІ.

Гэй, родныя песьні! Вы ў суме і ў горы,
Ці ночка пануе, ці сівер дзьме зімны,—
Для роднай зямелькі вы—сьветлыя зоры,
Для роднага краю вы—райскія гымны!

У вас адаб'ецца нядоля і доля,
Ўздыханьні, што ходзяць з сахою, з сякерай,
І холад, і голад, няволя і воля,
І ў будачнасьць ясну надзея і вера.

На сьвеце на белым і праўдай і чэсьцяй
Гандлююць, збываюць за фальш і няславу;
Вы-ж песьні і сьветам маглі-бы затрэсьці,
Паклікаць к змаганьню за добрую справу.

На рукі людзкія наложаць аковы,
Край стопчуць, заграбяць чужыя народы,—
У песьнях-жа родны край, родныя словы
Жылі і жывуць, і жыць будуць заўсёды.

Гэй, песьні, гэй, звон Беларусі загнанай!
Зайграйце пацехай на родным загоне,
Што ўжо няма болей няволі, кайданаў,
І людзі ня стогнуць, як стогнуць сягоньня!

НЯ ШУКАЙ...

Ня шукай ты шчасьця, долі
На чужым, далёкім полі,
Гэт, за шумным лесам-борам,
За шырокім сінім морам
Ня шукай ты шчасьця, долі!

Ты ўсё знойдзеш гэта блізка,
Там, дзе маці над калыскай
Табе песьні напявала,
Як малога калыхала,
Толькі ўмей шукаці блізка!

*

Ня шукай сабе дружакаў
Між чужынцаў, між піякаў,
Ні у месьце, ні ў палацы,
Ні пры лёгкай панскай працы,—
Ня шукай ты там дружакаў!

Ты іх знойдзеш вельмі блізка,
Каля хаты, каля нізкай,
Дзе ганяў жывёлу змалку,
Дзе касой махаў на ранку,
Толькі ўмей шукаці блізка!

*

Ня шукай сабе, мой братку,
З ветрам Бацькаўшчыну-матку,
Ні на сушы, ні на моры,
Ні у шчасьці, ні у горы,
Ня шукай яе там, братку!

Яе знойдзеш вельмі блізка,
Як знаходзіць лес вятрыска,
Толькі ў сэрца глянь сваё ты,
І ў душу заглянь з ахвотай,
Знойдзеш Бацькаўшчыну блізка!

## З ПАВЯЎШАЙ СЛАВЫ...

З павяўшай славы быўшых дзён,
З магільных прадзедавых крас,
Пад стогн няволі путаў звон,
Мы зложым песьню, зложым сказ,
А так агністы, як пажар,
А громкі так, як грому ўдар.

І так, каб чуў і брат і кат
З нізін-далін, з высокіх гор,
Ад меж да меж, ад хат да хат
Зайграем сьвету ў дружны хор
З жыцьцём у тон, з віхрамі ў тон,
Пра свой папас, пра свой палон.

Хай тое ўсё, што спала ў сьне,
Паўстане яваю жывой
І сьветам блудным здрыгане,
І панясе скрозь сьветач свой,
Ад краю ў край, між сьпячых сіл,
Аж там—да бацькаўскіх магіл!.




Якуб Колас.
Беларускі Народны Паэт.

*Якуб Колас.*

## О, КРАЙ РОДНЫ.

(З поэмы „Сымон Музыка“).

О, край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх дзядой!
Што мілей ёсьць ў сьвеці Божым
Гэтых сьветлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе лясы-бары гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць?!
Гэтых гмахаў безгранічных,
Балатоў тваіх, вазёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзе у восень плачуць лозы,
Дзе вясной лугі цьвітуць,
І шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?..
Гэй, адвечныя курганы,
Сьведкі прошласьці глухой!
Кім вы тут панасыпаны?
Чыёй волею, рукой
Вы раскіданы па полі,
Даўных спраў вартаўнікі?
Ды ня скажэце ніколі,
Што казалі вам вякі,
І пуцінаю няроўнай
Бяжыцё ў далечыню —
У бок Віліі чароўнай
І пад сьветлую Дзьвіну...
Край мой родны! Дзе у сьвеці
Край другі такі знайсьці,
Дзе-б магла так поруч з сьмецьцям,
Гожасьць пышная ўзрасьці?
Дзе бы об-руку з галечай
Расквятнеў багацтва цуд
І дзе-б з долі чалавечай
Насьмяяліся, як тут?..



## У ПАЛЁХ БЕЛАРУСІ.

Дзень, добры вам, лясы і далі,
Прасторы ціхія зямлі,
Я зноў срэдзь вас, пагоркі-хвалі,
Палоскі цьмянае ральлі!

Вітаю вас, як блізкіх, родных,
Старыя хвоі на палёх,
І вас, красёнцы сьцежак згодных,
Сьляды нялічаных дарог!

І гэты жоўценкі пясочак,
Дзе хвойкі зелена растуць,
Бярозы тыя, што ў шнурочк
За рубяжы зямлі бягуць;

Ўдоўж рэчкі гэты луг муражны,
Дубоў разьвіслых цэлы рад
І буслаў дом, стары, заможны,
Як той пасэсарскі пасад.

То тут, то там лясок сінее,
У лагчынах рэчачкі блішчаць,
Ад ўсюль пакоем Божым вее,
На ўсім адна ляжыць пячаць—

Развагі ціхай, задуменьня
І нейкай смутнае красы,
І чуеш ў гэтым лятуценьні
Адвечнай песьні галасы.

А хмарка ў небе ў Божым полі,
Плыве шчасьліва, як дзіця,
І забываеш мімаволі
Ўвесь клопат буднага жыцьця.

Куды ні гляне маё вока,—
Усё поўна згоды, дабраты...
Ты маеш выгляды прарока,
Наш край пакуты, край сьвяты!

## НЕБА.

Зоркі таемныя, зоркі далёкія
Ціха мігаюць, дрыжаць.
Тонкія хмарачкі, лёгкакрылатыя
Белым абрусам ляжаць.

Скрозь іх валоканцы, рунь беласьнежную,
Сьвеціцца глыб небясоў...
Эх, як спакойна ты неба бяздоннае,
Царства далёкіх сьвятоў!

Эх, як прыгожа ты высь неаглядная,
Цёмная, сіняя гладзь!
Як сьвечкі, зоркі на Божым аўтарыку
Кожную ночку гарадзь.

Эх, колькі прастору, эх, колькі раздольля!
Колькі таго харастра!
Што-ж нам нявесяла, людзі мы Божыя?
Што-ж нам баліць галава?

Ночачка цёмная, ночачка зорная,
Ціш неабудная цьма!
Волячка сьветлая, дзе ты, жаданая?
Волі няма нам і шчасьця няма!

* * *

— Эй, скажы мне небарача,
Ты, каго ў ярме трымаюць,
Чыё жыцьцё папіхаюць:
Сам ты ныеш, доля плача,
Ва ўсім чысьценька нястача,

Сееш многа ты і дбала,
Хоць скупое тваё жніва,
Адкажы ты мне праўдзіва:
Што цябе тут прыкавала?
Ці у сьвеце сьцежак мала?

Або сьвет тут зачыніўся?
Ці ты глух на папіханкі?
Сьвецяць рэбры скрозь катанкі,
А праз шапку чуб прабіўся.
Ці цярпець ты век згадзіўся?

Ці ня чуў аб лепшай долі?—
— Ой, даўно-б я ўсё пакінуў,



Толькі-ж многа сьлёз я лінуў
І крыві на тыя ролі,
Дзе ўзыходзяць песьні болю.

Дык няхай сьвет хоць трасецца,
Я тут вырас тут і згіну,
А разорак тых ня кіну,
Дзе мой смутак, жаль снуецца,
Дзе мне шчасьце не даецца,

Бо я цьвёрда веру ў тое,
Што наш засеў у полі дзікім,
Гневам вырасьце вялікім
І затопіць усё злое,
Ўсё няшчасьце векавое.

---

## КАСЬБА.

(З поэмы „Новая Зямля“).

Настаў дзянёк, даўно чаканы,
Пакаты ўзгор'я і курганы
Узьдзелі чырвані кароны
І стрэхі сонцам пазлачоны;
Туманаў лёгкія паромы
Над рэчкай віснуць нярухома.
А ў люстры водаў гэтай рэчкі,
Як закаханая дзяўчына,
Глядзіцца пышная вярбіна.
Ў бліскучым лісьцейку, як сьвечкі
На аўтары ў часы маленьня,
Іскрыцца сонейка праменьні,
Бы сьмех бязгрэшны і шчасьлівы.
А там, на ўсходзе пераліві
Агністых фарбаў робяць дзівы
І сыплюць шчодра ад усходу
Зямлі і небу радасьць, згоду.
І чуткі струны гэтай цішы!
Іх подых ветрык ускалыша,
І нават з дрэва лісьцік кволы
Адб'е ў іх голас свой вясёлы.
Але паслухай мілы дружа:
Эх, што за хваля і як дужа,
Разгонна, сьмела і вагромна
Плыве па струнах тых з-пад Нёмна!
Ідуць касцы, зьвіняць іх косы,
Вітаюць іх буйныя росы,

А краскі ніжай гнуць галовы,
Пачуўшы косак звон сталёвы.
Касцы ідуць то грамадою,
То шнурам цягнуць, чарадою,
То паасобку, то папары;
Ідуць касцы, ідуць, як хмары,
І льлецца сьмех іх разудалы,
Як веснавыя пераваль.
Гаворка, шум і коней ржаньне—
Касьбы вясёлае вітаньне.
Касцы, ваякі ціхай працы,
Выходзяць з косамі на пляцы,
І на палоскі верставыя
Кладуцца коскі іх крывыя.

---

## ЖНІВО.

(З поэмы „Новая Зямля“).

Угрэла сонца. Жней чародкі
Ідуць паважна як лябёдкі,
У хустках лёгкіх, кофты белы,
Іх рукі дужа загарэлы.
Ідуць дзяўчаты, маладзіцы
І жарты строяць, як блазьніцы,
Ідуць шумлівы, гаварлівы,
Зьвініць іх голас, сьмех шчасьлівы;
Чутна і песьня маладая,
І поле раптам ажывае.
І мацяркі з дзяцьмі малымі
Ў лубкох-калысках за плячымі —
Такая ты, жаночча доля —
Марудна цягнуцца на поле.
Прыйшлі на вузкія загоны,
Дзе каласочкі шумы-звоны
У таямнічы сьпеў зьлілі,
Упаўшы чолам да зямлі.
Гарачы дзень. На полі душна.
Прыціх той ветрык непаслушны,
Як-бы сваім аддаўся марам.
Зацішак поля дыша варам
І гоніць з твару поту рагі,
І сохнуць губы ад тэй смагі.
А жнейкі жнуць. У моры збожжа
Мільгае постаць іх прыгожа,
Калі ў паверхні таго жыта
Ўсплыве галоўка самавіта



І так прыгожа азірнецца,
А гібкі станік разагнецца,
Або калі над галавою
У жнейкі спрытнаю рукою
Пучок калосьсяў мільгатнецца,
Апіша дужку, бы вясёлку,
Бы нейкай зьнічкі сьлед пагаслы,
І борзда ляжа ў перавяслы,
Што распасьцёрты на падолку...
Дапраўды: ўзмахаў гэтых мгненьне—
Адна любота, заглядзеньне!
Гарачы дзень! Эх, сьпёка, сьпёка!
А прохладзь вечара далёка.
Замлела ўсё ў жары-тамленьні,
Зямля гарача і каменьні;
А ўсюды ціха, нема, глуха,
І толькі заедзь каля вуха
Гудзе агідна, надаедна,
Бы сама наша доля бедна,
Ды дзіцянё з лубка-калыскі
Заводзіць плачы свае, піскі,
А кучаравыя снапочкі,
Над ім злучыўшы каласочкі,
Стаяць спакойна і маўклівa,
Бы кажуць жнейкам там жычліва:
„Да нас ідзеце, дабрадзейкі!
Пад наш цянёк хавайцесь, жнейкі!“
А жнейкі жнуць. Іх твар палае,
Іх пражыць, сушыць смага тая,
Якую трудна ім здаволіць,
Якая толькі „піць! піць!“ моліць.
Сярпок скрыгоча прагавіта,
Жытцо згрызаючы сярдзіта,
Як-бы яму ўсё мала стравы —
Ня дарма-ж вылез ён з-за лавы;
Цяпер яго краса-часіна:
Шпарчэй, шпарчэй-жа гніся, сьпіна!
І сьпіны гнуцца, бы ныраюць;
Па струнах-кольвах пальцы граюць,
Напрост кладуцца жмені жыта,
Растуць снапочкі самавіта,
Стаяць, бы лялечкі якія, —
Глядзяць, як госьці дарагія.
Прыдзі пад вечар ты на поле
І палюбуйся ім, саколе!
Ў якія роўныя шнурочкі
Цяпер пакладзены снапочкі!
І як прыгожа-слаўны бабкі!

Якія ладныя іх шапкі!
І хоць яны ўсё адзінакі,
Але і выраз і адзнакі,
У кожнай бабкі асабісты,
А наагул усе фарсісты.
Зірнеш—дальбог-жа, возьме ўцеха
І ня стрымаешся ад сьмеху:
Яны так мілы, так прыветны,
Так самавіты, так фацэтны
І пазіраюць так прыхільна, —
Прыгледзься толькі да іх пільна!
І многа-ж іх: ня зьмерыш крокам
І не акінеш нават вокам;
Стаяць радамі, зухаваты,
Як на ўрачыстасці салдаты.

А тая ранічка на полі
У часе летняга расквету!
Эх, выйдзі ў поле, брат, дасьвету:
Ня будзеш каяцца ніколі.
Зірні, прыслухайся наўкола:
Як ціхамірна, як вясёла!
І ў кожным дрэве, і былінцы,
І ў малюпасенькай расьлінцы,
Ну, ва ўсім чысьценька дазваньня
Блукае радасьць спадзяваньня.
Куды ні глянь — усё ў настроі
І ў добрай згодзе між сабою,
Само паветра жыва дыша,
Бы ў ім хтось хвалы жыцьцю піша,
Праменна-сьветлы, яснавокі,
І гаснуць-нікнуць ночкі зморокі.
Усход жыве, гарыць, палае,
Слупы-праменьві падымае,
Бы тыя рукі блаславеньня
У часе шчырага маленьня.
І вось яна, жыцьця крыніца,
Сама багіня-чараўніца,
Узышла на неба і міргнула,
Расу ў брыльлянты абярнула,
Глядзіць прыветна, ўсіх кахае,
Па сьвеце стрэлы рассыпае
І песьціць шчыра ўсіх, як матка...
Хіба забудзеш міг той, братка?





* * *

Не прасі, ня гнісь ніколі
Траўкаю пахілай:
Сам пружыны сваёй долі
Выкуй уласнай сілай;

Бо хоць кажуць, што з паклону
Не баліць галоўка, —
Не ўважай: з ярма-прыгону
Выйшла гэта слоўка.

Не прасі, не спадзявайся
Ў жыцьці на падмогу, —
Сам з нягодай барукайся,
Сам прабі дарогу:

Хоць памогуць табе людзі
Вышукаць дарогі,
А саб'ешся, — зноў ты будзеш
Абіваць парогі.

Не масьціся к сільным, дружа,
Зьмейкаю-бярозкай,
Бо ня выйдзеш век з-пад гужа,
Згубіш вобраз боскі.

І ў людзей ты гонар страціш,
Усе цябе зракуцца:
Лепш зламацца вольным, браце,
Чым цярпець ды гнуцца.



## *Максім Багдановіч.*

Прывет табе, жыцьцё на волі
Над галавой — дубоў павець,
Віднеюць неба, горы, поле
Праз лісьцяў сець.

Лахмоцьця ценяў на палянах
Схаваўшы золата ляжаць;
Яго слаі з пад дзір парваных
Аж зіхацяць.

А к ночы свой чырвоны веер
У небі сонца разьвярне
І разварушаны ім вецер
У даль памкне.

Калі-жа пабляднее золак
І цёмнай зробіцца вада
Зазьяе серабром іголак
Зор грамада.

І роўна мілымі зрабіцца
Здалеюць яркі блеск і цень,
Той дзень, што мае нарадзіцца,
І зьнікшы дзень.

* * *

Ня блішчыць у час зьмярканьня і ў глыбокай цемні ночы
Дыямант каштоўны,
Але белым днём красою нам чаруе, вабіць вочы
Блеск яго цудоўны.

Бо калі на гэты камень упадзець праменьня сонца,
Ўраз ён блісьне дзіўна
І вясёлкавыя іскры разсыпаць пачне бязконца
Ярка, пераліўна.

Так здаецца ў змроку ночы цёмным і народ мой родны,
Бедны і няшчасны;
Але, як устане сонца, ўраз прачнецца дух народны,
І засьвеціць ясна!

## ЗІМОЙ.

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі сьнег!
Мяцель ня вее, сьціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.

Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць.
У небі зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, сьветлы стоўп спусьціў
І рызай срэбнаю раздольле
Сьнягоў сінеючых пакрыў.

Ўзрывайце-ж іх санямі, коні!
Зьвіні, вясёлых бомаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець.



## СОНЭТ.

Паміж пяскоў Эгіпецкай зямлі,
Над хвалямі сінеючага Ніла
Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:
Ў гаршку насеньня жменю там знайшлі.
Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё-ж такі жыцьцёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясеньняй збожжа на ральлі.

Вось сымболь твой, забыты краю родны!
Зварушаны нарэшце дух народны,
Я веру, бясплодна не засьне,
А ўперад рынецца маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.





Казімір Сваяк.

## АЙЧЫНЫ БУДАЎНІЧЫМ НАЁМНЫМ...

Ня вам, ня вам, афярнікі няволі,
Айчыны сьлёзнае фундамант закладаць, —
Ня вам, паклоньнікі бясплоднай голі,
Душы народнае шлях-волю дыктаваць!

Запасьнікі чужога гаспадарства,
Што вы дасьцё галоднай людзіне?
Ня вам сыны прыблудаў, дзеці лгарства,
Даць праўду нам, што бачым мы у сьне.



Ня вам, труціцелі душ прагных Бога,
Ня вам, чмуціцелі народнай прастаты,
Ня вам, бажнічнікі багоў дзе многа,
А Духа нет — паліць агонь сьвяты.

Ня вам, ня вам, раскольнікі-бязьверцы,
Душы народнае скарбніцы раскрываць!
Агіднікі! Вы, прыгажства блюзьнерцы,
Хацелі-б вочы нам навекі завязаць.

І рукі вон і проч вы нам з дарогі,
З чужынцам хто народу лёс дзяліў:
Народны Дом ня водле вашай змогі —
Сам Бог у ім бярвеньне заложыў.

Усход Заход заспорылі над намі,
Вучыць бяруцца Дом той будаваць:
Завуць нас ветліва ледзь толькі не братамі,
Сваім дабром гатовы частаваць...

Ня вам, ня вам, пахвальцы капіталу,
Слугі сучаснага, паверыць наш народ:
Хто творыць Дзень для шчасьця ідэалу,
З тым Беларус адважна йдзе ўчарод.

Ня сёньня заўтра родзіцца дух новы
На вугальлях старога Зьніч-агню;
Душу хто мае, будзь тады гатовы
Спаткаці сьвет, паклон аддаці Дню.

## ВЕСНАВЫ СОНЭТ.

(Паводле Шэкспіра).

Вясною сьветлай, у месяцы краскаў,
Быў я далёка ад цябе загнаны...
Сварог агнёвы, для зямелькі ласкаў,
Вёў дзіўны гулі, ад вясельля п'яны.

А птушкі йгралі. — Але ад сьпеваў,
Ад кветкі майскай так зманкага паху,
Ад шуму рэчкі, ад ветру павеваў —
Быў я далёкі, поўны жальбы й жаху.

Белая шата княгіні лілеі,
Ані пурпура ражанага цьвету,
Ні дэлікатнасьць кволай орхідэі —

Ня цешыць шчасьцем журлівага вока,
Бо бяз цябе я згубіў маю мэту,
Блізкі мне краскі — Ты, кветка, далёка!

## ПЕСЬНЯ.

Сьвеціь зорка ясна—цудна на сьвет божы ўвесь,
У пасьвеце тоне вёска, горы, сад і лес;
Жыва ночка агарнула сонны цэлы край,
Салавейка адазваўся, быў на сьвеце май.

На ваенцэ Янка біўся, лёс яго там гнаў,
Сьлёзы ліў па роднай вёсцы, аж ад кулі паў.
Дарма зорка асьвятляе надмагільны крыж,
Янка сьпіць сном даўгавечным—така воля звыж.

Ўзышоў месяц ясны—поўны, дрэміць сонны сьвет,
Каму-ж гэта яснай ночай супакою нет?
Заламаўшы белы рукі мара йдзе праз гай,
Ціха шэпчуць вусны белы: „Янку мне аддай!"...



## НЯЎЖО УМРУ...

Няўжо умру! Няўжо мяне дагнала
Яна—любоўніца магіл?
Сачыла з лет малых і жудасна стагнала,
Калі мне звыш зсылаў Бог з неба сіл..

Пацешся-ж ты!... Хоць не!—Ты толькі мрыя:
*Цябе няма*, ты выдумка сьляпых;
Як жыў—жыць буду. Залатыя
Сны-зьявы сьніць буду аб сьвятых,

Сьвятых цудоўных вод крініцах,
Якіх душа мая усьмягшы каштавала.
Не! Сьмерці нет... а толькі у граніцах
Жыцьця тайніцай меней стала.





# *Алесь Гарун.*

* * *

Як ліст вярбінкі маладой,
Што вецер злосны адарваў
І кінуў ў рэчку і з вадой
У даль няведаму пагнаў,—
Плыву сабе, Рака мая—жыцьцё,
Па ёй плывуць і кветкі і сьмяцьцё.

Я раз спытаўся у вады:
— Скажы, адкуль ты прыцякла?
Яна сказала:—з-пад грады
Каменных гораў уцякла.
—Куды-ж бяжыш?—Цяпер бягу над спад
У мора сіняе.—А вернешся назад?

—Над мной закон—колазварот.
Плыву я з мора ў акіян
І стуль зьбіраюсь ў паварот,
Калі узьнімецца туман
І ўзьляжа ноч. Ляту хутчэй тады
Цячы ракой з-над горнае грады.

Як ліст вярбінкі маладой,
Што вецер злосны адарваў,
І я плыву сваёй ракой,
Жыцьцём якую хтосьць назваў.
Нясе яна і кветкі і сьмяцьцё...
А ты-ж скажы, ці вернешся, жыцьцё?



## *Ясакар.*

### ЗОЛАТАМ СОНЦА...

Золатам сонца ўзгорак абліты,
Хвойныя кудры ў неба глядзяць.
Сьнежнаю стужкай узгорак абвіты,
Сьнежныя плямы між пнямі блішчаць.

*

Гэта ня ўзгорак—асілак, здаецца,
Волата голаў ад вешняй зямлі
Небу і сонцу і хмаркам сьмяецца:
Ўверх глядзяць горда сасновыя пні.

*

Таюць і млеюць сьнягі паміж пнямі,
Сонца праменьні ім жыць не даюць.
Вешняю марай, вясновымі снамі
Кветкі-пралескі на ўзгорку цьвітуць.

### ДОЧ МЕСЯЦА.

Па сьцежцы праменьняў у зьяньнях агнёвых
Спусьцілася месяца доч на зямлю,
Дубочак знайшла. Да галінак дубовых
Тулілась, казала: „Браточак, люблю!...“
І доўга лісточкі яго цалавала,
І доўга галінкі яго абыймала
І грэла ад холаду ночнай зямлі
Густою касою й грудзьмі.

*

У рэчку ўглядаўся жар-месяц чырвоны,
У пушчы шукаў ён лятуху-дачку:
Мо‘ дзесьці завабіў лужочак зялёны,
Мо‘ недзе зьбірае грыбкоў у ляску.
І дзетак маленькіх—ружовенькіх зорак
Паслаў ён на ціхі ля рэчкі узгорак.
Гукалі шукалі—нідзе не знайшлі,
Вярнуліся з чым і пайшлі...



*

Да раніцы месяца доч забаўлялась,
Зьвінелі і песьні і казкі яе.
Царыца-зарніца ўжо паказалась...
„Хутчэй паляту, бо татуля прыб‘е!“
Дубочак маўчыць і дамоў ня пускае,
Галіны ў коскі яе уплятае.
Доч месяца плача: „пусьці, дарагі!“
Жар-месяц глядзіць на лугі...

*

„Вунь, бачыш, ад злосьці як ён чырванее,
Пусьці, мой міленькі, да хаты пара.“
Жар-месяц трывожыцца, гнеўны бляднее,
Ярчэй і ярчэй запылала зара...
„Вунь носяцца качкі над ціхім чаротам,
Вунь птушкі пяюць над туманным балотам.
Пусьці-жа, дубочак, ляцець угару,
Бо тут у цябе я памру“...

*

Дубок ня пускае, мацней прыгартае
Да росных грудзей, да вільготнага пня.
Доч месяца вочкі свае закрывае,
Доч месяца ціха сканала да дня...
Блішчаць на дубовых лісткох не расінкі,
А буйныя, сьветлыя кроплі-сьлязінкі.
То плача ад жалю, ад гора-бяды
Зялёны дубок малады...



## *Міхась Чарот.*

### СЬВЕТЛАЯ НОЧ.

Пад дзіўную казку каханьня
Закрыла ты чорныя вочы...
Я бачу грудзей калыханьне
У змроку чаруючай ночы.

Я чую, як сэрца пужліва
Стукоча, шукаючы волі...
З табою цяпер я шчасьлівы,
Шчасьлівы цяпер, як ніколі.

„Кахаю“—праз сон ты шаптала...
К табе я свой твар прыхіляю,
Хачу, каб у сьне ты спазнала,
Што й я цябе шчыра кахаю...

Шапчу я: „дзяўчынка кахана,
У сьне хоць пабач свае мары,
Бо заўтра, праснуўшыся рана,
Зноў сонца затуляць нам хмары...“

Я зноў—дзе поле каласамі
Сваіму поэту б'е паклон,
Дзе меж зялёных паясамі
Спавіты вузкі мой загон.

Я зноў—дзе вольхам і бярозам
Купае сонца галаву
І жменяй згорнутыя сьлёзы
Расою сыпле на траву.

Я зноў—дзе птушак пералівы
Зьвіняць, як струнаў перабор,
Дзе чорнай хмараю дажджлівай
Стаіць на ўзгорку шумны бор.

Я зноў—дзе рэчкі і выгары
Бліпчаць люстэркам між балот,
І новай глыбе шэпча чары
Вясёлым громам небасход.

Гляджу ў заплаканыя вочы
Старых жабрачак—родных хат,
Дзе па-над стрэхаю рагоча
Мяне спаткаўшы вецер-хват.

Я з ім па краю пранясуся
І прывітаю вольну шыр,
І песьняй ліры памалюся
На незасеяны пустыр.

На сенажаці паначую:
Там буду коней вартаваць...
Расклаўшы вогнішча хачу я
Начлег мінулы ўспамінаць.

Дзіцячых год вярну я гульні,
Скакаць я буду праз агонь,
Пакуль ня спудзіцца вадгульлем
На небе месяц—белы конь.



Нясьпелым жытам сінявокім,
Як родны сын, а ня чужы,
На мора траў пайду далёка
З касою вострай па мяжы.

Там ліры гук і посьвіст косаў
Злучу ў адзін нячутны хор.
І на балоце сьлед мой босы
Прыгожы вытапча ўзор.

Ад зморы соладка спачыну,
На сене сьвежым задрамлю,
Як неба ў чорную аўчыну
Зашые сонную зямлю.

Калі-ж у марах мне—поэту—
Пашле натхненьне ціхі змрок,
Як з васількоў блакітных летам
Сплятту я з вобразаў вянок.

## *Натальля Арсеньнева.*

### ВАСІЛЬКІ.

У жытох расьцьвілі, расьцьвілі васількі...
На прасторах далёкіх, ня нашых палёў.
Між маўклівых, зялёных яшчэ каласоў,
На чужацкай зямлі расцьвілі...

Па пяшчаных узгорках палоскі бягуць,
Пад гарою, ўнізе зелянеюць кляны,
Асыпаюцца яблыны—дзеці вясны —
Васількі па узгорках цьвітуць.

Кветкі мілыя, памяткі іншых палос,
Вузкіх межаў, пароспіых румянкам-травой,
Кветкі-памяткі песьні жаўронка ціхой,
Песьні-звону з крышталяў нябёс...

Там, у гэных палёх вы ня гэтак цьвілі,
Гэткі сум не сьвяціўся ў вашых вачох—
Ў пахілёных, у зьвяўшых напоў пелясткох,
Кветкі роднай, далёкай зямлі!

## КАЛЫХАНКА.

Ноч рассыпала зораў вагні,
Ў сінім небе яны патанулі,
Вее сон над прасторам зямлі,
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

З срэбных зораў, з чырвоных агнёў
Упляту я праменны вяночак,
Над галоўкай завешу тваёй,
Люлі, люлі, засьні, мой сыночак.

Будуць зоркі маломү сьвяціць,
Будуць сны залатыя дарыць.

Ўсюды ціша і сонны спакой...
Вербы гібкае вецьце пагнулі
Над халоднаю, змрочнай ракой.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

Я падслухаю шэпты вярбін,
Я падслухаю шорахі ночак
I зьлію ўсё у хор у вадзін
Люлі, люлі сыночак мой, люлі.

Будуць вербы над хлопцам шаптаць,
Будуць ціхія сны насылаць

Нібы плачучы, ў кропельках сьлёз
Прыгажуньні-бярозы паснулі:
Гэта ў пэрлы прыбраў іх мароз.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

Тыя пэрлінкі-сьлёзкі зьбяру,
Наніжу з іх пяцёркаў шнурочак
I на шыйку завешу тваю.
Люлі, люлі, засьні, мой сыночак...

Будзе з імі маленькі гуляць,
Ручкай пацеркі-сьлёзы ссыпаць.

Сее ночка чароўныя сны
Над палямі зямелькі-матулі.
Сьніць усё... Сьні-ж аб сонцы і ты...
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі...



Фр. Грышкевіч.

* * *

Хто нас зможа?!... Гэй-жа брацьця!
Ў гору сэрца!... Ў гору духа!...
Хто нас сяньня пераможа?...
I якая завіруха
Згасіць сьветач ў нашай хаце?...

Хто стрымае нас ад лёту,
Хто вязаць нас болей зможа?...
I на вечную жаброту —
Хто засудзіць?...
Нас ніхто не пераможа!

Праз вастрожнае ваконца
Толькі волю ўбачыш, браце,
I праз краты вечна Сонца —
Сьвет бяз конца —
Зьмерцьвіць цемру ў роднай хаце!

* * *

Дзе ня стану,
Як ня гляну,
Што рабіці не вазьмуся...
Ўсюды вока,
Хоць здалёка,
Бачыць постаць Беларусі.
З роднай далі
Ветру хвалі
Калі веюць — ім малюся...
Бо ў той хвалі
З роднай далі
Вее постаць Беларусі.
Калі вочы
Ў цёмнай ночы
Скрыюць млелыя павекі,
То шаптаньне
Аж да раньня
Звоніць з далі... „зьдзекі, зьдзекі...“
І прачнешся...
Ўміг сарвешся...
Шыбы звоняць бязустанку;
Й нейкі вочы
З даляў ночы
Страшна сочаць аж да ранку.
І здрыжэлым
Злосьцяй целам
Крыкну ў цемру — „Не баюся!“
Страшны вочы
Шчэзьлі ў ночы...
Бачу постаць Беларусі.

* * *

Скажы, паўночная раса,
Ці там, дзе Нёман коціць хвалі,
Ці ў той абкрытай хмарай далі —
Бліськіць ужо ў траве каса?...
Ці брат мой выйшаў да работы,
Касою вострай цяць асоты?...
Скажы, паўночная раса!

Скажы, крыштальная раса,
Ці мой палетак шнураваны,
Зярнём крывавым абсяваны,
Ўжо чысьціць з пыраю каса?...
Ці сохнуць корні дзічы польнай,
Ці брат мой сьніць аб хвілі вольнай?
Скажы, крыштальная раса!

Прага. 1927.



## *Цішка Гартны.*

### КРАСУЙ, ЗБОЖЖА!...

Красуй, збожжа майго краю,
Каласісь багата!
Жджэ за працу ураджаю
Ад цябе аратай.

Хлебароб, аддаўшы сілы
Сваййму полю-ніве,
Усьміхнецца табе міла,
Што ты урадліва.

Красуй, збожжа майго краю,
Каб зярно зьлілося
У адплату аратаю
Ў ядрыя калосьсе!

Сонца, з неба шлі праменьне,
Залаці чароўна!
Ў зямлю кінута насеньне
Родзіць колас поўны.

Красуй, збожжа майго краю,
Убірай палеткі!
Хай табою аратая
Весяляцца дзеткі!

Плён за працу верне ніва —
Ўцешыш думкі, вока,
Як поўныя вазы жніва —
Пагрымяць да току.

Красуй, збожжа майго краю,
Зіхаці расою,
Што у працы вылівае
Селянін сьлязою!

За багацьце-скарбы краю,
Нівы шнуркоў вузкіх, —
З вамі радасьць запалае
Ў хатах беларускіх.

ЧАГО Я ХАЧУ.

Не прашу забыцьця я ў цудоўных чарах,
Каб ня мець ніякіх думак і клапотаў,
А сядзець й ня дыхаць у салодкіх марах,
Абсыпаны макам ціхае драмоты.
Не прашу забыцьця на зямлі панурай,
Не прашу сьвятога дзіўнага спакою,
А прашу я моцна і прашу я буры,
Цёмнае, сібернай, страшнае і злое,—
Каб ад ветраў шумных ўся зямля траслася,
І танула неба у цямнячай хмуры,
Ад якой маланка з громамі-б ліласся
Да зямлі дрымотнай, да зямлі панурай.
Не прашу спакою, не прашу забыцьця,
Бо жыцьцё заўсёды ў сьцішы замірае,
А прашу я буры, бо ў буры жыцьце
З сілаю магучай біцца пачынае.

## *А. Гурло.*

МОЙ КРАЙ.

Край мой там, дзе сонца вечна
Рвецца зьяць сваёй красой,
Там, дзе мог-бы я бясьпечна
Супачыць сваёй душой;

Край мой там, дзе вечна хвалі
К жыцьцю новаму плывуць,
Дзе ня стогнуць нудна далі,
Песьню-ж вольную пяюць;

Край мой там, дзе дуб сталетні
Не паддацен глуму бур
І грабы з красы сусьветнай
Не баяцца злых віхур;

Край мой там, дзе поўны колас
За паклонам б'е паклон
І жняі шчасьлівы голас
Заглушае сэрца звон;



Край мой там, дзе каля хаты
Да нябёс узьняўся сад,
Ў час вячэрні дзе дзяўчаты
Апяваюць краю лад;

Край мой там, дзе Нёман льецца
Серабрыстай паласой,
Дзе усё, усё сьмяецца,
Дзе зіяе ўсё красой!

## *Уладзімер Жылка.*

НА ПОСТАЦІ.

Сумнай песьні голас,
Бы ў цудовым сьне...
Жыта сьпелы колас
Жнея хутка жне.

Сонца жар. Зьнямога.
Сьпёка, гарачынь...
Пачакай, нябога,
Крыху адпачынь!

Выпрастала сьпіну —
Шчок палае мак.
Стала на часіну
І замлела так.

Задуменьне пала,
Пазірае ў даль...
Мо' аб чымсьць згадала?
Мо' кагосьці жаль?

* * *

Месячыку—месяц,
Срэбненькія рожкі!
З за хмарынкі, месяц,
Выгляні хоць трошкі

Бедная галоўка,
Што ня мае долі:
Дажынаць сьвякроўка
Кінула на полі.

Супраць ночы цёмнай
Ледзь дамоў вяртаю —
Цішынёй таёмнай
Цемната пужае.

Мгліца ў вочы лезець,
Ня відаць дарожкі,
Месячыку—месяц,
Срэбненькія рожкі.

## *Міхась Васілёк.*

### ГЭЙ ВЫ СІЛЫ МАЕ.

Гэй вы сілы мае, колькі ёсьць вас ў грудзёх;
Гартам волі-жыцьця ўзмацаваных,
Памажэця вы мне, каб я вызваліць мог
З цемры брацьцяў, на зьдзекі адданых...

Сілы буйна кіпяць, рвуцца, ймкнуцца далей,
З крыўдай ў бойку—няма ім зьнямогі;
Гэй, ім трэба агню, бліскавіцай балей
Каб спаліць, зьнясьці цемру з дарогі.

Йшчэ ня ўсюды, браты, зьнікла постаць яе,
Лёд вясьняны ня ўсюды прабіты —
Ды бурліць ўжо вада, грозным валам ўстае
На шляху сваім крышыць граніты.

Не стрымаць буйных хваль той магутнай ракі;
Сковы лёду слабеюць на сонцы.
Сьвятазарным агнём ўжо гарацць маякі
У радзімай, каханай старонцы.



### Н О Ч.

Ясная, ціхая ночка марозная
Па ясным, сонечным дні;
Мігаюць ласкава, рознакалёрныя,
Зораў далёкіх агні.

Лес ня кіўнецца—на ім адбіваецца
Думак таёмнасных сьлед.
Між панавісшых галін прабіваецца
Цьмянага месяца сьвет.

Зьмейкаю ўецца па лесе дарожка,
Сьнег пад нагамі трашчыць —
Дзіўнымі іскрамі срэбрам на месяцы
Бліскае, зьзяе—гарыць.

Гора запомніш нядолю палючую,
Хочацца верыць і жыць...
Цяжка, высока ўздымаюцца грудзі,
Сэрца трапеча-дрыжыць.

Ўсё мне тут мілае, ў сэрцы жывучае
Ў гэтай сьвятой цішыні
Мігаюць ласкава, зьзяюць бліскучые
Зораў далёкіх агні.





Аўгені Бартуль.

## ГЭЙ, УСПЫХНІ!

Тлее вогнік сінім блескам,
Тлее нудна, ледзь гарыць.
Гэй, ты, ўспыхні з дзікім трэскам,
Калі жыць, дык знача жыць!

Буйным полымям ўзгарыся
Ярка-рэзкім прамянём,
Сотні іскрамі круціся,
У гару ляці снапом!

Каб угледзіць было можна,
Што агонь ты ўзапраўды,
Каб сказалі: „Асьцярожна,
Бо наробіць ён бяды“.

Бурай дзікаю, іскрыстай
Ўспыхні, хоць загінеш ўраз,
У завеі залацістай
Лепш мамэнт — чым тлеці час!



* * *

Браты мае, нас не адзін мільён,
Аднак ўкруг нас яшчэ туман,
Яшчэ нас муча змора - сон
І цяпер смокча кроў кажан.

Над нашым краем плыве стогн,
Нядолі стогн зычыць між хат,
Плыве усюды іпраклён,
Ў адчаі брата цісьне брат.

Плыве праклён, нясецца стогн.
Ці-ж сілы брацьця ў нас няма?
Ці-ж вечна будзе зычэць ён?
Ці-ж так бяздольна старана?

Браты мае, ўзнясема трон,
Для Волі вывядзем пасад.
Мы працай злучымся і стогн
Замоўкне, сьціхне каля хат.

Замоўкне стогн і зьгіне сон
І блісьне; сонца з па-за хмар...
Браты! Нас не адзін мільён,
Наш край — вялізны ёсьць абшар.

Патрэба працы, а ёй ў тон
Ударам моцным загучыць
Наш вечавы, наш Волі звон.
Наш край паўстаў й будзе жыць!

## Н О Ч.

Ветрык ў паветры тчэ свае кросны,
Ціха шапочацца стройныя сосны,
Плаўна істужкаю ўзьняўся туман,
Звонка абвіў ён балотны курган.

Ночка спакойна зямлю атуліла,
Вопраткай цёмнаю неба акрыла,
Вопраткай шытаю пэрламі зораў,
Вопраткай тканаю сілай прастораў.

Спуджана цені лятуць і імгла
Усё акружыла, паволі лягла;
Топіць яна і зьлівае усё
Дзіўна-таёмнае творыць жыцьцё.

Месяц ўзыходзе і срыбрныя коскі
Ясна ліюцца на контуры вёскі.
Хмары на небе ложацць быццам пёры
І ясна мігаюць красачкі-зоры.



*А. Александровіч.*

## РАЗВОДЗЬДЗЕ.

Зрэбнай коўдраю шэры туман па зямлі
Разаслаўся;
Сьнег зьядае...
Адліга.

Раўчакі, нясучыся ўдаль, загулі...
Сьпеў узняўся...
Рэчка сьпявае...
А крыга—
Нясецца зьвярына
У хвалях шумлівых,
Руйнуе ўсе перашкоды...
Лозы асіны—
Ламае,
Нясе па гародах
Удаль, пагардліва...
Стогнучы гнуцца кусты...
З сьвістам рагочучы,
Ломіць масты.
Вецер гуляе...
Гоман народу...
**Страх...**
Прэч думка—
Што сьвет захлынецца...
Лодка во ўжо падплывае...
Вось! вось ужо ў лодцы...
Едуць наўсьцяж...
Крыкі разносяцца, поўныя, моцныя,—
На-аш!?...
Крыга за крыгай—ляды зімавыя—
Нясуцца
Ў туманныя далі...
Пройдзе стыхія!
Песьні пальюцца,
Лясы зазвіняць звонам сталі!...

---



*Максім Гарэцкі.*

## ПАТАЕМНАЕ.

Гу-гу-гу! — загудзела глухая пушча, зарагатала, заківала макушкамі!

— Ку-га, ку-га! — закугатала нешта страшнае, ці русалка там гуталася на гнуткай і гібкай галіне і пяяла, сумавала аб нечым мінулым, сардэчным. Ці мо' сава гукала да сябе дуракаватага зайку.

— Жгу-жу-жу... — загаманілі лісьцікі на бярозах і з балючай цікавасьцю, і з вялікім жалем і страхам слухалі спрадвечную гутарку лісточкаў асіны, што без надзеі спуджана, як у трасцы, трапыхаліся. Заікаюцца яны, трасуцца на родных сучочках, ня ведаючы спакою ад праклятае думкі спрадвечнае.

— Го-го-го-ей!.. — зазлаваў вецер, што ня пускаюць яго дружныя дрэвы ў сваю сям'ю. Кінуўся ён, як шалёны, на старога дзеда лесавога, на магутны, караністы дуб. Думаў зьнянацку бэхнуць яго на бясконцае, бяздоннае балота, што цягнулася ў непраходны лес няма-ведама куды.

— Ня руш! Не чапай! — толькі і прамовіў магутны дуб. Кінуўся на адзін момант да багны і зноў выпрастаўся. Абправіў сваё каравае суччо... І зноў задумаўся аб старадаўніх лепшых часох, калі пад ім маліліся людзі і баранілі яго, аквячалі яго словам і хвалой і не падпускалі чужынцаў, і шукалі пад ім адказу на свае загадкі, і клятвы пад ім давалі.

Мінулася, прайшло... Не гарыць сьвяты агонь пада мною... Няма сівых старых дзядоў. Адзін астаўся, адзін, адзін, — агарнула туга векавы дуб, што быў старэйшы за ўсіх ува ўсім лесе.

* * *

Шпарка бегаеш ты, шэры воўк! Дуж ты на ногі, ходак на бягню, цягуч у дарозе. Але дарма... Бо не аббегаць табе, скараход-жывадзёр, за ўвесь ваўчыны век твой усіх абшараў старонкі нашае, не пратаптаць сьцежачак па ўсіх лясох драмучых. Не! Блудзіш і ты ў машкох-купінках нашых.

І ты, бацян магутнакрылы, бусел-чорнагуз! Бачыў ты пірамiды фараонаў эгіпецкіх, у шкляной, бліскучай, люстэрнай вадзе Нілу гістарычнага глядзеўся ты, прыгажун! Праз нашага прадзеда, Дуная-многаводнага, ляцеў ты, доўганогі, і многа старонак з рознымі людзьмі ня нашай веры, гаворкі і аблічча бачыў ты. Але дарма! Бо ніколі ня выхадзіць ні табе, ні бацянятам тваім балот нашай зямелькі. Ніколі не пакрасавацца табе бясконцай і неабгляднай удоўжкі і ўшыркі істужкай палёў нашых рознакалёр-

ных, нашых лясоў зялёна-сініх, нашых рэчак ціхаводных, што вербалозам ды краскамі абрасьлі.

Бліскаеш ты, маланка-бліскаўка, скрозь усё неба бліскаеш, аж з краю ў край. Зьверху ўніз расьсякаеш ты, ня ўгледзіць калі, аграмаднае бяздоньне нябеснае. А дарма... Бо ніколі не асьвяціць табе адразу старонкі нашае патаемнае.

* * *

А па ўсёй Амсьціслаўшчыне, Гаршчыне, аж у канец Галыншчыны цягнецца цёмны лес. Імшары непралазныя, бярлогі зьвярыныя, званы падземныя, пяяньне сьвятое пад зямлёю, у скляпох старадаўнішніх, княжацкіх, пахаваных там ад вока людзкога на векі-вечныя.

— Го-го-го! — гудзіць уноч глуха-нема цёмны лес. Скрыпаюць дрэвы хворыя, бахаюць вобзем з гукамі жудкімі. Стогнуць старыя дзяды лесавыя. Рыскаюць спужаныя зьвяры, уцякаючы ад новага чалавека, ды яшчэ больш смуцяць глухі смутны лес. Пачаў адбівацца ад лесу новы чалавек. Ня прыходзіць ужо пад дубы тысячагадовыя, многабачыўшыя пытацца аб долі-нядолі старонкі роднае.

Стогне лес. Прыгожа там вясною, калі дрэвы ўва ўсё зялёнае ўбіраюцца, у вопраткі дзіўныя апранаюцца, калі аборкі ў лядзе красачкамі пахучымі і кволымі ўсьцілаюцца; калі лозы сівымі мушыстымі пупышачкамі вабяць дзікіх пчолак з усіх бакоў; калі паветра цёплае, лёгкае.

— Я-куб! Я-куб! — сумуе голасна зязюлечка. Ды ня проста зязюлька то шэрая: у даўныя часы тое зьдзеілася і з тых пор чакае да сябе сына Якуба, што ўкраў яго паганы цмок, страшны зьмей і занёс у няволю, у царства сваё падземнае, падводнае.

— Я тут! Я тут! — чуецца ёй зьнедкуль здалёку другая зязюлька, можа сын Якуб. І яшчэ званчэй-гучней нясецца па ўсім лесе кукаваньне безнадзейнае. Хораша тады ў цёмным лесе!

А страшна там увосень цёмную, калі лес стогне, а ваўкі выюць, скігочыць няма-ведама хто. Быццам душаць каго, быццам ведзьмакі хаўтуры спраўляюць па кім. Жуда вялікая на сэрцы паднімаецца.

На Купальле-ж там, над возерам, пад бярозамі стромкімі з высокімі макухамі ды галінамі доўгімі, гібкімі пачынаюць гутаццa русалкі белацелыя, з косамі чорнымі, вачмі маркотна-шалёнымі.

— Гу-у-та! Гу-та-шы! Гутарэ-элі! — крычаць яны і гукаюць да сябе хлопца прыгожага, мужчыну слабавольнага.

— Мэ, мэ, мэ! — раве там каланіца нячыстая, нібы ўсамдзелішны баран-птушка.

— Сюды, сюды! — савою хтосьці крычыць.



*Фабіян Шантыр.*

# РОДНЫ КРАЙ.

Снуйцеся, песьні, з маей набалелай душы!

Снуйцеся, бледныя кветкі маей роднай убогай краіны!

Плывіце ў жудную даль хаўтурна-сумнай чарадою, як плывуць шэрыя хмары па роднаму небу ў смутны час восені.

Плывіце, калі ціхім жалям сцелюцца па зямлі апошнія праменьні зайшоўшага сонца, а цені грамадамі прыслухіваюцца да вялікага сьпеву ночы, і маркотны, таемны чар сыплецца ў сьветазмроку...

Війцеся, песьні-кветкі, у вянок з мукамі і болям параздзіраных думак маіх, а палажу я вас у хвілю малітвы душы мае ў ахвяры на аўтар Бацькаўшчыны, што парадзіла ва мне вялікае, нязьмернае чуцьцё...

А дух мой запаліць вас полымям цярпеньняў сваіх...

І будзеце гаручы вы біцца і дрыжэць у бязсільных патугах, пахлынаючы ў сябе гора маткі—зямлі нашай...

І цалуючы твар роднай убогай краіны, плывуць вашы сірочыя тоны са скаргай да сьвету, да братніх сэрцаў, — як плыве адзінока з жальбаю і замірае ад вялікага смутку голас звону, што нясецца з магільнай старой званіцы апаўночы, у сьвята Дзядоў—сьвята сьмерці і васкрашэньня.

Паплывуць у хвілю, калі зможаны я барацьбою жыцьця, думкі зажадаюць пакою і пацягнуцца, як раньні туман к гаснучым зорам з чыстымі крыштальнымі сьлязьмі расіцамі, да адвечнай казкі—праўды, што поіць жыцьцё жывою вадою... І будуць сьпяваць сваю казку—праўду.

Апяваць, як між балот, імшараў і выдмаю пяшчаных узгоркаў і ўдолаў з імглою і сырымі туманамі, лясоў вякавых з дзіўным шопатам і сьпевам, што сваімі каронамі сягаюць к зоркам і цалуюцца з бягучымі хмаркамі, і сухога роднага хмызьняку, што скрозь паўзуць, як калекі, мізанозаў і чароту, каторыя над сонною вадою без пачатку і канца і снуюць свае лятуценьні, — разлажыўся як на хаўтурным цалуне ўбогі край.

Край згнілых атрупелых вёсак, што забітымі запужанымі маленькімі хаткамі сваімі прытуліліся да зямлі і мізэрна выглядаюць на сьвет праз латаныя лучынаю ваконцы і багатых панскіх замкаў і двароў, што горда ўзносяцца над убогімі вёскамі сваімі белымі палацамі і на стогн адказваюць зыкамі вясёлай музыкі.

Край—калыска страшна бяздольнага, нявольніча-пакорнага люду, што родзіцца і ўмірае ў бязупыннай працы...

Край сумных пахілїўшыхся на раздарожжы крыжоў і пакрытых задумай курганаў, што крыюць косьці варагоў і прашчураў, а з імі і думку аб мінуўшай барацьбе за волю.

Край худых гоняў—панства груганоў.

Край зсівелых сухіх папараў і логаў-лажышчаў,шчытняку і асакі.

Край—панства крыўды і бязмернаго зьдзеку.

Край бязупыннай мазольнай працы і раздольля голаду, дзе сьмерць вечна водзіць свой харавод з хваробамі, паморамі і ўсялякімі пошасьцямі, а багацьце і распуста ня знаюць граніц...

Край аднаго працягнага векавога стогну, што льецца ў песьні-малітве, песьні-скардзе мучаніка народу,—у бязнадзейна-слёзным жыцьці-быцьці пад палогам вяковае чорнае ночы.

Край заломак, лясуноў, ведзьмароў і русалак...

Край праклёнаў пекла і экстазу малітвы...

Край безнадзейна-трывожнага, вечнага чаканьня прыбыцьця Хрыста...

Край вялікіх думак, што шыбаюць за сонца, і нікчэмнай мізэрнай подласьці, што гадзінай скрозь прапаўзае і забівае ўсё святое сваім ядам.

Край дзіўнай павабны ў сваім хараства і ў сваім бяздольлі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не, ніхто ня слухае вас, мае вы сірочыя думкі-песьні.

Заўсёды вы самі...

Плачаце адзінокія каплямі апошніх сьлёз...

Вянеце ахоляныя зімовай сьцюжай, што пануе ў сэрцах маіх братоў...

Бліжэй і бліжэй надходзе ваш скон...

А, як цяжка растацца мне з вамі!

Ціхі смутак, ціхі сум, ціхі плач майго сэрца, замрыце ў паўсьпеве канаючых зыкаў душы мае...

Няхай запануе пакой сьмерці ў глыбі быту майго, вялы пакой цярпеньняў, жаданьняў, злобных сноў...

О, не, гарыць душа мая!..

Раздзірае яе вобраз вялікае руіны Бацькаўшчыны, гора братоў маіх...

Яшчэ ў апошнім крыку-сьпеве сконаў трывожнае сэрца маё,—мо гэты крык сьмерці пародзіць думку быцьця,—бо няма табе пакою, няма пакою табе...





*Сяргей Полуян.*

## Хрыстос Уваскрос.

...Хрыстос Уваскрос!

З вялікім сьвятам адвечнага аджыўленьня віншую цябе Вялікі Беларускі Народ!

Гэтай вялікай ночы страсі з сябе ўсю пагарду, увесь бруд, каторым аблепліваюць цябе ад вякоў. Чыста вымыйся, прыбярыся ў найлепшую вопратку, каб хоць на адзін дзень стаў ты роўны з усімі, і ідзі туды, дзе пачуеш гэтыя вялікія словы:

— Хрыстос Уваскрос!

Услухайся ў іх. Якая вялікая сіла, які ўсе ажыўляючы зьмест захаваны ў іх. Ці ні чуеш як радасьцю падзеі, радасьцы скорага ўваскрэсеньня вее на цябе ад гэтых слоў.

— Хрыстос Уваскрос!

Над Ім здзекаваліся. Яго білі па твары, сьцябалі бізуном. Плявалі на Яго. Кпілі з Яго. У канцы распялі і распятага не пераставалі мучыць. Спечаныя смагай вусны звільжывалі воцтам і жоўцю. Ён памёр на крыжу паміж двох разбойнікаў. Але усе-ж-ткі:

— Хрыстос Уваскрос!

Уваскрос Хрыстос, і крыж,—раней знак пагарды і сораму,—зрабіўся Сьвятыняй усяго сьвету. Мукі Хрыстовы змылі з яго. І што году вялікай вясеньняй ночы тысячы цэркваў і касьцёлаў сьвецяцца агнямі сьвечак, ліецца радасны пераклік званоў, крыж падымаецца над мільёнамі схіленых галоў і ў паветры носіцца радасны шэпт.

— Хрыстос Уваскрос!

Што гавораць табе званы, беларускі народ? Ці ня віншуюць яны цябе яшчэ і з тваім уласным вялікім сьвятам. Скора-ж і ты ўваскрэснеш! Ад вякоў пагарджалі табой, тваей мовай; ад вякоў мелі цябе, за быдла, годнае толькі на цяжкую, надсільную работу. Не давалі табе расьці і разьвівацца. Воцтам чужой культуры звільжалі твае спечаныя смагай сьвету вусны. Лепшых тваіх сыноў адрывалі ад цябе прымушалі іх зрабіцца здраднікамі. А цяпер пытаюцца імі, называюць іх сваімі. І яны такі іхнія.

А хіба-ж яны ня любілі цябе? Хіба лепшы жар свайго сэрца афяравалі яны не табе? А дзе яны?

Іх няма, з табой з самага малку адарвалі ад роднай глебы, атруцілі здрадай. І іх, тваіх дзяцей, маюць за зброю проці цябе.

Цябе катавалі. Ты цярпеў мукі, але не памёр. Глыбока, глыбока ты захаваў сваю душу.

Хрыстос быў з табой у тваіх муках, і Ён разам з табой цярпеў іх. Колькі разоў распіналі Яго разам з табой! Больш разоў, чым ёсьць пясчынак на дне мора! Але кожнага году на ўсей Беларускай зямлі разносіцца клік:

— Хрыстос Уваскрос!

...І ты ўваскрэсьнеш, мой родны краю. Скінеш з шыі ярмо адвечнага гора і нуды.

Дагэтуль мы плачам, дагэтуль мы стогнем,
Адвечных ня можам пазбыцися сьлёз...

Ты ўжо перастанеш плакаць. Ты падняў свой твар, з надзеяй ловіш зыкі званоў:

„Бом! бом!., Прачыхайся ад сна Беларусь! Годзі стагнаць ды жаліцца: жальба нічога ня дасьць табе. Уставай! Ідзі будаваць зруйнаваную бацькаўшчыну!

Наперад да шчасьця! Хай злое ўсё дрогне,
Вясна ўжо на сьвеце — Хрыстос Уваскрос!“

Я бачу, як сьвятлее твой твар, мой родны краю! І поўны сілы і веры, я крычу на ўсю моц тваім нівам, лесам і балотам, тваім панурым вёскам, тваім пакрыўджаным сыном:

— З вялікім сьвятам віншую! З вялікім сьвятам, Вялікі Беларускі Народ!

— Хрыстос Уваскрос.



# Папулярная веда.

*Б. А.*

## Падзел зямлі у Заходняй Беларусі.

Французская рэвалюцыя, якая адбылася каля паўтары сотні гадоў таму назад, прынясла з сабой, раней ці пазьней, рэалізацыю лібэральных лёзунгаў: роўнасьці ўсіх станаў, асабістай вольнасьці інш. Лёзунгі французскай рэвалюцыі ў нас на Беларусі і ў Расеі найпазьней пачалі рэалізавацца, бо наагул новачасная цывілізацыя і культура ідзець з Захаду на Ўсход. Тады, калі ў заходня-эўропэйскіх дзяржавах ужо спатыкаем рэспубліканскі лад, на Ўсходзе пануе жорсткі манархізм з крэпасным правам (паншчынай). Яшчэ толькі ў палове мінулага сталецьця (ў 1861 годзе 19 лютага) быў скасаваны прыгон у б. царскай імпэрыі, г. зн. і на Беларусі. Скасаваньне прыгону зьяўляецца першым крокам на шляху да рэалізацыі лібэральных лёзунгаў, пасьле якога мусілі наступіць далейшыя здабычы прыгнечаных станаў: сялян і работнікаў наагул і прыгнечаных нацыянальнасьцяў паасобку. Новыя здабычы прынясла расейская рэвалюцыя 1905 г. Але гэта яшчэ ня было ўсё. Толькі Лютавая Рэвалюцыя 1917 году прынясла поўную рэалізацыю лібэральных лёзунгаў. Пасьля гэтай рэвалюцыі ня толькі наступіла поўная роўнасьць станаў, (скасаваньне рожных становых і рэлігійных прывілеяў) г. зн. здабыча правоў прыгнечанымі станамі — сялянствам і работнікамі; паасобныя народы маглі выяўляць свае правы на самаазначэньне. Праўда, гэтая парэвалюцыйная вольнасьць ня ўсюды засталася не абмяжаванай, бо ў першаю чаргу кастрычнікавая рэвалюцыя спыніла ў Р.С.Ф.С.Р. вольнасьць і завяла вастрэйшы дэспатычны лад, чымся істнаваў за царскіх урадаў, а ў іншых частаках б. імпэрыі, што не папалі пад радавую ўладу, так сама былі ўведзены тыя ці іншыя абмежаваньні здабычаў лютавай расейскай рэвалюцыі. Аднак, наагул бяручы, у гэтых частках пераважна засталіся фармальна нескасаванымі лібэральныя здабычы аб вольнасьці асабістай, роўнасьці станаў і на‘т скасаваньне зусім прывілеяваных станаў.

Народы, якія дайшлі да незалежнасьці і ў якіх пануе дэмакратычная ўлада і ўлада працоўных вёскі і места, затрымалі пры сабе ўсе рэвалюцыйныя здабычы. Беларусы,

што ў Заходняй Беларусі, хаця фармальна і маюць пэўную вольнасьць, аднак фактычна ў жыцьці іхная вольнасьць нарушаецца сільнейшым і эканамічна і асьветна панам і ўрадоўцам. Гэткі стан рэчаў памагае пакрыўджанаму беларускаму сялянству шукаць дарог да здабыцьця поўных правоў грамадзкіх і вызваленьня з церазьмернай гаспадарчай галіты. Сьведама і інстынктоўна прыходзіць думка аб устаноўнай грамаце ад 25-сакавіка, рэалізацыя якой толькі магла радыкальна зьмяніць палажэньне ўсяго беларускага сялянства.

Пакуль наступіць рэалізацыя нашага Ідэалу мы, як, пераважна у сваей масе, сялянскі народ, павінны падумаць аб поўнай вольнасьці, і аб варстаце працы для сялянства, аб зямлі для сялян. Трэба сабе ўявіць, сколькі у Заходняй Беларусі ёсьць зямлі і сколькі, яе атрымае беззямельны і малазямельны селянін пры падзеле зямлі.

ТАБЛІЦА 1*).

## Вялікая зямельная ўласнасьць у Заходняй Беларусі ў 1921/23 г.

Абшар у тысячах ha.

| Ваяводзтва | Вялікая ўласнасьць разам | | Дзяржаўная | | Касьцельная | Самаўрадовая і іншая публічная | Прыватная |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Агулам | У гэтым лясы | Агулам | У гэтым лясы | | | |
| 1 Беластоцк. **) | 1013,5 | 652,1 | 617,9 | 527,5 | 0,9 | — | 394,4 |
| 2 Віленскае . . | 1081,9 | 463,8 | 254,9 | 194,4 | 4,0 | 0,6 | 822,3 |
| 3 Наваградзкае. | 840,0 | 440,2 | 170,7 | 136,5 | 1,4 | — | 668,0 |
| 4 Палескае . . | 2088,0 | 1005,9 | 422,1 | 261,7 | 7,9 | — | 1658,0 |
| Разам . . | 5023,4 | 2572,0 | 1465,6 | 1120,1 | 14,2 | 0,6 | 2542,7 |

*) Усе табліцы паводле даных польскага Статыстычнага Ураду.

**) Беластоцкае ваяводзтва ўзята разам з беларускімі і польскімі паветамі.



ТАБЛІЦА 2.

## Вялікая прыватная ўласнасьць (ад 50 ha). Зямельныя ўжыткі.

Абшар у тысячах ha.

| Ваяводзтва | Агулам | Орная зямля | Сенажаці | Пасьвішчы | Лясы | Іншыя прыдатныя зямлі | Непрыдатная зямля |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 Беластоцкае . | 395 | 166 | 43 | 26 | 124 | 13 | 23 |
| 2 Віленскае. . | 822 | 196 | 83 | 73 | 269 | 45 | 156 |
| 3 Новаградзкае | 668 | 188 | 84 | 42 | 294 | 14 | 46 |
| 4 Палескае . . | 1658 | 147 | 238 | 71 | 744 | 28 | 430 |
| Разам . . | 2543 | 687 | 448 | 212 | 1431 | 100 | 556 |

З табліцы 1 і 4-тай бачым, што агулам у чатырох ваяводзтвах Беластоцкім, Віленскім і Палескімналічваецца 8138,3 тысяч ha (гэктараў) зямлі разам з зямлёй, што пад лесам, пры гэтым вялікая зямельная ўласнасьць дзяржаўная і прыватная займае 5023,4 тысячы ha, а дробная сялянская і фальварковая 3114,9 тысячы ha. Калі ад агульнага ліку вялікай зямельнай ўласнасьці адымем лік зямлі, што знаходзіцца пад лесам, дык астанецца толькі 2451,4 тысячы ha прыватнай і дзяржаўнай вялікай зямельнай уласнасьці. Вось гэтая сума, каля 2 з паловаю мільёнаў гэктараў і ёсьць тым запасам зямлі, які знаходзіцца ў Заходняй Беларусі, і які можа быць прадметам парцэляцыі сярод малазямельных і бяззямельных сялян.

Каб здаць сабе справу, на сколькі гэты запас зямлі можа задаволіць патрэбы мясцовага жыхарства, трэба разгледзіць добра стан цяперашняга земляўладаньня сярод дробнай зямельнай уласнасьці, пераважна сялянскай.

ТАБЛІЦА 3.

## Дробная зямельная ўласнасьць.

**Лік гаспадарак паводле вялічыні на аснове сьпісу 1921 г.**

**ў тысячах ha.**

| Ваяводзтва | Агулам дробных гаспадарак | | Ніжэй 2 ha | | Ад 2 да 5 ha | | Ад 5 да 20 ha | | Ад 20 да 100 ha | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Агулам | % усіх гаспадарак | Агулам | % усіх гаспадарак | Агулам | % усіх гаспадарак | Агулам | % усіх гаспадарак | Агулам | % усіх гаспадарак |
| 1. Беластоцкае . . | 182,2 | 99,6 | 28,1 | 15.4 | 47,3 | 25,8 | 97,4 | 53,2 | 9,5 | 5,2 |
| 2. Віленскае . . . | 79,8 | 99,1 | 9,9 | 12,3 | 25,7 | 31,9 | 38,8 | 48,2 | 5,4 | 6,7 |
| 3. Наваградзкае . . | 132,2 | 99,3 | 17,5 | 13,2 | 51,1 | 28,4 | 58,6 | 44,0 | 4.9 | 3,7 |
| 4. Палескае. . . . | 141,3 | 99,5 | 20,4 | 14,4 | 47,3 | 33,3 | 66,1 | 46,5 | 7,5 | 5,3 |
| Разам . . | 535,5 | | 76,9 | | 171,4 | | 260,9 | | 27,4 | 20,9 |



ТАБЛІЦА 4.

## Дробная зямельная ўласнасьць.

**Земляробскія грунты на аснове сьпісу 1921 г.**

**у тысячах ha.**

| Ваяводзтва | Разам дробных гаспадарак | | Ніжэй 2 ha | | 2 — 5 ha | | 5 — 20 ha | | 20 — 100 ha | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Тысячы ha | % агульнага абшару | Тысячы ha | % агульнага абшару | Тысячы ha | % агульнага абшару | Тысячы ha | % агульнага абшару | Тысячы ha | % агульнага абшару |
| 1. Беластоцкае. . . | 1117,5 | 83,0 | 21,1 | 1,5 | 141,1 | 10,5 | 743,5 | 55,3 | 211,7 | 15,7 |
| 2. Віленскае . . . | 472,5 | 77,3 | 8,0 | 1,3 | 70,8 | 11,6 | 266,3 | 43,6 | 127,3 | 20,8 |
| 3. Наваградзкае . . | 680,7 | 75,5 | 16,0 | 1,8 | 147,3 | 16,4 | 400,3 | 44,5 | 117,2 | 13,0 |
| 4. Палескае. . . . | 844,2 | 71,0 | 19,7 | 1,6 | 146,8 | 12,4 | 509,2 | 42,8 | 168,5 | 14,2 |
| Разам. . | 3114,9 | | 64,8 | | 506,0 | | 1919,3 | | 624,7 | |

З табліцы 3 і 4 бачым, што ўся дробная зямельная ўласнасьць у ліку 3114,9 тысячы ha распадаецца на 535,5 тысячы гаспадарак, г. зн. у сярэднім на кожную гаспадарку прыпадае каля 5 з палавінаю гэктараў, аднак, ёсьць гаспадаркі, якія абымаюць ад 20 да 100 ha і ёсьць гаспадаркі, якія маюць ніжэй 1 ha кожная.

Ёсьць ведама, пры парцэляцыі зямлі трэба браць пад увагу ў першаю чаргу гаспадаркі найбяднейшыя, якія маюць найменш зямлі, і беззямельных парабкоў, якім таксама належыцца зямля. У першую чаргу павінна быць дана зямля гаспадарам, што маюць ніжэй 2 ha і якія маюць ад 2 да 5 гэктараў.

З табліцы 3 бачым, што ў Заходняй Беларусі ёсьць 76,9 тысячы гаспадарак, што маюць менш 2 гэктараў і 171,4 тысяч гаспадарак, што маюць ад 2 да 5 гэктараў зямлі, г. зн. ёсьць 248,3 тысячы малазямельных гаспадароў. Усім гэтым гаспадаром у першую чаргу павінна быць надзелена зямля. Не прыймаючы на‘т пад увагу беззямельных парабкоў, якія ў вышэй пададзеных лічбах не прыняты пад увагу, і калі ўвесь запас зямлі ў Заходняй Беларусі, уліку 245,4 тысячы гэктараў падзелім сярод толькі малазямельных, дык кожны малазямельны гаспадар можа атрымаць толькі ня больш 10 гэктараў. Дзесяць гэктараў зямлі на кожную гаспадарку—гэта вельмі скромны лік зямлі, які ледзь можа ўтрымаць сям'ю. гаспадара. А дзе-ж узяць зямлі для беззямельных і дзе ўзяць зямлі для гаспадарак, якія маюць трохі больш за 5 гэктараў, а ня маюць 10 ha?! Ці пры такіх абставінах можа быць гутарка аб раздаваньні зямлі прышлым элемэнтам асаднікам, ці каляністым?!

З вышэй зьмешчаных табліц, а так сама з аблічэньня бачым, што ў Заходняй Беларусі няма лішняе зямлі. Той запас зямлі, які яшчэ не распарцаляваны і знаходзіцца ў руках вялікай зямельнай уласнасьці, ня толькі ня можа ісьці пад асадніцтва ці пад калянізацыю, але не хапае, каб задаволіць патрэбы мясцовага беларускага сялянства. Паводле даных з 1921 году ў Заходняй Беларусі налічваецца 248,3 тысячы малазямельных гаспадарак, апрача таго маем 260,9 тысяч гаспадарак, якія маюць толькі ў сярэднім каля 7 гэктараў (Табліца 3 і 4) г. зн. таксама малазямельных, дык агулам усяго малазямельных гаспадарак налічваецца 509 тысяч. Калі яшчэ прыняць пад увагу беззямельных парабкаў і тое, што за апошнія 6 гадоў (ад сьпіску 1921 г. да 1927 г.) шмат з вышэй паданых гаспадарак распалася на дзьве, а то і больш самастойных гаспадарак, дзякуючы прыросту насяленьня, дык яшчэ больш стане ясным, што ў Заходняй Беларусі не хапае зямлі, каб задаволіць усе патрэбы на‘т мясцовага сялянскага жыхарства.



З усяго бачым, што беларускае сялянства адчувае ня звычайна востры зямельны голад, бо ёсьць 76 тысяч гаспадарак, якія маюць у сярэднім менш 1 гэктар зямлі і 171 тысяча гаспадарак, якія маюць у сярэднім толькі каля 3 гэктараў. Пытаньне аб надзеле зямлёй сялянства, ёсьць ня толькі насьпеўшым, але ўжо перасьпеўшым, бо сотні тысяч сем'яў марнуюць свае вытворскія сілы і прападаюць у страшэннай галіце. Увесь запас зямлі павінен быць падзеляны толькі сярод адвечных жыхараў нашага краю— малазямельных і беззямельных сялян Беларусаў.



*Др. мэд. Б. Туронак.*

# Аб сухотах.

Усе цывілізаваныя народы маюць цэлыя дзесяткі, адумысловых, пэрыядычных часопісаў, выдаюцца кніжкі і брашуры, якія маюць на мэце барацьбу з сухотамі; паўстаюць дзяржаўныя і прыватныя ўстановы, усё дзеля гэтае-ж мэты. Гэта паказвае, як вялікім ворагам чалавецтва зьяўляюцца сухоты. У Нямеччыне што год памірала 100.000 ч., з якіх на сухоты прыблізна 90 проц. У іншых краёх гэтая цыфра ёсьць большая.

Каб хоць з большага, пазнаёміць нашых чытачоў з гэтаю хваробаю, без пары забіраючую многа ахвяраў сярод нашага сялянства, я даю тут кароткую характарыстыку гэтае хваробы. Найстрашнейшы вораг робіцца менш небясьпечным, калі яго добра пазнаецца.

Сухоты распаўсюджаны па ўсім сьвеце і, насколькі ведама з гісторыі, спатыкаюцца з гэтаю хваробаю перад двумя тысячамі гадоў.

Сухоты ня ёсьць, так-жа, хваробай выключна людзей. Знаная яна ёсьць у кароў, коз, авечак, сьвіней, каней, сабак і катоў.

*Бактэрыя сухотаў.* У 1882 г. нямецкі лекар Робэрт Кох выкрыў і апісаў бактэрыю сухотаў і гэтым палажыў канец усім тэорыям і дагадкам аб прычыне сухотаў. Выкрыў ён гэтую бактэрыю ў флегме сухотнікаў, а ў наступных гадох знайшлі яе пры ўсіх тых хваробах скуры, касьці, нэрак і інш., якія цяпер залічаюцца да сухотаў.

Бактэрыя сухотаў, праз шкло павялічаючае ў 500—800 разоў выглядае як палачка троху скрыўленая, бываюць яны часам злучаныя па дзьве і тры як сучкі.

Каб пабачыць гэтую бактэрыю, трэба флегму расцёрці на шкло і атпаведна зафарбаваць яе.

Сухоты людзкія могуць заразіць ня толькі чалавека, але і малпу, сьвінку марскую і нават малых цялят. Таксама сухоты кароўныя могуць заразіць дзяцей.

*Спосаб заражэньня.* Якім-жа спосабам бактэрыі сухотаў трапляюць у людзкі арганізм? Гэтым навука займалася дужа многа. Перш думалі, што бактэры трапляюць у арганізм толькі праз дыханьне, бо ў людзей найбольш бачылі сухоты лёгкіх.

Каб пераканацца ў гэтым, бралі морскіх сьвінак і прымушалі іх дыхаць паветрам, у якім штучна былі распыленыя бактэры; сьвінкі падыхаўшы такім паветрам заўсёды даставалі сухотаў. Падобна-ж ёсьць і з чалавекам; хворы на сухоты кашляе, а падчас кашлю слюз распыляецца ў паветра на маленечкія кулькі, у якіх бываюць і бактэры. Здаровы чалавек удыхаючы гэтыя кулькі з бактэрыямі—заражаецца сухотамі. Калі сухотнік плюе на зямлю, флегма высыхае, як пыл падымаецца ў паветра і зтуль можа трапіць у лёгкія. Апроч з паветрам падчас дыханьня, сухоты могуць трапіць у арганізм і з ежай, неперагатаванага малака кароў хворых на сухоты.

Робленыя досьледы выказалі аднак, што дужа рэдка ў дзяцей знаходзілі сухоты кароўнага тыпу, ня гледзячы на тое, што карміліся яны малаком ад кароў, у якіх знойдзеныя былі сухоты.

Дасюль застаецца пэўнік, што найгалаўнейшай прычынаю сухотаў ёсьць усё акружаючае хворага чалавека. Варотамі-ж, праз якія трапляюць бактэры ў арганізм, ёсьць рот, мігдалкі і бронхі.

Рот з мігдалкамі ёсьць супольным пачаткам органу дыханьня і травеньня, дзеля гэтага ў ім могуць затрымывацца бактэры пахадзячыя, як з паветра так і з ежай. Мы знаем, што гручолы шыйныя прыбранхіяльныя, а так-жа і тыя, што знаходзяцца каля кішок, часта бываюць заражаныя, тады калі ў іншых частках арганізму няма следу сухотаў. Дзеля гэтага гручолы можна ўважаць за пагранічную страж у арганізме, якія папаўшыя ў наш арганізм заразкі затрымоўвываюць і нішчаць.

Каб лепш зразумець гэтую роль гручолаў, затрымаемся коратка над будоваю гручолаў і лімфатычных начыньняў.

Крывяныя начыньні, праз якія разносіцца пажыва для тканяў, у канцы разхіляюцца на капіляры г. з. дужа тонкія начынкі; праз іх сьценкі пранікае вада і пажыўныя



часткі да паасобных каморак арганізму. Пажыўныя часткі астаюцца ў каморках, а вада забраўшы зужытыя праз каморку адпадкі, пакідае яе, даючы месца новаму дапльву, але не вяртаецца ў кравяное начыньне, а трапляе ў так зв. начыньне лімфатычнае, у якім плыве дужа паволі. Лімфатычныя начыньні дужа вузкія з ценкімі сьценкамі; у арганізме іх дужа многа. Цеч, якая праз іх плыве, называецца лімфаю і мае колер сыраваткі. Начыньні гэтыя лучацца ў грубейшыя і заўсёды на месце злучэньня ёсьць гручолы лімфатычныя. Гэта губчатыя целы аточаныя балонкай. З аднаго боку ў гручол упадаюць дробныя начынькі лімфатычныя, а з другога выходзе грубейшае начыне. Гручол, такім спосабам, зьяўляецца фільтрам, праз які фільтруецца лімфа, пры гэтым ткань гручола вылаўлівае з лімфы, апрача іншых чыннасьцяў, часткі сталыя, а з імі і ўсялякія бактэры выпаласканыя вадою з каморак арганізму.

Прыходзіцца бачыць, што калі мы зранім, палец, то часам гручолы пад пахаю апухаюць. Гэта значыць, што бактэры трапілі ў лімфу, а гручолы ня пусьцілі іх далей. З тае-ж прычыны павялічываюцца і баляць гручолы ў пахвіне пры заражэньні раны на назе, або пад пашчэнкаю, калі забаліць папсуты зуб, або наступе запаленьне мігдалкаў. Каб ня гэтое збавеннае устройства ў арганізме, жыцьцё нашае заўсёды віселаб на валаску. Гручолы вядуць заўзятую барацьбу з бактэрыямі і перамагаючы недапускаюць да заражэньня крыві.

Калі-ж бактэры пападаюцца дужа зьядлівыя, або іх многа, то гручолы гінуць. Ткань іх перараджаецца і разпадаецца. Бывае, што працэс распаданьня гручола ідзе дужа вольна, тады абаронныя сілы арганізму ідуць на помач і гручол такі перараджаецца ў рубец з цьвёрдай ткані (папулярна званай „дзікім мясам“). Калі-ж распадовы працэс ідзе шыбка, то гручол перараджаецца ў масу-гной, які можа прабіць балонку гручола і выліцца або на паверх цела, або ў якую іншую яму цела, як у яму брушную, грудную, а здараецца, што, праеўшы сьценку, гной трапляе ў артэрыю, або жылы і разносіць па ўсім арганізьме.

Зразумелым становіцца цяпер, зачым найчасьцей сухоты на пачатку праяўляюцца, як сухоты гручолаў.

Гэтая форма сухотаў у дзіцячыя гады ёсьць найбольш знаная. Гручолы пры гэтай хваробе перажываюць усе вышэй апісаныя адмены; ад нязначнага павялічаньня, аж да аграмадных гнойных гузоў. Гручаловая форма сухотаў даволі лёгка паддаецца лячэньню, яны выгаіваюцца і толькі рубцы застаюцца і сьведчаць аб перабытым цярпеньні. Аднак ня рэдка бывае і так, што хворыя гручолы становяцца расаднікамі хваробы, бо з іх бактэры могуць трап-

ляць у кроў дарогаю далейшых лімфатычных начыньняў, якія ўліваюцца ў жылы, а жыльная кроў, як ведама, з правага сэрца пасылаецца да ачысткі ў лёгкія, дзе бактэрыі асядаюць. Могуць бактэрыі з грудолаў перайсьці і на суседнія органы, праядаючы акружаючыя іх ткані.

*Лёгкія* — гэта вялікі орган, выпаўняючы ўсю грудную клетку. Яны акружаныя моцнай балонкай, якая называецца плеўрай. Маса лёгачнай ткані складаецца з пузыркоў нападобнасьць губкі гумовай. Паветра, удыханае чалавекам, праз дыхальнае горла, бронхі, якія дзеляцца на што-раз то цянейшыя, трапляе ў канцы ў гэтыя пузыркі. Пузыркі гэтыя аплеценыя дробнымі крывянымі начынькамі—капілярамі лімфатычнымі, якія лучацца у грубейшыя, ідуць удоўж бронхаў, пераходзячы праз свае грудолы пры злучэньнях. У гэтых грудолах „прыбронхіяльных" найчасьцей пачынаюцца сухоты лёгкіх.

Прасьвятляючы Рэндгенам заўсёды можна сьцвердзіць павялічэньне гэтых грудолаў, якія могуць быць нават ужо і вылечанымі. Бактэры сухотаў асеўшы ў грудоле лёгачнай ткані, або дзе ў іншым месцы, прыводзяць да раскладу акружаючай ткані. Гэтая, зьмененая сухотамі, ткань-грудок у кожным органе выглядае аднолькава—як зерня проса, па вялічыні і коляры. Грудкі гэтыя могуць, што найчасьцей бывае, лучыцца між ссбой у скопішчы грудкаў. У сярэдзіне іх ткань размякчаецца на масу, якая мае выгляд рэдкага тварага. Гэтая маса можа выкідацца з лёгкіх падчас кашлю, застаўляючы за сабой яму.

Калі-ж маса нікуды ня можа быць выкінутая, то яна гусьцее, кругом яе сабіраецца вапна з суседніх тканяў і абрастае кругом рубцовай тканьню. Гэтак адбываецца гаеньне сухотных грудкоў, праз вапненьне, невялічкія грудкі, проста прарастаюцца рубцоваю тканьню. Калі ў лёгкім сабярэцца многа такіх рубцоў, то зьяўляецца ўдушша, бо яны сьцягваюць здаровую лёгачную ткань і гэтым зьмяншаюць абыймо лёгкага. Сухоты з лёгкіх могуць перайсьці на балонку, акружаючую лёгкія—плеўру і тагды вызываюць выцек у грудную яму.

У дзяцей найчасьцей спатыкаюцца сухоты грудолаў шыйных, прыбронхіяльных, у брушной яме, так-жа часам з выцекам робячым вялікае бруха; далей, сухоты скуры касьцей, суставаў і дужа небяспечныя сухоты мазгавых балонак. У ўзрослых, прадусім, пераважаюць сухоты лёгкіх, кішок, радзей бываюць—скуры, касьцей, суставаў, вушэй і інш. органаў. Скрыфулічныя дзеці, гэта ня што іншае, як заражаныя даволі лёгкаю формаю сухотаў.

Арганізм людзкі бароніцца ад сухотаў, вытвараючы кругом грудка рубцовы вал абаронны; паўставаньне гэтага валу ёсьць выгаеньнем, або затрыманьнем хваробы на даўжэйшы, ці карацейшы час. Гэты вал можа прарывацца і тады будуецца далей новы і г. д. Пакуль арганізм здольны яшчэ вытвараць гэтыя валы, датуль чалавек, з палепшаньнямі і пагоршаньнямі жыве; гэта змаганьне можа цягнуцца доўгія гады. Бывае аднак, што хвароба у іншы зусім спосаб можа пакончыць з чалавекам. Бо разлажыўшыяся масы могуць прабіць сьценку кравянога начыньня, маса выліваецца ў кроў, якая разносе мільёны бактэрыяў па ўсім арганізме. Бактэры асядаюць у розных частках органаў і самі вытвараюць, размнажаючыся, грудкі. Хворы дастае высокае гарачкі, траце прытомнасьць і праз некалькі дзён, найвышэй тыдняў, памірае. З дзяцьмі гэта здараецца часьцей, як з дарослымі.



Сухоты могуць праяўляцца пад усялякімі відамі, залежна ад тато, які орган імі заняты, як хвароба пашыраецца, ад зьядлівасьці бактэрыяў і ад абароннае здольнасьці арганізму. Аграмадны лік хваробаў унутранных, хірургічных, дзяцячых, вушных, скурных і інш. у сваей пачаткавай прычыне маюць сухоты.

Сягоньня выясьнена, што ня толькі выразныя зьмены арганізму, але і ўсялякія недакладнасьці адхіленьні ад нормы ў будоўлі цела людзкога, ёсьць наступкам заражэньня сухотамі ў дзіцячыя гады, у гады росту і развіцьця чалавека.

Слабая будоўля касьцей, вузкая і доўгая грудная клетка, дужа доўгія косьці ў руках і нагах прыводзячыя да высокага росту пры слабай будоўлі цела, даўней лічылі за прызнакі склоннасьці да сухотаў, цяпер-жа выясьнена, што асобы з такімі азнакамі ў дзіцячыя гады былі ўжо заражаныя сухотамі, хоць пасьля мо' і вылячыліся.

Асаблівою ўласнасьцьцю перабыўшых, або маючых сухоты ёсьць буйнасьць валасоў на галаве, бравях і павеках пры дужа далікатнай цэры твару. Другая рэч, што гэтыя асобы могуць быць вылечынымі. Калі прымем пад увагу, што агульна прыняты ідэал пекнае асобы, найчасьцей уважаецца, калі мае высокі ўзрост, пры пэўнай шчуплясьці; буйную чупрыну, вялікія бровы і дэлікатную цэру, то пабачым, што ідэал гэты стаіць дужа блізка да тыпу сухотніка. Пад гэтым паглядам, па несьвядомасьці, бываюць найвялікшыя жыцьцёвыя трагэдыі.

З усіх формаў сухот, найнебяспечнейшымі, па заразьлівасьці, ёсьць сухоты лёгкіх. Чалавек з хворымі лёгкімі выплёвывае флегму з бактэрыямі, якія рознымі дарогамі могуць трапіць у арганізм здаровага і заразіць яго. Бактэры заўсёды бываюць у роце хворага і дзеля гэтага цалаваньне з ім, ужываньне аднэй лыжкі, ручніка—можа быць прычынай заражэньня. Пасьцель хворага, кашуля, ручнік, вусы, барада, валасы на галаве, рукі, словам усё з чым

безпасярэднія хворы стыкаецца, ёсьць заражана бактэрыямі. Зразумелым цяпер становіцца, як многа спасобнасьцяў мае сухотнік да заражэньня іншых, асабліва сваіх хатніх. Бацька, або маці сухотнікі, чула цалуюць сваіх дзяцей, ня ведаючы, або ня думаючы аб тым, якую крыўду ім робяць. Адгэтуль уцёрлася пераканаяньне, што сухоты гэта хвароба ўроджаная. Не! Дзеці родзяцца здаровымі, і заўсёды бываюць заражанымі праз бацькоў, або блізкіх. Бо дзеці сухотнікаў, гадаваныя здалёка ад іх—сухотаў ня маюць.

Барацьба з сухотамі—гэта абарона дзяцей ад заражэньня! Заражэньне дарослых адходзе на другі плён. Цяпер даведзена, што амаль кожны сухотнік заразіўся ў дзяцінстве і залежна ад варункаў, у якіх ён жыў, а так-жа ад зьядлівасьці бактэрыяў, ён жыве даўжэй ці карацей.

Даўней калі мэдыцына ня была так выдасканаленая ў пазнаваньні сухотаў, думалі, што сухотнік можа жыць найбольш колькінадцаць гадоў, а вылячэньня блізу-што ня бывае, бо пазнавалі толькі цяжкія адкрытыя формы. І калі лекар сказаў, што данная асоба мае сухоты, то гэта чуць не раўнялася сьмертнаму прыгавару. Пасьля адкрыцьця прычыны сухотаў—бактэры, пазнаваньне сухотаў дужа выдасканалілася. Аказалася, што істнуюць ня злосныя, лагодныя формы сухотаў, якія даўней ішлі, пад назовам „катару лёгкіх“, катару „лёгачных вяршынаў“, або і зусім ня прымечаныя. Адкрыцьцё Рэндгена дало магчымасьць знаходзіць, у людзей зусім здаровых, зарубцованыя, звапненыя сухотныя зьмены ў лёгкіх. Гэта знача, што яны калісь хварэлі на сухоты ня ведаючы аб гэтым і вылячыліся. Гетыя спасьцярогі даюць зразумець, што хоць сухоты дужа распайсюджаныя, аднак процант лёгка хворых, якія зусім здаравеюць ёсьць вялікі, а процант такіх, якія пры выразных аб'явах сухотаў ня трацяць здольнасьці спаўняньня сваіх штодзенных абавязкаў, аграмадны. Бацькі з лёгкаю формаю сухотаў могуць мець здаровых дзяцей, калі абхадзіцца з імі асцярожна.

Аткрытыя сухоты лёгкіх ёсьць перашкодаю да жаніміства, бо яно заўседы пагаршае справу хваробную, а раджэньне дзяцей зьяўляецца сьмяротнай пагрозай матцы. Для замужніх, зусім усправядліўленным ёсьць высьцераганьне перад запладненьнем.

Людзі маючыя сухоты не павінны жаніцца, або выходзіць замуж. Тыя-ж, што мелі ды вылячыліся, перад жаніміствам заўсёды павінны парадзіцца лекара, ці можна ім гэта рабіць. Бывае, што лёгкая форма сухотаў, завастраецца пасьля жаніміства, не гаворачы ўжо аб кабеце родзячай дзяцей. Пры барацьбе з сухотамі, ёсьць вялікім заданьнем выкрываць лёгкія, пачатковыя нормы сухотаў



у моладзі. На пачатку сухотаў найбольш можна зрабіць у сэнсе лячэньня. Дзеля гэтага, пры малейшым падазрэньні, што дзіцё можа мець пачатак сухотаў, трэба неадкладна зьвяртацца да лекара і сьцісла застасавацца да яго рады.

Сярод нашага сялянства практыкуецца так, што да лекара зьвяртаюцца тады, калі ўжо прыходзяць канцы, а ў пачатку хваробы лекар мог-бы вылячыць.



# Грамадзкае жыцьцё

## А. Нацыянальная Культура.

*Я—ль.*

### Культурна-прасьветная праца ў Заходняй Беларусі.

У істнаваньні і разьвіцьці кожнага народу найгалаўнейшую роль адыгрывае культурна-прасьветны дзейнік. У нас на-жаль аж да сяньня палітычная праца апераджала культурную. На гэта зьвяртала няраз беларуская прэса—і гэта бязумоўна было ў нашай адраджэнскай пары зьявішчам ненармальным. Хуткае і нармальнае адраджэньне беларускага народу павінна адбівацца ўсебакова, як у кірунку палітычна-грамадзкім, так і ў кірунку культурна-прасьветным. Народ, стоячы высока культурна, хутчэй і лепш можа асягнуць мэты, да якіх імкнецца, хутчэй і лепш можа зарадзіць у сваім жыцьці, каб стварыць лепшую долю. Аб гэтым сьведчыць гісторыя іншых народаў і аб гэтым нам Беларусам трэба заўсёды памятаць. Праца культурная, праца прасьветная павінна для нас быць рэчай неабходнай у пары нашага адраджэньня.

Што-ж служыць за прадмет культурнай працы, і што ёсьць яе праявамі?

Перадусім справа школьная. Балючая і горкая яна для нас. Усякія натугі нашага грамадзянства, каб стварыць родную школу — жорстка зьністажаліся польскай уладай. Курс палітыкі польскіх урадаў, ня гледзячы якія яны былі—ці левая, ці правая—дый агулам адносіны польскага грамадзянства зводзяцца к таму, каб ня даць нам роднай школы. Каб больш-менш мець паняцьцё аб ім, пазволю падаць тут некаторыя даныя.

Пачынаючы ад лістапада месяца 1920 г., стараньнем беларускага сьведамага грамадзянства, да 1923 г. было адкрыта на абшарах Заходняй Беларусі больш як 400 беларускіх пачатковых школаў. Блізу ўсе яны да гэтага-ж 1923 г. былі пазачыняны польскай уладай. Такі-ж лёс спаткаў і беларускія вучыцельскія сэмінарыі ў Барунах, Ашмянскага пав., і ў Сьвіслачы, Ваўкавыскага пав. Беларускія сярэднія школы—гімназіі ў Гарадку, Несьвіжы і Горадні, з прычыны благіх да іх адносінаў уладаў, мелі кароткі свой век і згаснулі. Існуючыя да-сяньня беларускія гімназіі ў Вільні, Клецку, Наваградку і Радашкавічах праз цэлы час свайго існаваньня вялі і вядуць цяжкае змаганьне за свой быт.

Пасьля выдачы ў 1924 г. (31.VII) т. зв. языковай уставы беларуская школьная акцыя аджыла. Пададзена было на 412 пачатковых школаў дэклярацыяў. Аднак і тут польскі ўрад стоячы цьвёрда на грунце палянізацыі беларускіх зямель, ніводнай з гэтых школаў не адчыніў. І так да сяньняшняга дня Беларусы пад Польшчай ня маюць можна сказаць урадавых пачатковых школаў, апроч некалькі нядаўна адчыненых.

Найгалаўнейшай установай, паклаўшай шмат працы ў мінулых гадах—у кіраваньні вядзеньня школьнай акцыяй—было Т-ва Беларускае Школы ў Вільні—як цэнтральная школьная ўстанова, —ды такія-ж Таварыствы мясцовага значэньня ў Радашкавічах і Наваградку. Закладзенае ў 1926 г. Т-ва Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры разам з Т-вамі Белар. Школы, ёсьць такімі ўстановамі, якія найболыш дбаюць і пашыраюць беларускую культуру і прасьвету. Пры гуртках гэтых установ, парасьсяваных шырока на правінцыі па мястэчках і вёсках, вядзецца арганізацыя беларускіх школаў, чытаньне рэфэратаў, газэт, кніжак,ладжаньне бібліятэк, чытальняў, арганізацыя драматычных сэкцыяў і хораў.

Наймагутнейшым спосабам разьвіцьця культурна-прасьветнай працы ёсьць друкаванае слова. Працай аб выданьні беларускага друкаванага слова найбольш рупілася Беларускае Выдавецкае Т-ва, выдавецтвы беларускіх газэтаў і розныя прыватныя выдавецтвы. Даволі шмат выдана кніг з галіны літэратуры, навукі, палітыкі, экономікі і інш.

Лік выданых кніг найлепш характарызуе ўзрост, ці занапад, беларускага выдавецкага руху. Найбольшае запатрэбаваньне беларускай кнігай ёсьць тады, калі творацца культурна-прасьветныя цэнтры... Так напрыклад да 1923 г. найбольш выдана кніг, асабліва падручнікаў, у 1921 г., бо аж 36. Тлумачыцца гэта тым, што ў гэтым годзе найбольш паўстала беларускіх школаў; яны найбольш патрабуюць друкаванага слова. У наступных пасьля 1921 г. — тут на-



ступае як-бы заняпад выдавецкага руху, бо з памяншэньнем ліку беларускіх школаў (закрываліся польскімі ўладамі) — памяншалася запатрабаваньне на кнігі. Пасьля 1923 г. залежна ад узросту беларускай сьведамасьці масаў—узрастае і выдавецкі рух.

Гурткі, твораныя за апошнія два гады (1926 і 27) рознымі палітычнымі беларускімі партыямі, а такжа гурткі беларускіх культурна-прасьветных т-ваў, як Т-ва Беларускай Школы, Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, Т-ва Прасьветы—былі толькі асяродкамі, якія найбольш патрабавалі і пашыралі беларускае друкаванае слова.

І так прыблізна лік выданых розных кніг на 1923 г. прадстаўляецца ў такіх цыфрах:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| У 1923 | годзе | выдана | 14 | кніг |
| „ 1924 | „ | „ | 28 | „ |
| „ 1925 | „ | „ | 14 | „ |
| „ 1926 | „ | „ | 33 | „ |
| „ 1927 | „ | (праз палова году) | 24 | кнігі. |

Кольпортажам (пашырэньнем) беларускіх кніжак і розных друкаў займаюцца беларускія кнігарні ў Вільні, якіх ёсьць у сучасны момант аж тры: 1) Кнігарня Т-ва „Пагоня“ (раней „Крыніца“), 2) Кнігарня Т-ва Беларускае Школы (ёсьць найстаршай з усіх беларускіх кнігарняў) і 3) Кнігарня Ст. Станкевіча і некаторыя белар. кнігарні на правінцыі.

Беларуская прэса, рознага палітычнага кірунку і літэратурныя часопісі, якіх ад 1920 года выходзіла даволі шмат, аддалі найвялікшыя ўслугі разьвіцьцю беларускай культуры, прасьветы і нацыянальнай сьведамасьці.

Немагчыма падаць назоў усіх беларускіх газэт, якія выходзілі ад 1921 г. Заняло-б гэта шмат месца. Шмат з іх мелі вельмі кароткі век, бо закрываліся ўладамі за некалькі тыдняў або месяцаў пасьля выхаду.

Успомню толькі аб найбольш доўгавечных:

У 1921 г. выходзілі „Наша Думка“, „Беларускія Ведамасьці“, „Беларускі Звон“ — кірыліцай і „Kryница“ — лацінкай.

У 1922 г.—„Kryница“, „Бел. Ведамасьці“ (на пачатку году да выезду рэдактара М. Гарэцкага) і „Беларускі Звон“;

Беларуская студэнская моладзь выдавала сваю газэту „Наш Шлях“, а гімназіяльная„ Маладое Жыцьцё“.

У 1923 г. выходзіла даволі шмат газэт, але бадай усе яны мелі вельмі кароткі век і адна адну зьмянялі. Праз даўжэйшы час выходзілі „Змаганьне“, „Наш Сьцяг“—кірыліцай і „Kryница“—лацінкай. Да паловы 1923 г. выходзілі часопісі студэнскай і вучнёўскай моладзі: „Наш Шлях“ і „Маладое Жыцьцё“.

У 1924 г. найдаўжэй выходзілі газэты „Krynica", „Сялянская Праўда", „Грамадзкі Голас" і „Голас Беларуса".

У 1925 г. — „Krynica", „Беларуская Доля", „Грамадзкі Голас" і пад канец году „Сялянская Ніва".

У 1926 г.— „Krynica", „Сялянская Ніва", „Жыцьцё Беларуса", „Беларуская Ніва" і „Бел. Слова".

„Студэнская Думка" — орган Белар. Студ. Саюзу— выходзіла ў 1925 і 1926 гадах.

У 1927 г. „Biełaruskaja Krynica", „Сялянская Ніва", „Наша Справа" (на пачатку году), „Наша Праўда" (пасьля „Нашай Справы") па 2—3 раза ў тыдзень, тыднёвікі: „Беларускі Дзень", „Беларускае Слова"—гражданкай.

Апроч гэтых палітычна-грамадзкіх часопісяў выходзяць вельмі паважныя журналы: 1) „Родныя Гоні"—месячнік літэратуры і культуры, 2) „Беларуская Культура", 3) „Саха"—месячнік сельскай гаспадаркі, „Заранка"—журнал для дзяцей. Вышаў так-жа адзін нумар месячніка літэратуры і мастацтва „Досьвіткі". З гумарыстычных часопісяў утрымалася дагэтуль „Маланка", хоць выходзе вельмі рэдка.

Магутным дзейнікам культурна-прасьветнай працы ёсьць тэатр. На жаль Беларусы ў мінулых гадах свайго тэатру ня мелі. Былі ня раз досыць паважныя спробы стварэньня сталага тэатру ў Вільні, ці аб'езднага, але ўсе гэтыя спробы не дасягнулі сваей мэты. Бязумоўна, віной гэтага—перадусім зьяўляецца матэрыяльная ўбогасьць Беларусаў і нядбальства нікаторых адпаведных да працы ў гэтым кірунку працаўнікоў. Беларуская драматычная праца найбольш вялася і цяпер вядзецца ў тых мясцох, дзе былі ці ёсьць беларускія культурна-прасьветныя установы, як гімназіі, школы, гурткі, хаты-чытальні і інш. На асаблівую ўвагу ў культурна-асьветнай дзейнасьці заслугуе заложаны у канцы 1926 году Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, аб якім гутарка ніжэй.

У пачатку лета 1927 г. Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры зарганізаваў аб'ездную драматычную трупу - Беларускі Народны Тэатр. Заслуга ў гэтым Інстытуту—вялікая.



# Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.

Статут Т-ва „Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры" быў апрацаваны і паданы ў міністэрства ўнутраных спраў у канцы 1925 г., а праз паўгода, 26-га мая 1926 г. быў зацьверджаны.



Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, заснаваны з мэтай падтрыманьня і развіцьця: а) краёвага земляробства ўваўсіх яго галінах разам з гародніцтвам, пчалярствам, і земляробскім промыслам; б) народнага промыслу, рамясла, тэхнікі і народнага мастацтва; с) духовай культуры, навукі і асьветы.



Адам Більдзюкевіч

Старшыня Цэнтральнага Ураду, ініцыятар і закладчык Інстытуту.

У імкненьні да зьдзейсьненьня сваіх мэтаў Інстытут:

I a) закладае і вядзе прыкладныя гаспадаркі, дасьледчыя станцыі, пасекі, варштаты, адкрывае склады земляробскіх прыладаў і гаспадарскіх вырабаў;

b) закладае майстроўні земляробскіх прыладаў, а такжа гаспадарчых і пасечных вытвараў;

c) праводзіць рольную мэльёрацыю;

d) паддзержавае ўправу дрэў і іншых расьцінаў карысных для земляробства;

e) арганізуе экскурсыі з мэтай пазнаньня гаспадаркі земляробскай, пчалаводзкай, гародніцкай, малочнай, людовага промыслу і тэхнікі;

f) высылае інструктароў, дае парады і прафэсыянальную помач, як з навуковага, так і матэр'яльнага боку;

g) сазывае зьезды сяброў;

h) арганізуе выстаўкі, конкурсы і выдае награды;

i) ладзіць лекцыі, курсы, гутаркі і дыскусыйныя зборкі, тэатральныя прадстаўленьні, канцэрты і інш.;

j) выдае і распаўсюджвае кніжкі, брашуры і часопісі, згодна з кругам дзейнасьці Т-ва;

k) закладае і ўтрымлівае чытальні, бібліатэкі, кнігарні, музэі і народныя дамы;

l) аткрывае і ўтрымлівае вышэйшыя навуковыя ўстановы, сярэднія і ніжэйшыя, а так-жа пачатковыя — як прафэсыянальныя, так і агульна-ўзгадаваўчыя, а гэтак-сама вучыцельскія курсы і сэмінарыі;

ł) праводзе навуковыя і статыстычныя досьледы, спробы і досьледы над паасобнымі пытаньнямі, згодна з кругам дзейнасьці Т-ва.

II a) Т-ва бярэ ўдзел у куплі і прадажы землябробскіх прадуктаў і прадметаў неабходных у гаспадарцы; пры закладаньні ўсялякіх каапэратыўных таварыстваў, як: спажывецкіх крамаў, касаў, танных пазычак, малачарняў, таварыстваў дзеля куплі і прадажы зямляробскіх прадуктаў для супольнага карыстаньня з землябробскіх машын, а так-жа з рэпрадуктараў; пры закладаньні пажарных камандаў і ўзаемных штраховак;

b) Т-ва інфармуе адпаведныя ўлады аб гаспадарчым стане, патрэбах эканамічных і культурных сваіх сяброў, а так-жа бароніць іх інтарэсаў натуры матэр'яльнай і культуральнай; арганізуе праўную помач сябром і дае праўныя парады, як просьбы і паданьні да ўладаў і прыватных інстытуцыяў;

c) Т-ва дае помач і пасрэдніцтва пры куплі і прадажы зямлі, быдла, землябробскіх пладоў, штучных гнаёў, машын, землябробскіх прыладаў, вырабаў людовага промыслу і інш.;

d) Т-ва стараецца аб крэдытах для землябробства, адбудовы гаспадарак, рамясла, на адбудову школаў, мэльёрацыю і інш.;

e) Т-ва выступае перад дзяржаўнымі ўладамі з прапазыцыямі і просьбамі, маючымі на мэце падняцьце стану гаспадаркі і культуры, а так-жа агульна краёвага багацьця.

f) арганізуе адпаведныя сэкцыі пры выканаўчых органах Т-ва.

Як бачым, Інстытут мае вельмі шырокае поле да працы і, ёсьць ведама, пры нашых абставінах жыцьця немагчыма прыступіць да выкананьня ўсіх задач, намечаных статутам.



Але Інстытут, хоць установа зусім маладая — у працягу свайго кароткага істнаваньня выявіў нязвычайную энэргію і здольнасьць у працы.

Да часу заснаваньня Інстытуту істнуючыя беларускія культурна-прасьветныя ўстановы ня мелі сталай лучнасьці з нашай вёскай і затым праца іх гуртавалася ў невялікім коле беларускай інтэлігенцыі, што знаходзілася ў цэнтрах беларускага руху: у Вільні, Навагрудку, Радашкавічах і інш. местах.



Д-р мэд. Бранілсаў Туронак

Старшыня ўраду Віленскага Аддзелу Інстытуту.

Інстытут першы сярод беларускіх установаў пачаў уцягваць у працу інтэлігенцыю, што знаходзіцца на мясцох і якая апынулася ў вельмі цяжкіх матэрыяльных абставінах. Там, дзе сярод такой інтэлігенцыі прабудзілася нацыянальнае пачуцьцё, закладаліся гурткі Інстытуту, якія сваёй працай захплівалі ўсё, што ёсьць лепшае на вёсцы. Інстытут, як культурна-гаспадарчая установа, у сваей працы паслугоўваецца толькі больш сьведамымі грамадзянамі, людзьмі, якія маюць даныя для культурнай працы, бо ёсьць ведама, культурную беларускую працу могуць вясьці толькі адпаведна ўзгадаваныя культурныя працаўнікі.

Праца Інстытуту спатыкае перашкоды, як з боку ўлады, якая зацягвае легалізацыю гурткоў Інстытуту, так і з прычыны недахвату матэрыяльных сродкаў. Інстытут абапёр працу на свае ўласныя сродкі, атрымліваныя з сяброўскіх складак, спэктакляў, зборак, выдавецтва і інш., а дзеля таго, што ўсё беларускае грамадзянства ў Заходняй Беларусі якраз знаходзіцца ў цяжкіх матэрыяльных абставінах, дык і праца Інстытуту вельмі шыбка не магла ісьці ўперад, а тым больш праца на гаспадарчым грунце. Аднак ня гледзячы на вельмі скромныя сродкі і іншыя перашкоды Інстытут спаўняў і спаўняе паступова некаторыя пункты свайго вельмі шырокага поля да працы, устаноўленага статутам.

Сярод заложаных каля 60 гурткоў ідзець пляновая культурна-прасьветная праца на вёсцы. Гурткі ладзяць

спэктаклі, лекцыі, выпісваюць беларускія газэты, закладаюць бібліатэчкі - чытальні (заложана ўжо каля 35 бібліатэчак), падгатаўляюць грунт для закладаньня коопэратываў і інш.

У справе беларускай асьветы, гурткі арганізуюць складаньне дэклярацыяў на ўрадавыя беларускія школы, дамагаюцца прыватных беларускіх школ. Ёсьць ведама, гэтая апошняя праца вельмі няўдзячна, бо ўлады тасуюць сыстэму палянізацыі беларускіх зямель. На ўсю Заходнюю Беларусь Інстытуту ўдалося дабіцца толькі дзьвух прыватных беларускіх школ (у Рудаўцы, Слонімскага пав., і ў Шаўлянах, Браслаўскага пав.).

Адным з найгалаўнейшых матываў улады пры недапусканьні да заснаваньня беларускае школы ёсьць ссылка на недахват кваліфікацыі сярод кандыдатаў прапанаваных на вучыцялёў беларускіх школ. Каб пазбавіцца гэтае быццам прычыны, Інстытут выступаў перад Віленскім Куратарам з заявамі, у якіх прасіў дазволу на прыватную вучыцельскую сэмінарыю і на вучыцельскія курсы. На вучыцельскія курсы адразу быў адмоўны адказ, а на вучыцельскую сэмінарыю ўжо ад 1.VIII 1926 г. няма ніякага адказу.

У школьных справах Інстытут нат высылаў заяву да п. міністра асьветы, але пасьля паўгоду быў атрыманы адмоўны адказ.

Апрача змаганьня за школу ў роднае мове Інстытут пачаў выдаваць беларускія кніжкі. Хаця ў галіне выдавецтва Інстытут не займае яшчэ першага месца ў Заходняй Беларусі, аднак факт распачатай працы ў гэным кірунку можа прарочыць у будучыне самыя найлепшыя рэзультаты.

Да адных з найпрыгажэйшых старонак працы Інстытуту належаць Беларускія Коопэратыўна-Гандлёвыя Курсы і Беларускі Народны Тэатр. Інстытут дзякуючы нязвычайным натугам змог залажыць 3-х месячныя Коопэратыўна-Гандлёвыя Курсы і заснаваць у Заходняй Беларусі першы Беларускі Народны Тэатр, які цешыцца найлепшым пасьпехам на вёсцы і зьдзяйсьняе культурна-прасьветныя мэты Інстытуту.

Чарговымі задачамі, да аканчальнага вырашэньня якіх мае прыступіць Інстытут, зьяўляюцца: закладаньне малачарняў і спажывецкіх коопэратываў, выдаваньне пэрыадычнай часопісі — як органу Таварыства і разьвіцьцё працы Беларускага Коопэратыўнага Зямляробска-Прамысловага Банку.

Статут Банку ўжо апрацаваны і прыняты, астаецца толькі разьвіць працу Банку, уцягваючы ў яго сябры больш



спажывецкіх коопэратываў, крэдытовых касаў і іншых асоб юрыдычных і фізычных.

Ува ўсей працы Інстытуту патрэбна падтрыманьне шырокіх колаў беларускага грамадзянства. Вось, даючы



Сэнатар А. Назарэўскі
сябра Цэнтральнага ўраду Інстытуту.

гэты кароткі агляд працы Інстытуту, заклікаем ўсіх шчырых барацьбітоў на ніве беларускага адраджэньня, па магчымасьці, прыняць удзел у працы, якую запачаткаваў Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры — адзіная найвышэйшая ў Заходняй Беларусі установа.

---

## Віленскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

Віленскі Гурток Б. І. Г. і К. заснаваўся незабавам пасьля адчыненьня Інстытуту.

Як толькі ў пачатку 1927 г. стварылася магчымасьць здабыць Інстытуту сваё ўласнае памешканьне, адразу мож-

на было бачыць ажыўленьне ў Гуртку. Пакуль старшае грамадзянства прыглядалася і надумывалася запісывацца сябрамі гуртка ці не — наша віленская беларуская моладзь, тая моладзь, якая не падпала пад партыйны ўплыў б. Грамады, ахвотна гуртавалася пры Інстытуце, як пляцоўцы не партыйнай і запісывалася ў сябры Гуртка Інстытуту. Вясной 1927 гаду лік сяброў Гуртка дайшоў 50 чал. і дагэтуль з кожным днём гэты лік павялічваецца. У склад прэзыдыуму Гуртка ў апошні час уходзяць наступныя асобы: Ал. Стэповіч — старшыня, Я. Пешка — сэкрэтар і Ал. Яцына скарбнік.

За свой годні век істнаваньня, праз увесь час, за выняткам летніх месяцаў, Віленскі Гурток вёў культурна-асьветную працу па меры сваіх сілаў. Быў наладжаны цэлы цыкль лекцыяў, на якіх лектарамі выступалі: Кс. Ад. Станкевіч, інж. Дубейкоўскі, А. Зянюк, А. Стэповіч, П. Каруза, і Я. Шутовіч. Былі так-жа зладжаны Гуртком 2 спэктаклі — канцэрты ў Новай-Вялейцы.

На асаблівую ўвагу ў працы Гуртка заслужвае хор.

Апроч працы культурна-асьветнай, гурток стаўся вогнішчам, дзе ў чыстым памешканьні Інстытуту кожны сябра і запрошаны госьць можа паслухаць сьпеву і музыкі, адпачыць па сваей цяжкай штодзеннай працы, спаткацца з сваімі знаёмымі і падзяліцца з імі сваімі сумнымі і радаснымі перажываньнямі, а калі служыць ахвота і патанцаваць.

## Жодзісны Гурток Белар. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

Гурток распачаў сваю працу ў палове верасьня 1926 г. Дзейнасьць яго ў успомненым годзе выражалася ў наступным: зарганізавана вечарына ў Смаргонях і сьвяткаваньне ў Жодзішках 20-х угодкаў беларускай прэсы, закладзена чытальня - бібліатэка ім. К. Сваяка і зладжана сцэнічнае прадстаўленьне. Прыгатаваныя публічныя лекцыі не адбыліся дзеля не атрыманьня дазволу.

Гурток меў у 1926 г. каля 30 сяброў, у пачатку 1927 г. лік узрос да 48. У прэзыдыум Гуртка ўваходзяць: Я Чартовіч — старшыня, Э. Цікота — скарбнік і Э. Стальчынскі — сэкрэтар.

У 1927 г. пры гуртку ўтвораны сэкцыі: гаспадарчая і мастацкая.

Ня гледзячы на вялікую ўтрату ў працы Гуртка праз арышт яго найбольш дзейнага сябры кс. Гадлеўскага, Жодзісны Гурток і ў пазьнейшы час вёў і вядзе вельмі энэргічную і карысную працу дзеля пашырэньня роднай культуры і дабра нашай бацькаўшчыны.





Віленскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

(Глядзі стар. 63)

## Цяцерскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў в. Цяцеркі Браслаўскага пав., заложаны 14 жніўня 1926 г. Думку аб залажэньні гуртка Інстытуту ў в. Цяцерках падалі кс. В. Шутовіч і М. Пецюкевіч. Усе больш разьвітыя сяляне надта прыхільна адгукнуліся на гэта, прадбачачы ў гэтай культурна-асьветнай Інстытуцыі магутнага змагара за лепшую долю нашага загнанага народу.

У склад часовага ўраду гуртка, увашлі: старшыня— гр. Дзяніс Мядзведзяў, скарбнік— гр. Альжбета Пецюкевічанка, сэкрэтар гр. Антон Пецюкевіч, кандыдатамі: гр. Гэнрык Пецюкевіч і Станіслаў Карсюкевіч. Гурток мае цяпер каля 30 сяброў. Гурток Інстытуту з першых дзён свайго істнаваньня пачаў вельмі інтэнсыўна працаваць, ня глядзячы на розныя перашкоды з боку паліцыі.

Цяцерскі Гурток Інстытуту наладзіў цэлы рад беларускіх прадстаўленьняў у в. Барадзенічах; у вялікім доме парахвіяльным былі адыграны наступныя п'есы: „Мікітаў Лапаць“, „Зьбянтэжаны Саўка“, „Пан Міністар“, „Сурдут і Сярмяга“, „Гурток“, „Суд“, „Апошняе Спатканьне“. Апрача гэтага гурток зладзіў спэктаклі-вечарыны ў сваей вёсцы, толькі апошнім разам дык катэгарычна паставіла сабе за заданьне Ёдзкая паліцыя перашкаджаць у разьвіцьці Цяцерскаму Гуртку. Цяцерскі Гурток пашырае сьведамасьць беларускую на вёсцы, праз роднае друкаванае слова, стараўся і стараецца, каб закладаць беларускія школы, дбае за тым, каб моладзь нашае вёскі і іншых ваколічных, узгадовывалася ў духу здаровым маральна і фізычна; апрача гэтага стараецца ўліваць маладому пакаленьню дух патрыятызму, дух любові да ўсяго свайго роднага.

Цяцерскі Гурток Інстытуту выканаў вялікае заданьне перад сваім народам, але, ведама, што на гэтым яшчэ не застановіцца і будзе далей інтэнсыўна працаваць.

Дай-жа Божа сілу, адвагу і вытрываласьць.

## Беларускія школы Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

Адразу, пасьля зацьверджаньня статуту, Інстытут падняў акцыю за сваю родную школу. У сваім часе Цэнтральны Ўрад Інстытуту выдаў адозву да беларускага грамадзянства і да настаўнікаў, заклікаючы яго, побач з дамаганьнем урадовае беларускае школы, закладаць, на магчы-





Жодзішны Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

(Глядзі стар. 64)

масьці, прыватныя школы. Рэзультатам адозвы ўраду Інстытуту было тое, што сяляне паасобных вёсак пачалі зварачвацца ў Інстытут з просьбай аб заснаваньні ў іх хоць прыватнае школы ў роднай мове. Інстытут узяў на сябе ўсе клапоты аб атрыманьні канцэсіі на школы на 1926—27 школьны год, падаў да школьных Інспэктараў заявы на 23 школы. Улады выдалі толькі 8 канцэсіяў з засьцярогай, што навука ў школах ня можа быць распачата пакуль вучыцялёў не зацьвердзіць школьны інспэктар. Гэтая засьцярога, можна сказаць, амаль што анулявала выданыя канцэсіі, бо школьныя інспэктары не прызнаюць кваліфікацыі беларускім вучыцелям. Толькі пасьля доўгага змаганьня і розных „адваланьняў“, удалося дабіцца зацьверджаньня 2-х вучыцеляк: гр. Л. Булыгі ў Шаўлянскай школе, Брасл. пав. і гр. Ст. Таўлай у Рудаўскай школе, Слонім. пав.

Такім чынам, ува ўсей Заходняй Беларусі — на $2^1/_2$ мільёнаў беларускага насяленьня, істнуе толькі 2 прыватныя беларускія школы, утрымываныя Беларускім Інстытутам Гаспадаркі і Культуры.

Таксама стаіць справа і з урадовамі школамі. Ня гледзячы на масовыя дэклярацыі, польская ўлада блізу што не даець Беларусам беларускае школы.

### Шаўлянская Беларуская школа.

Беларуская школа ў Шаўлянах Браслаўскага пав. заложана ў 1926 г. Навука распачата дн. 1 сакавіка 1927 г. Канцэсыянэрам Бел. школы ў Шаўлянах ёсьць Б. І. Г. і К. Кіраўнічкай школы зьяўляецца Мар'я Булыга. У 1926—1927 вучэбным г. было ў школе 54 вучняў: I аддз. — 7, II — 22, III — 14 і IV — 11. На 1927—28 школьны год з пачатку школьнага году запісалася ў школу 100 дзяцей, з іх 95 каталікаў і 5 старавераў. Кожны дзень сяляне з далейшых вёсак прыходзяць у школу, каб запісаць іх дзяцей, але дзеля недахвату месца кіраўніца школы больш дзяцей ня можа прыняць.

Наагул навука ў школе йдзе з вялізарным пасьпехам. Дзеці вучацца з вялікай ахвотай. Сяляне, бацькі дзяцей у школьным веку, надта здаволены з роднай школы. На 1927—28 вучэбны год сяляне з суседніх вёсак ужо ня пусьцяць сваіх дзяцей у польскую школу, а толькі ў Беларускую ў Шаўляны.

Ня гледзячы на незаможнасьць сялян-бацькоў, усё-ж такі яны з апошняга дапамагаюць школе як грашмі, так і фізычнай працай. Пры школе істнуе бацькоўскі камітэт у асобах: Ігната Пабяржыня, Станіслава Аўсюкевіча і Вінцэнтага Аўсюкевіча.





Цяцерскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

(Глядзі стар. 66)

## Рудаўская Беларуская Школа.

Беларуская пачатковая школа ў Рудаўцы, Слонімскага павету, Міжавіцкае вол. была заложана 5 траўня 1926 г. Каб вучыць сваіх дзетак у роднай матчынай мове, прышлося вясьці ў працягу двох гадоў цяжкую і ўпорыстую барацьбу. Арганізатарам школы зьяўляецца гр. в. Рудаўка П. Таўлай, які потым быў выбраны ад вёскі паўнамоцнікам. Канцэсія пачаткова была атрымана Радашкоўскім Таварыствам Беларускае Школы, а цяпер Беларускім Інстытутам Гаспадаркі і Культуры, які і ўтрымлівае школу. Вучыцелькай і кіраўніцай школы ёсьць С. Таўлай.

Месьціцца школа ў хаце П. Таўлая, займае адзін пакой, даўжынёй 8 мт., а шырынёй 6 мт. У гэтым невялічкім пакоі першы год зьмяшчалася 43 вучні і мела 3 аддзелы.

Апрача дзяцей в. Рудаўка ў школу ходзяць дзеці з суседніх вёсак — В. Кракоткі і М. Кракоткі. Бацькі вельмі ахвотна пасылаюць дзяцей у сваю родную школу.

Любяць і дзеці сваю родную школу. Ня гледзячы на тое, што заняткі пачаліся на два месяцы пазьней, і школа вельмі бедная навуковымі прыладамі, яны, дзякуючы сваім стараньням, зрабілі ў канцы году добрыя пасьпехі.

Зразумеў Беларускі Народ, што толькі родная школа вывядзе яго на лепшы вольны шлях жыцьця, што толькі праз навуку ён здабудзе сабе належнае месца сярод іншых культурных народаў.



## Беларускія Коопэратыўна-Гандлёвыя Курсы.

Незалежна ад арганізацыйнай культурна-асьветнай працы, Інстытут паруліўся і аб грамадзкай працы на гаспадарчым грунце. Ёсьць ведама, гэтую працу ня лёгка вясьці, бо яна вымагае вялікіх матэр'яльных сродкаў, якіх, якраз, Інстытут ня мае, бо яго сябры знаходзяцца ў цяжкіх матэр'яльных абставінах. Адзіная дарога, ідучы якой можна хоць крыху папраўляць нашу нацыянальную гаспадарку, ёсьць коопэрацыя. Толькі праз коопэрацыю, толькі праз супольную арганізаваную грамадзкую працу можна нам браць у свае рукі лейцы, якімі кіруецца гаспадарчае жыцьцё. Маючы гэта на ўвазе Інстытут адразу выступіў перад уладамі аб дазволе на коопэратыўна-гандлёвыя курсы ў Вільні. Хоць даволі доўга прышлося чакаць на гэты дазвол, аднак нарэшце, у канцы лютага 1927 г. курсы пачалі функцыянаваць. Наагул было каля 60 заяваў ад кандыдатаў аб прыняцьці на курсы, але з прычыны нястачы памешканьня





Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў Гайніне.

і сродкаў — прынята на курсы толькі 30 слухачоў, з якіх мужчын 28 і кабет 2. Паводле асьветы слухачы дзяліліся: з 8-мі клясавай гімназіяльнай асьветай — 6 асоб; з 7-мі клясавай — 3 асобы; з 6-ці кл. — 1 ас.; з 5-ці кл. — 3 ас.; з 4-х кл. — 4 ас.; з 3-х кл. — 6 ас. і б. вучыцялёў пачаткавых школаў — 5 асоб. Большасьць слухачоў — 27 асоб прыехала з вёсак і 3 асобы мясцовыя, з Вільні.

Навука на курсах стаяла на даволі высокім роўні, чыталіся лекцыі па такіх прадметах: Асновы экономікі, Асновы і практыка коопэрацыі. Навука аб гандлі, Рахунковасьць коопэратываў, Гандлёвая арытмэтыка, Бугальтэрыя, Беларуская гандлёвая карэспандэнцыя, Польская гандлёвая карэспандэнцыя і Таваразнаўства. Усе лекцыі, апрача польскай гандлёвай карэспандэнцыі, вяліся ў беларускай мове.

Лектароў было 5 асоб, у тым ліку кіраўнік Курсаў гр. А. Більдзюкевіч.

Першыя беларускія коопэратыўна-гандлёвыя курсы закончыліся 21 мая 1927 г. Гэтакім чынам, Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, для беларускай нівы змаганьня і будаваньня новага жыцьця, прыспасобіў тры дзесяткі асоб, якім выпадае на долю быць піанэрамі адраджэньня беларускае коопэрацыі. Якія вынікі дасьць іх праца—згадаць вельмі цяжка, аднак-жа сказаць, што пачатая праца загіне — нельга. З гэтых узгадаваных Інстытутам зярняткаў, вырасьце некалькі каласкоў, якія дадуць насеньне для далейшага пасеву. За гэта гаворыць ужо тая чалавечая інэрцыя, што кожная асоба маючы якую-колечы веду стараецца наколькі магчыма выкарыстаць яе. Дык вось і тая веда, якую атрымалі слухачы курсаў, будзе пабуджаць іх да працы.

*А.*

## Беларускі Народны Тэатр.

Ніжэй зьмяшчаем фатаграфічны знімак артыстаў Беларускага Народнага Тэатру, заснаванага і кіраванага Беларускім Інстытутам Гаспадаркі і Культуры. Мы зьмяшчаем воблікі некалькіх аматараў-артыстаў, якія панясьлі роднае беларускае слова на правінцыю туды, дзе брат гаруе, панясьлі роднае беларускае слова развагі і пацехі ў родныя беларускія масы. І за гэта ім чэсьць і пашана, якую яны ўжо і атрымалі ад тых мас, з якіх вышлі і да якіх прышлі.

Тая пашана, якую выказала наша вёска да маладога Беларускага Народнага Тэатру і тое цёплае прывітаньне,





Беларуская школа ў Шаўлянах Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

(Глядзі стар 68)

якім усюды яго спатыкаюць, вельмі выразна сьведчыць, што тэатр мае вялікае значэньне ў жыцьці народу.

Асаблівую павагу і асаблівае значэньне мае беларускі тэатр у нашых варунках, калі мы нацыянальна адраджаемся, калі мы нацыянальна ўсьведамляемся і імкнемся да нацыянальнага адраджэньня.

Што-ж такое тэатр? Тэатр гэта тое месца, дзе здольныя і ўталентаваныя людзі выяўляюць жыцьцё гэтак, як яно пабудавана, дзе выяўляюцца добрыя і благія староны чалавечага жыцьця: яго цынізм і гніласьць; яго моц і прыгожасьць; яго вартасьці і нястачы. Тэатр гэта тое месца, дзе ўздымаецца высока ўсё прыгожае і сьвятое дзеля таго, каб крытычна і забойча выступіць проці няпрыстойнасьці і пагрэшнасьці чалавечага жыцьця.

Ведама, што тэатр гэта школа, якая вучыць любіць і шанаваць добрае і змагацца з благім.

Дык вось, знача, маючы гэтакае разуменьне аб тэатры мы лічым, што Беларускі Народны Тэатр, як рассаднік беларускае нацыянальнае культуры, значна адыгрывае сваю ролю. Ён падмацуе ў беларускім народзе надзею на тое, што яго ідэя не загіне, што яна жыве і пашыраецца, што яна становіцца рэальнаю і што час яе зьдзейсьненьня набліжаецца.

* * *

Беларускі Народны Тэатр Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры заснаваны ў маі месяцы 1927 году, а працу сваю распачаў 27-га чэрвеня, ставячы першы свой спэктакль у Смаргонях, Ашмянскага павету. У працягу двух з палова месяцаў Б. Н. Т. паставіў 36 спэктакляў у наступных мясцох: Смаргоні—1; Жодзішкі—1, Лебедзева—3; Маладэчна—1; Краснае—2; Вішнева—3; Валожын—3; Іўе—3: Молчадзь—4; Баранавічы—2; Ляхавічы—1; Мядзьведзічы—2; Гайнін—1; Гарадзея—2; Круты-Бераг—1; Рубяжэвічы—4 і Івянец—2.

6-га верасьня Тэатр вярнуўся ў Вільню, дзе разам з рэарганізацыяй пэрсанальнай падгатаўляліся да пастаноўкі п'есы: „Паўлінка“, „Заручыны Паўлінкі“, „Хам“, Залёты і інш. У палове кастрычніка тэатр ізноў выехаў на правінцыю і ў працягу году мае намер аб'ехаць усю Заходнюю Беларусь.

Каб больш забразаваць вартасьць артыстычных сіл Тэатру і яго значэньне, ніжэй падаём рэцэнзію аб Б. Н. Т., друкаваную ў № 67 „Сялянскае Нівы“ напісаную глядзельнікам:

„11-га жніўня с. г. над Ляхавічамі завітала шчасьлівая зорка; сюды завітала, едучы з Баранавіч, трупа Беларускага Народнага Тэатру.





Група слухачоў Беларускіх Коопэратыўна-Гандлевых Курсаў у Вільні і сяброў Інстытуту ў 9-ыя годкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, 25-III 1927 г. (Глядзі стар 70)

Іграліся: „Дзядзька Якуб“ драма ў 2-х актах і „Чорт і Баба“ камэдыя ў 1-м акце, абедзьве Ф. Аляхновіча. Як адна так і другая п‘еса прайшлі нязвычайна ўдала, памастацку ў поўным значэньні гэтага слова.

Калі ішла драма ўсе з заміраючым сэрцам сачылі за гульнёю, за кожным словам артыстаў. На‘т прадстаўнікі польскай інтэлігенцыі, якое, трэба зацеміць, было шмат, былі захоплены. Асабліва моцнае ўражаньне зрабіў канчатак 1-га акту, калі Якуб зарэзвае Андрэя. Гэты момант так быў памастацку выкананы, што цэлая саля аж замерла, а звон нажа, выпаўшага з рук Якуба, адбіўся рэхам у душы кожнага глядзельніка і таксама канчатак 2-га акту—маналёг Якуба, яго словы глыбока, глыбока запалі ў душу глядзельніка і на вачох некаторых кабет заблішчэлі сьлёзы. Адна нястача—драма „Дзядзька Якуб“ крыху малаватая, шчуплая, каб яна была абшырнейшая, больш распрацаваная--было-б, здаецца, лепшае ўражаньне. Ну, гэта ня віна артыстаў. Камэдыя „Чорт і Баба“ прынясла мора сьмеху. Гэта жывы абразок з вясковага жыцьця, копіі якога спаткаеш на кожным кроку. Усе ролі і асабліва старое бабы знахаркі выкананы надта ўдала, вельмі натуральна. Гэтая п‘еска апроч сьмеху прыносіць маральную карысьць глядзельнікам.

На далейшую праграму складаліся хор і скокі.

Пасьля кароткага антракту выступіў у нацыянальных вопратках хор. Пасьля двух трох нумароў уся публіка была зьдзіўлена, ачаравана. Гэтая простая мужыцкая песьня, а пры ўмелым выкананьні, колькі мае хараства, багацьця, мілагучнасьці і чару! Пасьля ў вельмі прыгожых вопратках артысты з „шыкам“ скачуць, нашу родную лявоніху. І тут якое хараство!

Вельмі добра, што Б. Н. Т. заглянуў у Ляхавічы. Якія трупы сюды ўжо не прыяжджалі: жыдоўскія, польскія, расейскія, украінскія і толькі сваей дагэтуль ня бачылі. Аж урэшце дачакалі гэтага сьвята. Б. Н. Т. сваімі ўмелымі мастацкімі выступленьнямі служыць доказам, сьведчыць, што мы жывём, маем сваю літэратуру, гісторыю, а нашай мове, песьні, тэатры, вопратцы — знаходзіцца адпаведная пашана ў нас самых і ў другіх народаў, якія маюць, або хочаць мець з намі добрыя адносіны“.

**Ст. С.**







Беларускі Народны Тэатр Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, у першым сваім складзе. (Глядзі стр. 72)

## Хор Віленскага Гуртка Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Інстытуту.

Арганізацыя хораў зьяўляецца адным з магутных дзейнікаў разьвіцьця музыкальнага мастацтва нацыі, а такжа грамадзкага ўзгадаваньня асабліва ў тых выпадках, калі побач з мастацтвам выяўлена ў тэксьце музыкальнага твору нейкая ідэя напр. любоў да бацькаўшчыны.

Не аднаму нашаму нават інтэлігентнаму Беларусу не прыхадзіла ў галаву, што напр. гімн. „Ад веку мы спалі“ больш зрабіў дзеля пашырэньня нацыянальнай і клясовай сьведамасьці, чымся сотні найлепшых патрыятычных прамоваў ці газэтаў. Справа ў тым, што навучаная песьня перадаецца адзін аднаму ў самую гушчу найменш сьведамых людзей і прымушае пры кожным пяяньні песьні задумацца над яе словамі, ня кажучы уж аб мэлёдыі, якая так-жа можа захапляць чалавека і пабуджаць да вялікіх чынаў. Ведалі аб гэтым добра кожныя перадавыя правадыры ўсялякіх магутных арганізацыяў і грамадзкіх рухаў; вось чаму ў вайне, рэвалюцыі, у змаганьнях агулам, песьня, асабліва патрыятычнага зьместу і паходнага рытму, адыграла першарадную роль.

* * *

Хор Віленскага Гуртка Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры заснаваўся на канчатку 1926 году, калі толькі Інстытут здабыў патрэбнае памешканьне. Кіраўніком яго зьяўляецца гр. Ал. Стэповіч, старшыня Гуртка. Хор складаецца з 30 з лішнім чалавек і праз зімовы сэзон зрабіў некалькі публічных выступленьняў, з пасярод якіх на асаблівую ўвагу заслугоўвае выступленьне на сьвяткаваньні ўгодкаў незалежнасьці Беларусі, зладжаньне Вечару Беларускай Песьні, а такжа выезд з хорам у Новую Вялейку. Трэба зазначыць, што як кіраўнік, так і ўсе харысты працавалі зусім бязінтэрэсоўна, што сьведчыць аб любові з іх боку і да мастацтва і да сваей роднай справы. У сэнсе мастацкага роўня хор стаіць на вышыні, на якую тольна магчыма здабыцца ў першым годзе працы пры бясплатнасьці апошняй. Іначай кажучы, хор пяе добра і будзем спадзявацца, што пры падтрыманьні грамадзянства палепшыцца.

---

## Грамадзяне, запісывайцеся ў сябры Інстытуту.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры ёсьць адзінай гаспадарчай беларускай установай і аднэй з найпаважнейшых культурных арганізацыяў у Заходняй Беларусі. Каб Інстытут мог шырэй павясьці гаспадарчую і культурную





Беларускі хор Віленскага Гуртка Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

(Глядзі стар. 78)

працу, патрэбна падтрыманьне беларускага грамадзянства. Дзеля таго, што нашае грамадзянства знаходзіцца ў вельмі цяжкіх матэр'яльных абставінах, цяпер яно ня можа нясьці вялікіх афяр на свае арганізацыі. Але афяроўваючы і маленькія сумы пры вялізарным ліку афярадаўцаў могуць сабрацца паважныя сумы, за якія можна шырэй павясьці працу, карысную для ўсяго беларускага грамадзянства. У Заходняй Беларусі ёсьць каля $2^1/_2$ мільёнаў Беларусаў і калі-б з кожнае сям'і (хаты) афяраваць па 1 зл. ў год, то разам зьбярэцца сума каля 500.000 зл. За такія грошы можна павясьці ня толькі культурную працу, але і гаспадарчую, з якое будзе мець карысьць усё беларускае грамадзянства.

Дык маючы гэта на мэце, кожны сьвядомы Беларус пасьпяшыся запісацца ў сябры Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Інстытут не зьяўляецца палітычнай партыяй, а толькі гаспадарча-культуральным таварыствам і затым сябрамі Інстытуту можа быць кожны сьвядомы Беларус бяз розніцы палітычных перакананьняў. Сябры Інстытуту аплачваюць у год толькі 1 зл. сяброўскіх складак і аднаразова ўступных 1 зл.

Хто хоча запісацца ў сябры Інстытуту павінен прыслаць заяву такога зьместу:

У Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры
ў Вільні, Завальная 6.

З А Я В А

Ветліва прашу залічыць мяне ў сапраўдныя сябры Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

Адначасна дакляроўваю акуратна аплачваць сяброўскую складку і тасавацца да Статуту і Рэгуляміну Інстытуту.

(—) подпіс

Вёска . . . . . . . . . .
Воласьць . . . . . . . . .
Павет . . . . . . . . .
Пошта . . . . . . . . .

Дня . . . . . . 192 . . г.

Пасьля залічэньня кандыдата ў сябры Інстытуту, ён атрымлівае сяброўскі білет. Перад атрыманьнем білету кожны новапрыняты сябра павінен заплаціць 1 зл. уступной складкі і найпазьней за 3 месяцы ад дня атрыманьня білету заплаціць 1 зл. сяброўскіх складак.

У мясцовасьці, дзе знойдзецца ня менш як 3 сапраўдныя сябры Інстытуту могуць яны заложыць Гурток і самастойна весьці працу.



Пакуль няма такога гуртка на месцы кожны нова-прыняты сябра Інстытуту будзе належыць да Аддзелу або Цэнтралі Інстытуту.

Дык кожны сьвядомы Беларус, якому дорага адраджэньне Беларускага Народу, кожны селянін, які хоча для сабе і сваіх суседзяў асьветы і лепшай долі, запісвайся ў Інстытут!

**Цэнтральны Ўрад Інстытуту.**

# Б. Палітычнае жыцьцё.

## А. *Незалежнік.*

### ТРЫ ШЛЯХІ.

Цяпер, пасьля апошняй эўрапэйскай вайны, на ўсім сьвеце ёсьць 68 незалежных дзяржаваў. Хаця лічба гэта даволі і паказная, аднак не абыймае яна ўсіх народаў; шмат народаў у граніцах гэтых 68 незалежных дзяржаваў маюць пэўную сваю аўтаномію, узноў шмат народаў ня маюць ня толькі свайго самаўраду, але яшчэ агранічаны ў правох, і часам бываюць на'т уціснанымі праз пануючую нацыянальнасьць. Да гэтай апошняй катэгоры належыць Беларускі Народ. Беларусы, хаця і маюць усе даныя на незалежнасьць, дагэтуль не зьяўляюцца самастойным народам. Гэтая залежнасьць не аднолькавая ўва ўсіх часьцях Беларусі. Як усім вядома, па Рыскаму трактату Беларусь была падзелена на 3 часткі, на Усходнюю Беларусь, што асталася пад Саюзам С. Р. Р., Заходнюю Беларусь, што падпала пад Польшч і частку, што асталася ў межах Латвіі. Апрача гэтага падзелу Усходняя Беларусь яшчэ падзелена на 2 часткі, адну, што называецца Беларускай Радавай Рэспублікай і другую частку, што апынулася за межамі Б. Р. Р., якая належыць да Расейскай Сац. Фэдэр. Рад. Рэспублікі.

Такім чынам маем, што беларускі Народ быў падзелены ўладай сільных аж на чатыры часьці. Найбольшымі па абшару і ліку насяленьня зьяўляюцца Радавая Беларусь, Усходняя Беларусь і Заходняя Беларусь, што пад Польшчай.

Жыцьцё Беларусаў ува ўсіх частках, хаця і розьніцца між сабой, але мае той супольны характар, што нідзе Беларусы не зьяўляюцца незалежнымі, самастойнымі. Гэтая залежнасьць у кожнай частцы выглядае інакш.

Фармальна. юрыдычна Беларусы Меншчыны, Магілёўшчыны і Віцебшчыны (выключаючы частку, што пад Р.С.Ф С.Р.) маюць сваю незалежную дзяржаву Радавую Беларусь, аднак фактычная ўлада ў Радавай Беларусі належыць да Масквы, якая камандуе ў Менску праз сваіх людзёў; ня гледзячы на гэта ў Рад. Беларусі Беларусы маюць усе культурныя правы і сьмела могуць лічыць сябе Беларусамі, адкрываць свае школы, друкаваць беларускія кніжкі, займацца культурна-асьветнай працай. Аднак вельмі шыбка разьвіваць гэту працу ня могуць, бо скора будуць ахрышчаны „шовіністамі, нацыяналістамі", за якімі будуць сачыць агенты галоўнай палітычнай управы, якія найчасьцей набраны з польскай нацыянальнасьці. Побач з гэтым, калі ходзіць аб беларускае сялянства, то нам трудна пачуць яго шчыры і адважны голас на пытаньне, ці добра яму жывецца? На колькі нам вядома, прынцыпова ідэолёгія беларускага селяніна не прызнае комуны. Сяляне хочуць здабываць сабе зямлю на ўласнасьць і быць поўнымі гаспадарамі ў сваей хаце і на сваей зямлі. Супроць гэтай індывідуальнай свабоды і поўнай самастойнасьці гаспадара-селяніна стаяць радавыя доктрыны, якія стараюцца забіць усялякую індывідуальнасьць і падчыніць псыхіку і дзеяньні грамадзянства ўладзе радавых установаў. Гэтая супярэчнасьць між ідэолёгіяй селяніна-ўласьніка і навуковай арганізацыяй дзяржавы па спосабу комунальнаму, колектыўнаму, не дае селяніну багацець, інтэнсыўна папраўляць сваю гаспадарку.

Калі ходзе аб Усходнюю Беларусь, што пад Рас. Саюз. Фэдар. Рад. Рэсп., то гэта частка астаўлена на поўную русыфікацыю. Беларусы там павінны ўчыць сваіх дзетак у расейскай мове, чытаць газэты парасейску, гутарыць у радавых установах парасейску. Соцыяльнае іх становішча такое, як у Радавай Беларусі. Ня жывецца ім там вельмі добра, калі змушаны яны выязджаць у Сібір. Цяпер у Сібіры налічываецца 1 міліён Беларусаў. Найбольш эмігравалі Беларусы ў Сібір у 1922–23 годзе, калі на Беларусь прыпадала 40 проц. усей эміграцыі з усяго Саюзу Сац. Рад. Рэсп.

Найменшая частка Беларусі, што апынулася пад Латвіяй фактычна можа зьяўляецца найшчасьлівейшай. Латвійскі ўрад калі ня споўніў усяго, чаго дамагаюцца Беларусы, то ўсёж-такі культурна-асьветная праца ідзець там даволі пэўным, хоць малым крокам. Гаспадарчае палажэньне Латвіі ня зусім кепскае, сяляне маюць запэўнены збыт для земляробскіх прадуктаў і шыбка паляпшуюць земляробскую культуру. А зямля абшарнікаў пераходзіць там у рукі Латышоў.

Адносна Заходняй Беларусі, дзе жыве 2 з паловай мільёнаў Беларусаў, дык і тут ня можам пахваліцца



сваей доляй. Не аналізуем тут нашага палажэньня, яно ўсім добра ведама, бо добра асьвятляецца беларускай пэрыядычнай прэсай, толькі зьвернем увагу на беларускі палітычны рух у Заходняе Беларусі.

Яшчэ ня так даўно, толькі некалькі гадоў таму назад, увесь адраджэнскі беларускі рух у Вільні канцэнтраваўся каля беларускіх установаў, праца ў якіх ішла адным згодным фронтам, маючы на мэце зьдзейсьненьне Ідэалу Беларускага абяздоленага Народу. Даволі было назвацца Беларусам, як ужо перад ім адчыняліся дзьверы беларускіх арганізацыяў для працы ў адраджэнскім руху. Быў толькі адзін ідэал — нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне Бацькаўшчыны, які захопліваў найлепшыя сілы Беларускага Народу. Да гэтага ідэалу ўсе барацьбіты ў беларускім руху ішлі, тым ці іншым шляхам, але да аднэй мэты. Аднак, у меру таго, як беларускі рух разрастаўся і захопліваў штораз большы лік інтэлігенцыі і народных гушчаў, пачалі



Кс. Вінцэнт Гадлеўскі,

выдатны беларускі дзеяч, засуджаны на 2 гады крэпасьці.

ўзьнікаць розніцы паглядаў у справе выбару шляху барацьбы за зьдзейсьненьне Ідэалу Беларускага Народу. Гэтая розніца першы раз выявілася ў пададзеле Беларускага Пасольскага Клюбу, як выбарнага законнага прадстаўніцтва Беларускага Народу ў Заходняе Беларусі. Частка паслоў, у змаганьні за правы і інтарэсы працоўных масаў, згубіла веру ў нацыянальную сілу беларускага сярмяжніка і ўсе свае надзеі на паляпшэньне долі сялянства і работнікаў палажыла на варожую беларускаму нацыянальнаму адраджэньню ідэолёгію. Гэтая частка паслоў, у сваім часе, сваімі лёзунгамі і дакляраваньнямі захапіла аграмадную большасьць сялянства і работнікаў.

Узьнікае пытаньне, чаму вёска не разабраўшы справы так лёгка і скора адгукнулася на гэныя лёзунгі і пайшла за імі? Адказ зусім просты. Цяжкое палітычнае і соцыяльнае жыцьцё вёскі і недавер у хуткую яго паправу, пхала масы хоць куды, абы збавіцца ад тэй немагаты, у якой яна апынулася. Мала гэтага, тут адыграў сваю ролю агульны натуральны закон, які кажа, што чалавек імкнецца да задаваленьня сваіх патрэбаў шляхам якнайменшай натугі. Дакляраваная дэмагогамі помач кожнаму усьмехівалася, бо ён лічыў, што ўсё зробіцца без яго ўдзелу, без ягонай рызыкі і натужанай сыстэматычнай працы. Такі стан справы, на першы пагляд, выдавацца можа і рацыянальным, але калі над ім трохі падумаць, дык скора можна ў ім расчаравацца.

Гісторыя адраджэньня іншых народаў вучыць нас, што ніводзін з іх не атрымаў паляпшэньня сваей долі дзякуючы толькі добрай волі іншых народаў, ці дзяржаваў. Кожны народ, каб дабіцца сваей незалежнасьці павінен быў сам арганізавацца і сам змагацца за свае ідэалы. Так было з Ірляндзкім, Чэскім, Латыскім, Літоўскім, Вэнгерскім і іншымі народамі. Дык чаму-ж Беларускі Народ павінен быць выняткам? Чаму, за што яму чужая ўлада можа даць незалежнае істнаваньне? Рэч ясная, што калі мы ня маем чым плаціць, дык нічога ад чужынцаў добрага і не атрымаем. Дзеля гэтага разлічаньне на няпэўную помач было зусім памылковым і на'т шкодным, бо гэтым самым аслаблялася энэргія да арганізацыі і самастойнага змаганьня за свае правы і інтарэсы. Праўдзівасьць гэтых сказаў пацьвярдзілі гістарычныя студнёвыя выпадкі і далейшыя палітычныя каньюнктуры, якія аканчальна падарвалі веру сярод працоўных гушчаў у правільнасьць успомненай арыентацыі. З кожным днём гэтая арыентацыя слабее і слабее, а яе даўнейшыя прыхільнікі шукаюць новага шляху ў змаганьні за зьдзейсьненьне ідэалу беларускага народу.

Побач з вышэй успомненым кірункам, які ўзьнік сярод сапраўдных беларускіх арганізацыяў, дзякуючы толькі



іх памылкам, ці палітычнаму непрадбачаньню, быў створаны бяз удзелу Беларусаў фікцыйны беларускі кірунак з заходніцкай арыентацыяй, які меў на мэце толькі інтарэсы чужынцаў і ім выслугоўваўся. Лёзунгі гэтага кірунку асталіся кіненымі зусім на вецер, бо пры істнуючых абставінах жыцьця, ніхто не паверыў і ня верыць у магчымасьць папраўы долі Беларускага Народу, дзякуючы дабрадзействам пануючай ўлады. Не затрымліваемся больш над гэтым кірункам, бо ў ім немагчыма знайсьці і цені беларускае працы; усё, што там робіцца праніккнута чужацкім духам, чужой апекай, шкоднай для беларускага адраджэнскага руху.

І вось, сярод гэтых двух рожных па кірунку, а аднолькавых па сутнасьці, нявольніцкіх шляхаў, увесь час істнаваў і істнуе адзіны сапраўдны шлях, ідучы якім мы можам дабіцца зьдзейсьненьня Ідэалаў Беларускага Народу, — **гэта самастойны незалежніцкі шлях.** Барацьбіты, што трымаюцца гэтага шляху, збаўленьне Беларускага Народу бачаць ня ў вонкавай усходняй ці заходняй помачы, а ў сіле самага Народу. Толькі сам Народ можа здабыць сабе лепшую долю, але для гэтага патрэбна, каб ён палітычна і культурна быў зусім сьпелы, каб ён быў добра арганізаваны. І вось, над аканчальным і поўным яго ўсьведамленьнем і арганізацыяй у Заходняй Беларусі працуюць цяпер толькі дзьве палітычныя партыі, гэта — Беларускі Сялянскі Саюз і Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя.



*А. Саюзьнік.*

# Беларускі Сялянскі Саюз.

Усе цяперашнія ўладары ўсіх частак Беларусі, з маленькімі розніцамі, аднак усьцяж імкнуцца да замацаваньня істнуючага палажэньня, да спыненьня нацыянальнага беларускага руху, бо разумеюць добра, што нацыянальнае ўсьведамленьне нашага сялянства і арганізованасьць яго ў сваім саюзе можа стварыць такую сілу, якая ў корні зьменіць нядолю на самастойнае жыцьцё і гэтым спыніць усю эксплёатацыю працоўнага сялянства рознымі чужынцамі. Беларусь, як сялянская старонка, павінна належыць да працоўных гушчаў, толькі працоўныя масы могуць у ей кіраваць палітычным, грамадзкім і гаспадарчым жыцьцём. Аб іншай капіталістычнай ці буржуазнай уладзе

ня можа быць і гутаркі, бо мы ня маем сваей буржуазіі ў тым значэньні, як гэта разумеюць нашы сялянскія гушчы. Беларускае грамадзянства складаецца амаль што не цалком з сялянства і толькі вельмі невялічкі процант маем мяшчан, яшчэ меней работнікаў і працоўнай інтэлігенцы. Усе гэтыя клясы жывуць з працы сваіх рук, хоць часткова і маюць сваю хату і кавалак зямелькі. Гэтае мізэрнае ўладаньне не дае магчымасьці ні аднэй з груп нашага грамадзянства мець даход толькі з уласнасьці, а затым усе мы зьяўляемся працоўным народам, у якім сялянства, як па свайму ліку, так і па сваей беднасьці займае першае месца. Вось гэта аграмадная большасьць насяленьня Беларусі, і ў дадатку, цяпер найбяднейшая наша кляса — **сялянства** павінна адыграць у гісторыі нашага народу рашучую ролю, павінна яно дайсьці да ўлады працоўных, каб спыніць вяковыя крыўды, каб спыніць галіту, несправядлівасьць і зьдзекі. Народ наш адродзіцца і вызваліцца толькі тады, калі нашае сялянства пойдзе па шляху сваей моцнай арганізацыі—грамадзка ўзгадуецца і загартуе ў сабе сілу волі і стойкасьць. Такую працу, якая імкнецца арганізаваць сялянства і гэтым стварыць рэальныя асновы нашай лепшай долі, вядзе Беларускі Сялянскі Саюз. Арганізатары Саюзу, прадстаўнікі Беларускага Народу ў Сойме, паслы В. Рагуля і Ф. Ярэміч ужо амаль што ня два гады таму назад зразумелі, што сіла беларускага руху — ў сіле беларускага сялянства, што толькі сялянства як наймагутнейшая лічэбная кляса можа поруч з іншымі працоўнымі вызваліць бацькаўшчыну з нядолі і гора. Але сілы нашага сялянства распылены і прыкрытыя цемрай. Трэба толькі гэтыя сілы сабраць пад адзін сьцяг у свой Сялянскі Саюз і скінуць цемру праз усьведамленьне сялянства, — тады можна будзе зьдзейсьніць усе ідэалы беларускага адраджэнскага руху.

Беларускі Сялянскі Саюз ёсьць палітычнай партыяй, якая паставіла сваей мэтай поўнае адраджэньне Беларускага Народу. У праграме Саюзу ёсьць тры найгалаўнейшыя пункты: першы аб самастанаўленьні народаў, другі аб зямлі і трэці аб работніцкім пытаньні. Пункт першы кажа: „Стоячы на грунце самаазначэньня (самастанаўленьня) народаў, Беларускі Сялянскі Саюз лічыць сваім ідэалам незалежнасць, злучаньне зямель Беларускага Народу і добрасуседзкія адносіны з іншымі народамі, імкнучыся да фэдэрацыі з імі“. Гэты пункт праграмы даволі ясны і не патрабуе адумысловага высьвятленьня. Другі пункт праграмы кажа: „Усе землі: панскія, дзяржаўныя, касьцельныя, царкоўныя і іншыя, павінны перайсьці ў рукі беларускіх — малазямельных і беззямельных сялянаў, бяз розьніцы веры, бяз выкупу і на ўласнасьць, бяз права спэкуляцыі зямлёй,



у ліку працоўнай нормы, у залежнасьці ад якасьці зямлі“. Як бачым, Сялянскі Саюз, як сялянская беларуская партыя, дамагаецца ў сваей праграме падзелу панскай, гаспадарсьцьвенай, касьцельнай, царкоўнай і інш. зямлі між беларускім сялянствам бяз выкупу. Можа хто пытацца, чаму падзел бяз выкупу? Каб адказаваць на гэтае пытань-



Пасол Базыль Рагуля,

Старшыня Цэнтральнага Камітэту Беларускага Сялянскага Саюзу.

не, трэба глянуць трохі назад—у гісторыю. З-прад многіх вякоў, тысяча год таму назад, Беларусы рассяліліся каля рэчкі Дняпра, Дзьвіны й Нёмну і іх прытокаў і пачалі мазольнай працай здабываць сабе хлеб. Як толькі перайшлі яны ад эпохі паляўнічай, рыбалоўнай і качовай да земляробства, сталіся гаспадарамі на занятай і выкарчаванай зямлі. З часам, як настаў панскі прыгон, сяляне ня толькі павінны былі ўрабляць зямлю, з якой хлеб ішоў у сялянскую сям‘ю, але і працаваць на пана, які, як самых сялян, так і ўсю зямлю на якой працавалі сяляне, лічыў сваёй уласнасьцяй. Такім парадкам усю працу выкарчоўкі і вырабленьня зямлі на Беларусі спаўняў беларускі селянін, а вынікамі яго працы карысталіся іншыя—паны.

Гэтая несправядлівасьць часткова была спынена скасаваньнем паншчыны, але затое вельмі шмат зямлі, на якой працавалі сяляне-Беларусы перайшло на ўласнасьць пана, ці гаспадарства, або касьцёлу ці царквы. Прайшло 60 год і ўжо маем тое, што сялянам не хапае надзельнай зямлі (ужо і раней не хапала), сяляне проста душацца на маленькіх кусочках зямлі, бо ня маюць магчымасьці выжывіць сваю сям'ю. Рэч ясная, што гэты голад зямлі павінен быць здаволены і селянін малазямельны і бязьзямельны павінен дастаць зямлю, на якой пралівалі пот і кроў яго прадзеды. Зямлю гэту павінен ён дастаць дарма, бяз выкупу, бо ён яе не прадаў пану, але пан сілай пануючага ладу забраў зямлю ад селяніна бяз выкупу. Гэтакім парадкам зямля павінна вярнуцца ў рукі свайго даўнейшага гаспадара.

Ня можа быць тут ніякай гутаркі аб малазямельных, што прышлі з іншага краю; ім зямля належыцца але ў сваім краі, там дзе іх дзяды працавалі. У нашай жа Беларусі зямля павінна перайсьці толькі ў рукі сялянаў-Беларусаў, бо яны павінны быць гаспадарамі на сваёй зямлі. У сувязі з гэтым Беларускі Сялянскі Саюз і дамагаецца скасаваньня як найбарджэй вайсковага асадніцтва і прыватнай калянізацыі беларускіх земляў.

Беларускі Сялянскі Саюз імкнецца да таго, каб у Беларусі стварыць моцную сялянскую клясу, якая-б поруч з работнікамі трымала ў сваіх руках уладу. Каб дапяць гэтае мэты трэба падумаць ня толькі аб тым, каб падзяліць зямлю сярод малазямельных і беззямельных сялян, на якой цяперашнія ўласьнікі самі не працуюць, але яшчэ аб тым, якога тыпу павінны быць самастойныя гаспадаркі. Рэч ясная, што ніводзін селянін-гаспадар не захоча йсьці ў комуну, каб там супольна з іншымі працаваць, а пасьля толькі дзяліць паміж усімі хлеб.

Такая комунальная гаспадарка адбірае ад усіх іхнюю свабоду й прымушае ўсіх быць парабкамі эканома, які будзе кіраваць комунальнай гаспадаркай. Такі тып гаспадаркі нічым ня будзе розьніцца ад цяперашніх маёнткаў, бо як там, так і тут няма свабоды, няма пачыну (ініцыятывы) асобных сяброў камуны, ці парабкаў цяперашніх маёткаў. Нашаму селяніну найбольш падходзе тып самастойнай хутарнай гаспадаркі.

Самастойная хутарная гаспадарка, гэта такая гаспадарка, на якой гаспадар працуе сам, сам гаспадаркай кіруе й сам атрымлівае ўвесь ураджай. Пры гэтым з такой гаспадаркі селянін атрымлівае столькі даходу, што можа задаволіць усе свае патрэбы. Ня можа быць тут ніякой гутаркі, каб селяніну на самастойнай хутарнай гаспадарцы прышлося дакупляць хлеб, ці корм для скаціны.



Хутарная гаспадарка павінна даць столькі земляробскіх прадуктаў, каб іх хапіла на свае патрэбы ды яшчэ лішка была прадана ў места. За атрыманыя з прадажы земляробскіх прадуктаў грошы селянін можа сабе купляць прамысловыя тавары прылады, машыны, штучныя гнаі, мануфактуру й іншыя патрэбныя селяніну рэчы.

Хутарная гаспадарка розніцца ад цяперашняй вясковай гаспадаркі тым, што кожны селянін-гаспадар усё мае ў сваей гаспадарцы й не патрабуе тасавацца да іншых гас-



Пасол Фабіян Ярэміч,

Старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу і віцэ-старшыня Ц. К. Беларускага Сялянскага Саюзу.

падарак. Цяпер селянін вясковы павінен сеяць жыта на той зьмене, якой трымаецца ўся вёска, скаціну пасьвіць на агульным пасьвішчы і інш.

На хутарнай гаспадарцы селянін-гаспадар незалежна ад іншых вядзе сваю гаспадарку й як хоча, так і ўрабляе сваю зямлю. Такі гаспадар усё мае пад бокам і поле, і сенажаць (замест сенажаці можа пасеяць кармовыя травы), і ваду, і іншыя выгады. Што хутарная гаспадарка вельмі

карысная, пераканацца ў гэтым можна на фактах. Яшчэ за царскіх часаў, з пачатку ўрадаваньня Сталыпіна ў нашым Дзісьненскім павеце паўсталі такія хутарныя гаспадаркі. Хто блізка жывець каля гэтых гаспадарак, той бачыць, што хутарныя гаспадары вельмі добра жывуць, бо іх гаспадаркі даюць шмат даходу.

Аб тым, што хутарныя гаспадаркі найбольш падходзяць сялянам-Беларусам няма ніякага сумліву, тут толькі можа быць пытаньне, як нам перайсьці на такія гаспадаркі?

Пры падзеле ўсіх земляў (маёнткаў) павінен плянова праводзіцца пераход на хутары. Гэтай справай кіруюць самі сяляне. Перш-наперш сяляне асобных вёсак ці грамадаў павінны пастанавіць аб тым, што ўсе яны хочуць перайсьці на хутары. Пасьля сялянскія зямельныя камісыі пры ўчасьці спэцыялістых-землямераў праводзяць падзел зямлі на хутары. Пры гэтым падзеле кожны атрымае працоўную норму—столькі зямлі, колькі можа ўрабіць і колькі павінна хватаць для гаспадара.

Ёсьць ведама, на правядзеньне гэтае рэформы дзяржава павінна даць грошы й будаўляныя матэр'ялы, каб усе маглі пабудавацца на новых месцах і завясьці прыкладную гаспадарку.

Так-жа важным пунктам праграмы Саюзу ёсьць работніцкае пытаньне, яно павінна быць вырашана так:

Беларускі Сялянскі Саюз імкнецца да таго, каб прамысловыя фабрыкі былі ў руках рабочых, так, як зямля ў руках сялян.

Беларускі Сялянскі Саюз стаіць проціў вызыску капіталістымі работніцкае клясы, дамагаецца працы для ўсіх работнікаў і рашучай барацьбы з безрабоцьцем.

Беларускі Сялянскі Саюз стаіць за ўтрыманьне ўсіх сацыяльных здабычаў работніцкае клясы, а імена: 8-мі гадзіннага рабочага дня, абароны працы кабет і дзяцей, страхаваньне ад нешчасьлівых выпадкаў, старасьці, утраты здароўя, безрабоцьця і іншых.

У барацьбе за свае паасобныя ідэалы як сяляне, так і работнікі павінны ісьці разам і старацца адны адных падтрымліваць.

З вышэй зьмешчанага бачым, што Беларускі Сялянскі Саюз зьяўляецца сялянскай партыяй, якая вядзець працу за зьдзейсьненьне ідэалаў ня толькі сялянства, але і ўсяго Беларускага Народу.

Гэтае зьдзейсьненьне ідэалаў можа наступіць толькі дзякуючы ўсьведамленьню працоўных гушчаў і іх арганізаванасьці. Сьведамасьць і арганізаванасьць беларускіх сялян і работнікаў будуць рашучымі дзейнікамі ў вызваленьні нашай Бацькаўшчыны.



Пасол Сойму Кс. Адам Станкевіч,

выдатны беларускі дзеяч, адзін з найгалоўнейшых заклаўчыкаў Бел. Хр. Дэм.

*Ал. С.*

# Беларуская Хрысьціянская Дэмакрацыя (БХД).

Кожны, хто езьдзіў па вёсках і мястэчках нашага краю, кожны, хто заходзіў пад беларускую саламяную страху і стыкаўся з нашым народам бліжэй, той ня мог ня ўбачыць адной з галоўных рысаў нашага сярмяжнага сялянства:—глыбокай рэлігійнасьці. Выяўляецца яна ў тым, што блізка кожныя 5—10 вёрст дарогі, здалёку кідаюцца ў вочы вежы касьцёлаў, або цэркваў, якія кожны сьвяточны дзень запаўняюцца шчыльна народам. Прыдарожныя

крыжы, абразы бяз ліку на сьценах нашых хатаў сьведчаць як ня трэба лепш, аб глыбока закаранелай рэлігійнасьці сялянскіх масаў. Выявілася гэта і ў нашым жыцьці палітычным.

Калі пачаўся наш адраджэнскі рух, то пайшоў ён перадусім двума аснаўнымі шляхамі.



Павал Каруза,

Старшыня Цэнтральнага Камітэту Б. Х. Д. і рэдактар „Bełaruskaj Krynicy".

Па адным шляху да адраджэньня вялі людзі, якія думалі і думаюць дагэтуль, што з рэлігіяй, калі ўжо не змагацца адкрыта, то прынамся ня браць яе пад увагу. Гэтыя „паступоўцы" думалі так, бо, відаць, забыліся, чым ёсьць для нашых масаў хрысьціянская рэлігія і якую ролю адыграла яна ў руках варожых нам элемэнтаў пры паланізацыі і русыфікацыі нашага народу.

Па іншым шляху пашла тая часта правадыроў нашых, якая, будучы ў большай ці меншай меры сама рэлігійнай, бачыла агромністую вартасьць і сілу Хрысьціянства, бясспорную пабожнасьць нашай вёскі і патрэбу апоры на асновах хрысьціянскай маральнасьці.



Бачылі далей гэтыя перадавыя і інтэлігентныя сыны вёскі, што жыцьцё рэлігійнае Беларуса сьвядома было падпарадкавана мэтам палітыканскім, ці—прасьцей кажучы—праз рэлігію рабілася з Беларусаў, або Палякаў, або Расейцаў.



Альбін Стэповіч,

Віцэ-старшыня Цэнтральнага Камітэту Б. Х. Д. і выдавец „Biełaruskaj Krynicy".

На чале руху адраджэнскага, які меў на мэце так-жа ідэалы рэлігійныя, сталі перадусім ксяндзы Беларусы, якія і да сягоньняшняга дня былі аднымі з найбольш дзейных і ахвярных працаўнікоў для бацькаўшчыны. Да гэтых ксяндзоў прылучылася перадусім моладзь, якая будучы з крыві і косьці беларускай моладзьдзю, пераважна вышаўшай з вёскі, падзяліла погляды сваіх старшых братоў, ня пужаючыся беларускай духоўнай сутаны, бо ведала, што ксёндз Беларус—гэта-ж той самы сялянскі сын, які не пачураўся свайго народу, ня здрадзіў яго.

Ведала так-жа добра гэта моладзь, што ксёндз, які мае адвагу ў нашых цяжкіх палітычных варунках называць сабе Беларусам, ёсьць ідэйным дэмократам у процілежнасьць да польскага духавенства і нашых ксяндзоў рэнэгатаў, што—дзеля ласкі ў сьвецкіх і духоўных уладаў і сяброў-



Янка Шутовіч,

Сэкрэтар Цэнтральнага Камітэту Бел. Хр. Дэм.

ства з абшарнікамі пры картачным зялёным століку — вырakліся сваей беларускай мовы і свайго пароду.

Адносна праваслаўнага духавенства, трэба сьцьвердзіць, што яно яшчэ ня зусім сабе уявіла ідэю адраджэньня нашага народу. Сяньня яшчэ праваслаўныя сьвяшчэньнікі у сваей большасьці зьяўляюцца толькі спакойнымі нагляднікамі таго магутнага адражэнскага руху, які захапіў іх праваслаўныя парафіі. Прычыны гэтакай бяздзейнасьці рожныя. Галаўнейшыя з іх: расейскае паходжаньне сьвяшчэннікаў і няпрыхільныя адносіны да ўвядзеньня беларускай мовы ў царкву з боку ўладаў. Ня гледзячы на гэта



у апошнія часы даецца заўважыць, што частка праваслаўнага духавенства, вышаўшая з беларускай вёскі пачынае ўжо ціха ці яўна хінуцца на беларускі нацыянальны грунт па прыкладу іншых інтэлігентных сыноў вёскі, праваслаўнай веры. Такім чынам Беларусы, якія прызнаюць вялікае значэньне хрысьціянства у грамадзкім жыцьці нашлі супольны шлях, бо розьніца рэлігіі ня можа быць перашкодай да нацыянальнай еднасьці.



Абсольвэнт мэд. Язэп Жук

Заступнік сэкрэтара Ц. К. Б. Х. Д.

Вось калі наша хрысьціянская інтэлігенцыя, на чале з духавенствам у апошнія гады ўбачыла, што праца пад сьцягам поўнай незалежнасьці Бацькаўшчыны будзе больш карыснай пры арганізацыі партыйнай—пастанавіла стварыць сваю партыю Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыі з падрабязна апрацаваным статутам і праграмай.

Каб ня паўтараць таго, што вышэй друкавалася аб праграме Сялянскага Саюзу, трэба зазначыць, што між праграмай БХД і Сял. Саюзу розніца вельмі малая. Розніца гэта выяўляецца толькі ў нястачы зацікаўленьня справамі рэлігіі з боку Сял. Саюзу і выдзяленьнем мейсца

перадусім на інтарэсы сялянства, у той час, калі мэты БХД носяць характар агульна-нацыянальны і хрысьціянскі.

Галоўнымі мэтамі БХД зьяўляецца: *імкненьне да самастойнасьці Беларускага Народу на ўсіх яго землях, аб'яднаных у дэмакратычную рэспубліку, зямля бяз выкупу беззямельным і малазямельным сялянам у працоўнай норме на праве ўлас-*



Абс. мэд. Балеслаў Грабінскі.

Сябра Цэнтральнага Камітэту Бел. Хр. Дэмакр.

*насьці, скасаваньне чужацкага асадніцтва на нашых землях, абавязковая пачаткавая школа ў роднай мове з навучаньнем рэлігіі і беларуская мова ў дадатковых набажэнствах у касьцеле і царкве.*

На зьездзе прыхільнікаў Б.Х.Д. 24.X.26 запраектаваны статут з невялікімі зьменамі быў прыняты і выбраны Урад Цэнтральнага Камітэту Беларускай Хрысьціянскай Дэмократыі у наступным складзе: Старшыня П. Каруза, Віцэстаршыня кс. пасол А. Станкевіч, Сэкрэтар А. Стэповіч, Скарбнік — Ст. Станкевіч, Заступнік сэкрэтара — І. Жук



Сябры: кс. В. Гадлеўскі, В. Грабінскі, І. Красоўскі і Я. Пазьняк.

Неспадзяваным ударам па гэтай партыі быў прысуд над кс. Гадлеўскім і забарона працаваць у органе БХД „Б. Крыніцы" паслу кс. А. Станкевічу.

Пасьля выхаду з презыдыуму пасла кс. А. Станкевіча па загаду Арцыбіскупа і адарваньня прысудам кс. В. Гадлеўскага ад працы, мейсца Віцэ-старшыні Ц. К. заняў гр. А. Стэповіч, становішча сэкрэтара — Я. Шутовіч.

Ня гледзячы на адыход перадавых адзінак, Беларуская Хрысьціянская Демократыя зусім нармальна разьвіваецца і знаходзіць штодзень новых прыхільнікаў у асобах шчырых сыноў Маці Беларусі, а гэта паказвае, што БХД стаіць на правільным шляху.



*П. К—за.*

## Беларускі нацыянальны Камітэт.

Віленскі Беларускі Нацыянальны Камітэт паўстаў у 1919 годзе. У гэтым часе істнавалі ў Вільні 3 беларускія палітычныя групы: Хрысьціянская Дэмократыя, эсэры (соцыял-рэволюцыянэры) і эсдэкі (соцыял-дэмократы), між якімі пачалі зарысоўвавацца што раз выразьней розніцы поглядаў на агульна-нацыянальныя справы. Пры гэткіх абставінах адчувалася патрэба міжпартыйнай установы, якая кіравала-б цэласьцю агульна-нацыянальнай палітыкі. Дзеля гэтага быў утвораны Нацыянальны Камітэт. Будова Камітэту апіралася на г. зв. коаліцыі г. зн., што камітэт складаўся з прадстаўнікоў усіх істнуючых палітычных групаў на правах роўнасьці для кожнай групы. Каб-жа даць магчымасьць удзелу у працы Камітэту так-жа і людзям беспартыйным, у камітэт уваходзілі і прадстаўнікі ад усіх беларускіх грамадзкіх арганізацыяў.

Аднак-жа галоўным чынам камітэт апіраўся на палітычных партыях, дзеля чаго ў Урад камітэту зложаны з 3 асобаў уваходзілі прадстаўнікі 3 істнуючых партыяў па аднаму ад кожнай. Пры гэткай будове камітэт зьяўляўся маленькім парлямэнтам, на грунце якога прадстаўнікі розных палітычных кірункаў, дарогай нарадаў і ўзаемных кампрамісаў (уступкаў) заўсёды даходзілі да паразуменьня ў прынцыповых справах агульна-нацыянальнай палітыкі.

Калі-ж пасьля выбараў у Сойм у 1923 годзе быў утвораны Беларускі Пасольскі Клюб, значэньне Нацыянальнага Камітэту само сабой памяншаецца, або ад гэтага часу роль парлямэнту бярэ на сябе ўжо Пасольскі Клюб. Праца ў Нацыянальным Камітэце памалу замірае.

Але ў 1925 годзе ў Пасольскім Клюбе наступае разлом і Клюб перастае быць месцам міжпартыйнага паразуменьня. Узнаўленьне даўнага значэньня Нацыянальнага Камітэту становіцца канечным. Але і самую арганізацыю камітэту трэба было абнавіць, бо шмат чаго за гэты час зьмянілася. Месца збанкрутаваўшых у сваей ідэолёгіі эсдэкаў заняла „Грамада". Эсэры, пасьля высяленьня за межы польскай дзяржавы Ластоўскага, Душэўскага і другіх, рассыпаліся і ў Заходняй Беларусі, як партыя перасталі істнаваць. Затое паўстала новая партыя „Сялянскі Саюз". Адна Хрысьціянская Дэмакрацыя істнавала падаўнаму, згрупаваная каля сваей газэты „Крыніца". Вось-жа было прыступлена да рэарганізацыі Нацыянальнага Камітэту. Але большасьць грамадзкіх установаў была тады пад уплывам „Грамады" і вось большасьцю галасоў грамадоўцы хацелі правясьці ў урад камітэту толькі сваіх людзей. Прадстаўнікі іншых партыяў запратэставалі проці пагвалчэньня прынцыпу камітэту—коаліцыі. Тады грамадоўцы запрапанавалі выбраць урад беспартыйны. Пратэстуючыя, каб не дапусьціць да аканчальнага разлому Нац. Камітэту згадзіліся на апошнюю прапазыцыю і ўрад камітэту быў выбраны з асоб быццам беспартыйным. Аднак гэты абноўлены камітэт да ролі парлямэнту і міжпартыйнай установы так і не вярнуўся.

Новы ўрад Камітэту аказаўся пад поўным уплывам тых асоб з „Грамады", якія ніяк не хацелі з свайго боку існці на якіяколечы ўступкі, як гэта бывала даўней, а хацелі, каб Камітэт выражаў толькі аднастароньні погляд „Грамады" на ўсе агульна-нацыянальныя справы. Дзеля гэтага ўрад Камітэту ў працягу свайго паўтарагадовага істнаваньня не парупіўся склікаць ніводнага агульнага сходу Камітэту. Нічога не памагалі колькіразовыя дагамаганьні сяброў Камітэту. Урэшце сябры Камітэту, знецярплівеныя ненармальнымі адносінамі ў Камітэце і бачучы, што ніколі не даб'юцца ад ураду скліканьня агульнага сходу, даручылі паслу Ф. Ярэмічу і гр. А. Стэповічу склікаць агульны сход Камітэту.

Сход быў скліканы 1 ліпня 1927 году на, які прыбыло большасьць сяброў Камітэту, гэты: сход выбраў новы ўрад Камітэту.

У гэтым часе істнавалі ўжо толькі дзьве партыі Хрысціянская Дэмакрацыя і Сялянскі Саюз, Грамада-ж была ўжо зьліквідованая.



Вось-жа каб захаваць даўны прынцып камітэту—права роўнасьці сход, выбраў у новы ўрад 2 партыйных і 1-го беспартыйнага, а мяноўна: беспартыйнага сэнатара Багдановіча старшынёй Камітэту, прадстаўніка „Сельсаюзу" пасла Ярэміча віцэ-старшынёй і прадстаўніка Б. Х. Д. гр. Карузу сэкрэтаром.



Сэнатар Вячэслаў Багдановіч,
Старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні.

Даўны ўрад Камітэту не прызнаў новых выбараў і склікаў другі сход 12 ліпня 1927 г. На гэтым сходзе аказалася меншасьць сяброў Камітэту, дзеля чаго пастановы гэтага сходу не маглі быць правамоцнымі. Гэткім чынам законным аказаўся новы коаліцыйны ўрад. Можна спадзявацца, што цяпер Камітэт ізноў стане тым, чым быў у пачатку свайго паўстаньня.



# Земляробская гаспадарка.

А. К.

## Пяшчанае золата.

Ніхто хай не падумае, што кажучы аб „золаце“ думаю нейкі жарт. Крый Божа. „Золатам пяшчаным“ называе нямецкі досьледны земляроб ня што іншае, як толькі т. зв. зялёнае гнаеньне. Ці слушна, — пабачым.

Каб поле добра радзіла, трэба яго добра спрацаваць (успахаць), *угнаіць* і падабраць добрае насеньне. Пакідаючы тут стараной першае і апошняе, прыглянемся бліжэй толькі *гнаеньню*. Вось-жа гнаеньне ёсьць ня што іншае, як прыкормліваньне часам згаладаўшай глебы. Такое прыкормліваньне можа дзеіцца прыдаваньнем у глебу або звычайнага хлеўнага гною, або гнаёў штучных (парашкоў), або ўрэшце гадаваньнем расьцінаў зялёнага гнаеньня і заворываньнем іх. Што хлеўны гной ёсьць вельмі добрым угнаеньнем сумлявацца ніхто ня будзе. Але дзе яго ўзяць на ўсе грунты, не хапае. А на нягноеных глебах у нас на Беларусі гаспадараваць нельга. Іншая рэч, што так часта дзеіцца, але гэтак рабіць нельга. Ёсьць два спосабы як у такім выпадку бядзе земляроба памагчы: дапоўніць гнаеньне гнаямі штучнымі (парашкамі), або выўжыць помачы *гнаеньня зялёнага*. Ужываньне гнаёў штучных ёсьць рэч вельмі добрая, але... дарагая. Далёка выгаднейшым ёсьць гнаеньне *зялёнае*. Тымбольш, што вынікі гэтага гнаеньня паказуюць сапраўдныя цуды. Бо і як-жа не?!

Суседняя нам амаль, Усходняя Прусія (у Нямеччыне) перад 150 гадамі была скрозь пакрытай самымі толькі балотамі, ды сыпучымі жоўтымі пяскамі. Была так беднай, што слаўны кароль прускі Фрыдрых Вялікі, каторага і сягоньня Немцы яшчэ называюць закладчыкам сваёй нямецкай магутнасьці, гэты кароль называў сваю Прусію „пустыннай Сахарай“, куды доўга і доўга ня мог нікагусенькага прывабіць, каб там пасяліўся і гаспадарыў... Гэта было. А сягоньня? Сягоньня Прусія ёсьць перлай усяго нямецкага земляробства і справядліва называецца „сьвірнам Нямеччыны“. Які вялікі скок! Сталася так дзякуючы вялікай празорлівасьці нямецкага духа, знайшоўшай і замацаваўшай новы, тады яшчэ зусім нязнаны спосаб палепшаваньня пяшчаных грунтаў. Такім „*спосабам*“ сталася „зялёнае гнаеньне“.

Але мыліўся-б той, хто-бы думаў, што з завядзеньнем зялёнага гнаеньня і ў Нямечыне ішло ўсё так лёгка. Не.



Народ доўга не хацеў верыць, што зялёнае гнаеньне і сапраўды ёсьць так памоцным, хоць і бачыў ягоныя вынікі: падвышэньне ўраджайнасьці. Доўга ўсяляк адгаварываўся... І не вядома чым-бы ўсё кончылася, каб ня той-жа іхны кароль Фрыдрых Вялікі, які бачачы бязмэтнасьць усякіх дальшых намоваў і пераконваньняў па добраму і аднаго дня ўзяў ды выдаў сумысны закон, наказуючы ўсім сваім прускім земляробам ужываць зялёнае гнаеньне. Такі закон быў выданы ў 1784 годзе. Не паслуханьне гэтага закону цяжка каралася... Сягоньня „зялёнае гнаеньне“ ў Нямеччыне ёсьць простай неабходнасьцю, без каторай земляроб нямецкі ўжо і не прадстаўляе як-бы мог жыць і гаспадарыць. Мімаходам толькі сказаны прымусовы закон у Нямеччыне аб зялёным гнаеньні, вельмі прыпамінае такі-ж закон аб разводжываньні бульбы, якую, міма найвідавочнейшай карысьці, сяляне адмаўляліся садзіць: мелі супроць бульбы дзіўныя на наш сяньняшні розум перакана괂ні, што бульба гэта „чортаў яблык“. Знаем сяньня ўжо ўсе, як карыснай для земляроба ёсьць бульба, падпора хлеба; зялёнае-ж гнаеньне ёсьць дзейнай падпорай усяго земляробства. Перакананае будзе аб гэтым ужо найбліжэйшае нам пакаленьне. А пакаленьне наша? Яно мусіць без адкладу да зялёнага гнаеньня прыступіць, калі ня хоча: 1-е дарма, а то і з стратай працаваць на нягноенай глебе і 2-е, калі ня хоча быць сьмешным уваччу будучых пакаленьняў так, як нам сяньня здаюцца сьмешнымі быць тыя нашы далёкія дзяды-прадзеды, што ўсімі сіламі адмаўляліся садзіць і есьці бульбу, аж пакуль іх да гэтага законам ня змусілі. Мы сягоньня мусім мець гэтулькі ўжо гаспадарскага розуму, каб пазнаць, што нам шкодзіць, што памагае і паводле гэтага сьцісла кіравацца. Зялёнае гнаеньне земляробу памагае і таму гэта гнаеньне трэба разумна выўжыць. Але як? Аб гэтым і пагаворым.

Кажачы аб зялёным гнаеньні разумеем загараньне ў глебу зялёнай расьціннай масы (націньня) звычайна сумысня дзеля гэтага гадаванай. Хто загорываў напр.: няўдаўшыся гарох, сачыўку і інш., той нясьведама для самога сябе ўжо гнаіў „зялёна“. Але сапраўды зялёна гноіць той, што загорывае расьціны толькі аднаго гатунку, а іменна: расьціны з сям'і т. зв. бабовых, інакш стручковых, ці ўрэшце матыльковых (палацінску leguminosae). Такія бо толькі расьціны патрапяць дадаваць глебе найцэньнейшую амаль кармовую сучастку, *азот*, з вольнага паветра. Для ўсіх іншных расьцінаў вагромністыя запасы азоту ў атмосфэры ёсьць недаступны. Якім спосабам стручковыя расьціны прыймаюць і складаюць у сабе вольны азот з паветра дагэтуль яшчэ дакладна ня ведаюць. Пэўным ёсьць гэтулькі, што галоўную ролю пры гэтым іграюць малыя струнькі на

карэньнях стручковых расьцінаў знаходзячыяся, ці яшчэ лепш, што гэту ролю іграюць вельмі малыя арганізмы (мікробы), што ў гэных струнках знаходзяцца. Апрача здольнасьці расьцін стручковых (бабовых, матыльковых) прыймаць і складаць пры помачы ўспомненых мікробаў вольны атмосфэрычны азот, важны гэтыя расьціны і таму, што коштам вольнай атмосфэры і глыбокага *сподy* глебы могуць вытвараць вялікае множства зялёнай арганічнай масы расьціннай, якая раскладаючыся ў глебе дадае ей шмат *перагною*.

Але на гэтым не канец: расьціны зялёнага гнаеньня— гэтак часам нззываюцца яшчэ вядомыя ўжо нам расьціны струковыя (матыльковыя),—маюць вельмі сільнае і доўгае карэньне, каторым высмактываюць спажыўныя прадукты з сподніх пластоў глебы для звычайных расьцінаў зусім не даступных. Шырокае лісьце гэтых самых расьцінаў вельмі добра прыкрывае глебу ад усякіх шкодных атмосфэрычных уплываў, як дождж-лівен і інш, што дзеяньнем сваім глебу зьбіваюць. Буйнае карэньне расьцінаў зялёнага гнаеньня, пранікаючы глыбока ў глебу, гэту апошнюю вельмі добра дробяць. На лёгкіх грунтах (на пясках), куды зялёнае гнаеньне асабліва бывае прыгодным, стручковыя расьціны важны яшчэ і тым, што затрымоўваюць у верхніх пластах глебы ейныя жыўныя сучасткі, каторыя інакш—пры голым, або чорным папары,—спаласківаюцца ў пласты сподпія і тым для расьцінаў бываюць зусім страчанымі. У пэўных выпадках зялёнае гнаеньне замяняе гной хлеўны, напр.: на палёх далёка ад сялібы паложаных, або куды бывае часта і зусім не магчыма гной хлеўны завясьці, як напр. поле за вадой, або на касагоры і інш. Заместа хлеўнага гною ўжываецца зялёнае гнаеньне і тады, калі хлеўнага гною або не хапае, або зусім гаспадарацца бяз жывёлы хлеўны гной вырабляючай (спробы заграніцай).

Ува-ўсіх такіх выпадках залёнае гнаеньне ёсьць проста неацанімай помаччу для земляроба.

З расьцінаў растучых у нас на Беларусі і належачых да сям'і стручковых (бабовых, матыльковых) трэба ўспомніць перадусім гарох, боб, сачыўку, лубін, сэрадэлю, канюшыну, люцынку і інш. Кожная з гэтых расьцінаў мае сваё ўпадабаньне ў пэўнай глебе. Але ўсім-жа ім патрэбны перадусім дастатак вогкасьці*). Дзеля добрага ўзросту расьцін зялёнага гнаеньня раіцца глебу, пад іхны пасеў празначаную, яшчэ пагнаіць звычайна ў глебе нехапаючымі ўгнаеньнямі фосфарнымі, ды калійнымі (паташовымі), азотных угнаеньняў ня трэба.

Зялёнае гнаеньне бывае няпоўнае і поўнае. Няпоўна зялёна гноіцца ўжо і тагды, калі заворываецца толькі ір-

*) Гэта ня знача, што расьціны такія можна сеіць у замокшыя грунты. Ніколі. Наадварот, замокшыя грунты трэба перад усім асушыць.



жышча пасьля скошаных расьцінаў зялёнага гнаеньня, ды карэньня. Поўным-жа такое гнаеньне бывае пры заворваньні ўсей вырасшай зялёнай расьцінай масы, скошанай, ці няскошанай.

Што датычыцца спосабу сяўбы расьцінаў зялёнага гнаеньня, дык разрозніваюць такіх спосабаў аж тры: расьціна зялёнага гнаеньня 1) як пасеў галоўны, 2) як падсеў і 3) як пасеў на сьвежа ўзаранае іржышча. Першага спосабу ўжыць можна толькі на навеях (навееныя сыпучыя пяскі) і наагул на глебах або горшых сваею якасьцю, або на такіх, на каторых толькі што пачынаюць па земляробску працаваць (дзірваны, выкарчаваныя пасекі і інш.); словам, усюды там, дзе глебы да спрацаваньня ёсьць досыць, дзе ня трэба скупіцца з кожнай пядзю глебы да спрацаваньня па земляробску прыгоднай. Дзе з прычыны нястачы глебы (малазямельле) трэба бывае кожную пядзю зямлі найбольш рацыянальна выўжыць, там гэткі, першы спосаб гнаеньня ёсьць ня выгадным, бо задарагім; далёка выгадней бывае ў такіх выпадках выўжыць два апошнія спосабы сеяньня расьцінаў зялёнага гнаеньня, як *падсеву*, або сяўбы на іржышча. Абодва гэтыя спосабы пазваляюць *адначасна* гадаваць як розныя збажжавіны, так і расьціны зялёнага гнаеньня.

Не на кожную глебу можна сеіць першую лепшую расьціну зялёнага гнаеньня. Гэтак на глебы пяшчаныя найлепш бывае сеіць *сіні* лубін, які зусім добра зносіць у глебе і вапну, падчас як іншыя сарты лубіну, напр. лубін жоўты вапну ў глебе ўжо ня сьцерпіць. Перад усімі астатнімі сартамі расьцінаў стручковых добра бывае глебу прыгнаіць вапнай. Цяжкія глебы добра родзяць коньскі боб, гарох, віку, ды швэдзкую канюшыну. Па прыгнаеньні вапнай на такіх глебах добра таксама родзіць сэрадэля ды чырвоная канюшына (інкарнат). Коньскі боб найлепш бывае сеіць як расьціну галоўную. Раіцца таксама ня сеіць толькі адзін які-небудзь сорт, але заўсёды мешаніну двухтрох сартоў. Калі-б адзін з гэтых сартоў дзеля якіх-небудзь прычынаў ня ўдаўся, дык ягонае мейсца ў такім выпадку займе сорт іншы. Цэласьць гнаеньня, як вытварэньня зялёнай расьцінай масы, пры гэтым не дазнае шкоды. Ня трэба хіба і зазначаць, што сяўба на зялёнае гнаеньне праводзіцца заўсёды *на густа*.

Другім з чаргі ёсьць спосаб сяўбы расьцін зялёнага гнаеньня як *падсеў*. Ужываецца на гэта перадусім канюшына, ды люцынка (medicago sativa), якія высяваюцца на вясну, як у збажжавіны зімовыя, так і ў яравыя. Пры засейваньні канюшыны ў збажжавіны яравыя можна або ўсё насеньне мяшаць і высеіваць пасьля разам, або спачатку высеіць адну толькі ярыну, а канюшыну (эвэнт.

люцынку) засеіць аж тады, як ярына ўжо абыйдзе. Засеенную канюшыну паводле апошняга способу трэба *лёгкімі* баронамі прыбаранаваць. Пасьля таго, як ярына ўжо пажата і з поля сабрана, канюшына астаецца на полі зімаваць. Вясной іржышча яравое з канюшыны дбайна выбаpануецца (глеба мусіць быць ужо *сухой*) і выграбецца. Да месяца чэрвеня маецца з канюшыны ўжо найлепшая паша, якая звычайна косіцца; заворываецца атава.

Трэцім способам ёсьць пасеў расьцінаў зялёнага гнаеньня на іржычша. Праводзіцца гэтак: як толькі ўжо збожжа пажата ставіцца ў копкі, іржышча *зразу-ж* між радоў копак падлушчываецца (плытка заарэцца) і засеіцца якой-небудзь, для данай глебы падхадзячай расьцінай зялёнага гнаеньня.

Дальшай важнай працай пры зялёным гнаеньні ёсьць заворваньне вырасшай расьцінай зялёнай масы ў глебу. Кіравацца пры гэтым трэба правілам, каб уся зялёная маса была добра прыкрыта ральлёй. Рабіць гэта можна ўсяляк: або вырасшыя расьціны косяцца і старанна ўкладаюцца ў барозны зараз-жа за плугом, або такія расьціны ня косяцца, а толькі старанна прывалковуюцца *цяжкім* валкам у *адзін* бок і пасьля ў гэты-ж бок заворваюцца. Дзеля ўлажэньня расьцінаў зялёнага гнаеньня ў баразну часта хапае прывесіць толькі перад паліцай плуга цяжкі ланцуг, ці нешта падобнае. Каб заараная расьцінная маса магла лягчэй у глебе раскладывацца, добра бывае пакошаныя гэтыя расьціны павязьці трохай гною.

Пара і глыбка заворываньня зялёнага гнаеньня залежа ад чароднага засеву і ад якасьці глебы. Агулам узята, трэба кіравацца такім правілам, што на цяжкіх глебах заворываецца зялёнае гнаеньне раней і плытчэй, а на лёгкіх—пазьней і глыбей. Перад азімымі пасевамі трэба зялёнае гнаеньне заворваць прынамся два тыдні перад сяўбой, кабароміна зьляглася. Пад ярыну заворываюцца расьціны зялёнага гнаеньня ўвосені найпазьней, як толькі можна. Добра бывае, калі гэтыя расьціны прыхопіць і мароз. Глеба пад густым травастоем перамярзае ня так хутка і таму зялёнае гнаеньне можна завораваць яшчэ і тады, як усё кругом ужо здаецца быць зьмерзшым. Можна заворываць зялёнае гнаеньне працягам зімы як толькі настане адліга, а поле ня бывае засьнежаным. На грунтох-жа лёгкіх, асабліва там, дзе ня бывае небясьпекі сухамені (засухі), можна зялёнае гнаеньне заворваць і аж на вясну.

Зялёна гнаіць можна як пад збажжавіны азімыя, так і пад яравыя. Заўсёды трэба мець на ўвеце вельмі частае нараканьне нашага земляроба, што „збожжа пасьля канюшыны вылягае“. Гэта праўда. Але чаму вылягае?



Вылягае яно таму, што расьцін зялёнага гнаеньня дадаюць глебе пераважна адну толькі кармавіну—*азот*. Здаровы-ж арганізм расьціны патрабуе апрача азоту яшчэ *фасфору* і *калія*, якія мусяць быць у глебу даданымі-ж ў форме штучных гнаёў, парашкоў: *фасфор* у форме супэрфосфату, або томасшляку, а калі—як кайніт, ці 40% калійная соль. Дзе гэтак робіцца, збожжа на зялёным гнаеньні вельмі буйна расьце, але не палягае.

Наагул-жа зялёнае гнаеньне ў час і ўмела праведзенае ёсьць найтанейшым угнаеньнем глебы, асабліва пяшчанай. Таму і назоў ягоны, як „пяшчанае золата“ ёсьць вельмі адпаведным.



# Што трэба рабіць з нашымі сенажацямі.

Сельская гаспадарка нашага часу дае добрую карысьць і аплачывае цяжкую працу нашага земляроба толькі тады калі ўсе галіны яе знаходзяцца ў добрым стане. Заняпад аднэй галіны вызывае занпад другой і шкодна адбіваецца на ўсей гаспадарцы.

Мусіць ні адна галіна сельскае гаспадаркі не знаходзіцца ў нас у такім заняпадзе, як нашы сенажацы. Ніву сваю наш селянін сяк-так абрабляе, час-адічасу яе ўгнойвае а сенажаць гэтага ня бачыць. Што год бяручы з лугоў пакосы і нічога не аддаючы ім у замен, мы прывялі да таго, што на нашых сенажацях, апроч моху, розных казлоў ды чарнагалоўкі, нічога не расьце.

І няма дзіва, што пры нашым малазямельлі і нядбалым даглядзе за сваімі лугамі, кармавое пытаньне ў нас усё болей і болей дае сябе адчуваць, у сувязі з чым наша жывёлагадоўля—гэта адна з карысьнейшых галін сельскае гаспадаркі—сягоньня ня можа нават акупіць кошту свайго ўтрыманьня.

Сенажаць—гэта дойная карова ў гаспадарцы.

Сколькі-ж мы маем добрых сенажацяў?

Сенажацяў у нас ёсьць шмат, але добрых вельмі і вельмі мала. Усе яны па прыроднай якасьці не такія ўжо дрэнныя, каб на іх не зьвяртаць увагі. Даволі толькі прылажыць трохі працы, каб аддаліць тыя прычыны, якія выклікалі іх зьдзічэньне, і хутка можна будзе ўбачыць вынікі нашае працы.

Сенажаці ў нас дрэнныя галоўным чынам ад двух прычын: ад недастачы ў грунце вады, ці ад лішку яе. Бяручыся за паляпшэньне лугоў, гаспадар і павінен павясьці сваю працу ў гэтым кірунку, каб перш аддаліць

гэтыя прычыны і даць магчымасьць расьліне лепш выкарыстаць як прыроднае багацьце грунту, гэтак і ўнесеннае ўгнаеньне.

У гэтым нарысе перш мы разгледзім, як палепшыць сенажаці, якія не патрабуюць асушкі, дзеля чаго іх трэба і перш прывадзіць у культурнае становішча.

**Сухія лугі,** на якіх расьцець мох ды другія неспажыўныя расьліны, часта бывае карысным абярнуць іх у ральлю. Калі гэтага па якіх-небудзь прычынах зрабіць нельга, дык на такім куску лепш залажыць штучны луг з падсевам культурных траў (Гл. рыс. І). Першая работа тут пачынаецца з ачышчэньня сенажаці ад кустоў і купін. Зрабіўшы гэту работу, луг трэба яшчэ ачысьціць ад моху і ўспульхнуць залежаны і ўтоптаны верхні слой зямлі, чым дамо магчымасьць паветру, цяплу і спажыўной матэрыі пранікнуць да карэньняў лепшых лугавых траў і падняць іх жыцьцядзейнасьць. Гэтага можна дасягнуць баранаваньнем спэцыяльнымі луговымі баронамі, ці звычайнымі з вострымі жалезнымі зубамі. Першае забаранаваньне робіцца ўвосень і сенажаць барануецца да чарна. Выбаранаваны мох складаецца ў кучкі і, як прасохне, паліцца ці звозіцца дамоў на падсьцілку ў хлявы. Попел-жа ад моху роўна раськідваецца па лугу. З мінэральных угнаеньняў уносяць патасоўку каля 20 пуд. на дзесяціну, патасовую 30% соль-каля 10 пуд. і луг ізноў барануюць, каб парашкі зьмяшаць з зямлёй. Вясной, як толькі луг абсохнець, яго яшчэ раз барануюць, засяваюць лугавымі травамі і прыкатваюць калодай (катком).

Але бываюць выпадкі, што сенажаць так адзічэла, зямля так зьлеглася, што апісанымі спосабамі паляпшэньня значнага дасягнуць ня ўдаецца. Тады гэтакую сенажаць прыходзіцца тымчасова абярнуць пад ральлю і гадоў цераз 4—6 засяваюць лугавымі тр.вамі. Паднімаюць дзярніну на такой сенажаці не пазьней жніўня м-ца на глыбіню $1^1/_2$—2 арш. Увосень, добра выбаранаваўшы дзярніну, сенажаць аруць на поўную глыбіню. У першы год пад лёну, пасьля пад авёс. На трэці год на лёгкіх землях можна садзіць бульбу, унёсшы перад гэтым патасовай солі мерай каля 15-20 пуд. на дзесяціну. На чацьверты год сеюць авёс з падсевам траў і астаўляюць гэты кусок пад штучны луг. Перад пасевам траў трэба абавязкава ўнясьці мінэральнага ўгнаеньня, бо ў праціўным выпадку ўся праца гаспадара і выдаткі на паляпшэньне сенажаці не дасягнуць сваей мэты. Без угнаеньня сенажаці палепшыць яе ніколі не ўдаецца, бо папярэднімі пакосамі мы лугі свае настолькі спусташылі, што на іх ня можа расьці культурная трава.



**Балоцістыя сенажаці** Калі сухія сенажаці прывясьці ў культурнае становішча—работа ня вельмі складная, дык гэтага нельга сказаць пра мокрыя сенажаці.

Агульна прызнаных правіл для паляпшэньня балоцістых сенажацяў няма, дый балоты па натуры сваей бываюць розныя.



Рыс. І.

Галоўнымі нястачамі мокрых сенажацяў зьяўляецца лішка вады і нястача пажыўных сокаў для расьлін, ад чаго на мокрых сенажацях растуць дрэнныя балотныя травы, часта ня маючыя ніякай сельска-гаспадарчай вартасьці.

У культурных, заходніх краінах, асабліва ў Нямеччыне, у выкарыстаньні балот дасягнулі значных вынікаў, дзе працай над балотамі кіруюць балотныя дасьледчыя станцыі. У Заходняй Беларусі гэтакай станцыі няма, а даннымі Менскай балотнай станцыі нам, нажаль, карыстацца немагчыма, ня гледзючы на тое, што гэта станцыя ў апошнія часы шырока разьвіла сваю працу над вывучэньнем спосабаў паляпшэньня вільготных лугоў, у чым ей удалося дасягнуць добрых вынікаў.

Якое-б ня было балота, будзь гэта асокавае, тарфяное, ці пераходнае, для якіх-бы мэтаў гаспадар ня думаў балота ўжываць: пад палявыя расьліны, сенажаць, выган для скаціны, або для ўжываньня торфу як апалу ці ўгнаеньня—усялякую працу пачынаюць перш з асушкі. Ад правільнага выкананьня асушкі балот залежыць посьпех працы. Пры асушцы трэба мяркавацца: для якой мэты

гаспадар думае ўжываць балота. Калі яно мае быць ужывана для палявых расьлін, балота трэба асушыць глыбей, а для сенажацяў узровень грунтовых вод зьніжаюць менш глыбока. Зьніжэньне грунтовых вод на выган для скаціны трэба рабіць глыбей чым пад сенажаць і менш глыбока чым пад палявыя расьліны. Зьніжэньне грунтовых водаў рэгулюецца глыбінёй канаваў і іх адлежнасьцю аднэй ад другой.

Асушваюць мокрыя сенажаці двума спосабамі: адкрытымі равамі і закрытымі. Апошні мае перавагу перад першым дзеля таго, што эканоміць плошчу зямлі; усоўвае перашкоды ў часе працы на сенажаці і патрабуе менш рамонту.

Каб асушыць вялікія абшары балота, перш трэба зрабіць плян асушкі яго, што вымагае спэцыяльнасьці інжынера, у праціўным выпадку ўся праца і кошт гаспадара можа даць яму адну страту. На малых кавалках часта можна пачынаць асушку і самому, калі гаспадар добра ўявіць сабе, дзе капаць равы, якой глыбіні, на якую адлежнасьць праводзіць канавы, для якой мэты асушка робіцца і г. д.

Пры асушцы перш праводзяць галоўную канаву, якая мусіць быць пакіравана ў натуральнае вадазборышча (возера, рака), а патым капаюць бакавыя канавы. Галоўную канаву праводзяць па самаму нізкаму месцу, для паказаньня чаго служаць розныя спосабы. Здараецца, што калі праз балота цякла рэчка, якая ўжо зарасла травою, дык галоўную канаву трэба вясьці па яе рэчышчу, дзе большы нахіл. Для гэтай-жа мэты карыстаюцца і вясновым разводзьдзем: дзе больш зьбіраецца вады, кірунак стоку яе і паказывае месца для галоўнай канавы. Калі тут гаспадар парупіцца азначыць яшчэ і ўсе выкрунтасы стоку вясновай вады, дык яму лёгка будзе выбраць правільны кірунак галоўнай канавы. Гэтыя канавы заўсёды капаюцца адкрытымі, глыбей і шырэй бакавых.

Капаньне канаваў лепш расьцягнуць на два-тры гады каб балота асядала паступова (Гл. рыс. II).

Часта бывае неабходнасьць у сухі год падняць узровень грунтовых водаў,—тады робяць застаўкі, якія робяцца большаю часткаю толькі на галоўных канавах, ад чаго вада падымаецца і ва ўсіх баковых канавах і расходзіцца па ўсей плошчы асушанай сенажаці.

Пасеў траў або інш. расьлін трэба пачынаць толькі тады, калі верхні слой сенажаці будзе добра выраблены воркай і выраўнены. Раўнаваньне асушанай сенажаці патрэбна дзеля таго, каб мець аднальковую вільгаць, бо лішне сырая зямля будзе шкодзіць узросту траваў.



Якія травы сеяць на сенажаці,—гэта залежыць ад мясцовых умоваў. Лепш за ўсё тут зьвярнуцца за парадай да агранома. Пры састаўленьні мешаніны лугавых траваў, трэба мець на ўвазе, каб тут знаходзіліся травы, якія-б маглі расьці на той зямлі, якая для іх адпускаецца, каб яны адказвалі нашым кліматычным умовам, каб тут былі як нізавыя, гэтак і верхавыя травы і г. д.



Рыс. II.

**Як прыклад прыводзім наступную мешаніну лугавых траў для розных грунтаў у ўмовах гаспадаркі на Беларусі. (Вага паказана ў кілёграмах, кіл.=$2^1/_2$ ф.)**

| | Сухадольле | Нізкія сенаж. |
|---|---|---|
| Канюшына чырвоная | 2,4 | 1,6 |
| „ Швэдзкая | 3,2 | 2,4 |
| „ Белая | 1,2 | 1,2 |
| Цімафейка | 6,0 | 6,0 |
| Жытнік бязвусы | 8,0 | 4,0 |
| Муражніца лугавая | 4,0 | 5,6 |
| „ чырвоная | — | 2,4 |
| Мятлік лугавы | 3,2 | 3,2 |
| Купкоўка | 3,2 | 3,2 |
| Лісахвост | — | 3,2 |
| Палявіна белая | — | 1,6 |
| Усяго на дзесяціну | 32,0 | 34,4 |

Пасьвіць жывёлу на засеяных травах можна толькі на другі год, тыдні праз два пасьля скосу і ні ў якім разе ня трэба пускаць з вясны, ці позна ўвосень, як луг вельмі мокры і топкі. Пачынаючы з трэцяга году, сенажаць трэба баранаваць з унясеньнем угнаеньня.

Пасьля таго, як палепшана сенажаць і на ёй пачала расьці добрая трава, трэба з належнай увагай клапаціцца аб далейшым даглядзе за лугам. **Толькі добры дагляд прымусіць сенажаць даваць высокія ўраджаі траваў і дапаможа падняць жывёлагадоўлю на Беларусі.**

**Лугавод.**

# Што трэба мець кожнаму гаспадару на вёсцы.

Хто жывець на вёсцы, той добра ведае, як трудна нашаму гаспадару пры хваробах яго хатніх жывёлаў. Да вэтэрынарнага доктара далёка, да аптэкі—таксама ня блізка, так што, нават маючы дамавы лячэбнік і ўмеючы карыстацца ім, нічога ня можна зрабіць, дзякуючы немагчымасьці хутка дастаць зельле.

Вось дзеля чаго ў гэтакіх выпадках трэба здавальняцца простымі способамі, што кожны раз можна мець пад рукой. Хуткае ўжываньне іх часам спыняе хваробу, гэтым самым папераджае выдаткі на лячэньне і нават усьцерагуць ад страты жывёлы. Апроч таго, ня трэба запамінаць, што шмат простых способаў-гэта ёсьць вынік векавых наглядаў народу і таму заслугваюць асаблівай увагі.

**Александрыйскі ліст** вядомы ў аптэках пад назовам „лістоў сенны“ і дабываецца ад некаторых відаў растучага ў дзікім стане ў Эгіпце і Нубіі кустоў—квасія; даўно вядома як добры звальняючы сродак; трэба толькі помніць, што добрага дзеяньня можна чакаць толькі ад зялёных лісткоў, а бурыя ці жоўтыя паказваюць на дрэннае перахоўваньне лісьця і карысьці ад ужываньня іх ня бывае.

Даюць Александрыйскі ліст больш усяго дробнай жывёле. На шклянку вады кладуць 2-3 залатнікі лісьця і даюць па лыжцы праз дзьве гадзіны, пакуль не настане звальненьня У вялікай колькасьці лісту, а таксама цяжарным жывёлам у апошнія часы іх цяжарнасьці даваць ня трэба.

**Палюнак** (рамашка) і **бузіна.** Гэтыя агульна вядомыя расьліны, слывуць, як добра патагонныя. Ужываюцца як настой з кветак пры хваробах ад прастуды, рэўматызму, трасцы, ламотах, кольках у жываце, пры задзержаньні мачы і інш.



Даваць адвар вялікім жывёлам 5-7 бутэляк трэба цёплаваты і адначасна ахутваць хворую жывёлу дыванам. Жывёла супакойваецца і зьяўляецца ў яе пазыў на корм. Таксама і рэўматызм пры працяжных леках рамашкамі і бузіной удаецца супакойваць, але тут трэба помніць, што скаціну трэба пільна берагчы ад сьцюжы, бо ў праціўным выпадку пры патагонных сродках можна жывёлу наразіць на прастуду яшчэ горшую.

Апроч таго рамашкі (ў 5% сьпіртавым настою) ужываецца як вонкавы сродак пры ранах, макрэцах, струпах і іншых скурных хваробах.

Рамашкі ўжываюць для прамываньня кішэчніка; удыханьне пароў гарачага адвару карысна пры кашлю жывёлы, якая ад гэтых пароў выдзяляе макрату.

**Морква, пырнік.** Гэтыя расьціны розныя па батанічнаму віду, аднолькавыя па фізыолёгічнаму дзеяньню на жывёлу. Ужываюцца для аблягчэньня выхаду калу і для супакойваньня розных боляў у жываце.

Паступаючы ў арганізм яны спрыяюць ачышчэньню крыві. Ужываюцца пры хваробах жывата, дыхальных шляхоў, пры кашлю, пры золзах, дыхавіцы і інш. Моркву даюць рэзкай—буйным жывёлам 7-10 ф. і дробным—2-4 фун. Сьвіням, авечкам і козам лепш даваць моркву варанай. Пырнік (карэньні) даецца парашком ад 20 да 10 зал. 2-4 разы ў дзень. Пырнік ужываецца яшчэ і для здабрываньня іншых зельляў, як напр.: нашатыру, любэрскую соль, дзёгаць, сьвінцовыя і жалезныя солі і г. д. Калі гэтыя сродкі пасыпаць парашком пырніку, дык скаціна болей ахвотна паядае.

**Цытворнае насеньне і карэнь папаратніку** ўжываюцца проціў рабацтва, дзеля чаго кожны селянін мусіць мець іх у сваей аптэцы. Цытворнае насеньне, ці лепш краскі і лісьцё аднаго туркестанскага віду расьціны Artemisia, да якога належыць і наш палын. Даюць проціў круглых рабакоў да $1/2$ фунта насеньня (з мукой і вадой) па 2 разы ў дзень. Карэнь успомненага папаратніку зьбіраецца ўвосень і высушаны перахоўваецца ў сухім месцы. Чым малодшы карэнь, тым лепшае аказвае дзеяньне. Ужываецца парашком буйнай жывёле $1/2$—$1/4$ фун. і дробнай 1-5 лотаў.

**Дзёгаць.** Бярозавы дзёгаць здаўна вядомы з вясковай практыкі, як сродак проціў гніеньня. Ды і ў сучасны мамэнт вэтэрынары часта ўжываюць яго пры старых гніючых ранах дзякуючы чаму гніеньне хутка спыняецца, раны зарубцоўваюцца. Асабліва добра змазваць хворыя капыты ў каней, а так-жа розныя скурныя хваробы (паразіты) на целе жывёлы. Дзёгаць ужываецца звычайна як мазь у складзе 1 частка дзёгцю і 2 6 частак зялёнага мыла, ці

4-10 частак расьціннага масла. Перад мазаньнем хворае месца трэба абмыць цёплай вадой. Праз некалькі дзён (4-7) мазь змываюць і паўторна яе ўціраюць.

Дзёгаць даюць жывёле і ў сярэдзіну для аблягчэньня выхаду макротаў пры запаленьні дыхальных шляхоў. Для гэтага хворую жывёлу прымушаюць удыхаць пары дзёгцю ў працягу 10-15 мінут. Так дзёгаць ужываюць асабліва пры хваробах авечак на рабацтва, якое пад уплывам пароў дзёгцю выкідваецца вон. Наагул, дзёгаць рэкамандуецца ўжываць авечкам, каб пападзіць розныя лёгачныя і кішачныя хваробы.

Дзёгаць даюць вялікай жывёле ад 3-7 зал., а дробнай 1-3 зал. калючкамі, зробленнымі на муцэ. Вядома, трэба браць заўсёды лепшы гатунак дзёгцю і абавязкава бярозавы.

**Воцат.** Добры сталовы воцат ужываецца як сродак жарапа ніжаючы пры галоўных хваробах і інш. У вэтэрынарыі ім карыстаюцца пры запаленьні грудзей, жывата, пры вывіхах, пры запаленьні вымя, капыта (на капыт звычайна кладзецца гліна аблітая воцтам). Неразьведзены воцат ужываецца для зьніштажэньня барадавак і іншых дзікіх наростаў на целе.

Ужываецца воцат і пры нутраных хваробах і тут ён зьніжае тэмпэратуру арганізма, а таксама спрыяе выдзяленьню мачы. Даецца воцат у сярэдзіну з слаба падквашанай вадой. Воцат, уладае праціўгніючымі асаблівасьцямі, з карысьцю ўжываецца пры ўздуцьці жывата газамі.

**Гліцэрына.** Перш гліцэрына ўжывалася для мазаньня капытаў, але цяпер даведзена, што яна высушваючы капыт, хутчэй будзе шкоднай для капыта, чым карысным. Ужываюць гліцэрыну пры макраце ў каней, пры корках, струпах па скуры. Часта для гэтага гліцэрына ўжываецца зьмяшаўшы з крахмалам (1 частка крахмалу і 15 частак гліцэрыны). Гэтай мяшанінай добра змазываць вымя кароў пры яго запаленьні.

**Саліцылавая кіслата.** Саліцылавай кіслатой карыстаюцца часта для перахоўваньня прадуктаў ад псаваньня. Так, напрыклад, раствор гэтай кіслаты забесьпячае мяса ад гніцьця, малако ад скручваньня, піва і віно ад акісьленьня.

У вэтэрынарыі ей карыстаюцца пры ранах, пры пашкоджаньні суставаў, пры хваробах сьлізістых плёнак, абмываючы хворыя месцы (1 часьць саліцылавай кіслаты і 500 часьцей вады) тры разы ў дзень.

**Карасіна** (нафта). Карасіну даюць у сярэдзіну жывёле пры кольках, уздуцьці яе, з пойлам (1 сталовая лыжка на бутэльку пойла). Дробным жывёлам трэба даваць толькі $^1/_4$ частку гэтае порцы.



Вонкавае ўжываньне карасіны больш распаўсюджана, асабліва зьмяшаўшы з якой-небудзь расьціннай клустасьцяй. Памагае праціў чужаедаў на целе, каросты і г. д. Мазьзю трэба мазаць хворае месца кожны дзень, змазываючы перад гэтым папярэднюю мазь.

**Камфора.** Ужываецца камфора пры леках нутраных хваробаў, каб супакоіць нэрвы і падняць сілы жывёлы. Ужываецца таксама і пры вонкавых хваробах.



## Першая дапамога хворай жывёле.

Часта ў гаспадарцы здараюцца сярод жывёлы розныя хваробы, якія нясуць вялізарныя страты як асобнай гаспадарцы, так і цэламу нашаму краю.

Наш селянін хоць і прызвычаены хадзіць каля жывёлы, але вельмі часта ня ведае, як засьцерагчы яе ад хваробы, або што рабіць, калі жывёла захварэе. Шукаючы парады, ён кідаецца ўва ўсе бакі і слухае ўсялякія забабоны розных знахароў, як у баб-шаптух, гэтак і ў розных самавучак-канавалаў, якія яшчэ і дагэтуль на вёсках туманяць галовы лёгкаверных нашых сялян і сваімі парадамі прыносяць людзям больш шкоды, чым карысьці.

Праўда, што ў гэтым выпадку наш селянін знаходзіцца сягоньня ў трудным становішчы, бо ў нас вельмі мала ня толькі вэтэрынарных дактароў, але няма і добрых фэльчароў, якія адны маглі-б даць праўдзівую раду, што і як рабіць з захварэўшай жывёлаю. Вось дзеля чаго лічым патрэбным, каб кожны гаспадар меў некаторыя веды аб хваробах больш сустрэкаючыхся ў яго жывёлах і аб першай дапамозе ёй, што часта можа паслужыць прычынай і поўнага выздараўленьня без спэцыяліста—вэтэрынара, да якіх нашым сялянам зьвяртацца немагчыма і па той прычыне, што яны занадта „шануюць сваю фатыгу", аплаціць якую ня кожнаму земляробу пад сілу.

Каб хоць трохі дапамагчы ў гэтай справе, мы тут задзержымся на больш распаўсюджаных хваробах, да якіх залічваем розныя віды кульганьняў.

**Кульганьне.** Кожная жывёла можа закульгаць пры зьвіхах, зломах, расьцяжэньнях цягніц (жылаў) і суставаў, або проста пры зашыбах і ад розных іншых прычын.

Дазнацца з якой прычыны закульгала жывёла бывае даволі трудна, як трудна бывае найсьці балючае месца дзе-небудзь у назе, ад якога жывёла кульгае. Вось чаму кожны раз лепш зьвярнуцца да вэтэрынара за парадай.

Але часамі бывае патрэбна і самаму гаспадару ўжываць тыя ці іншыя спосабы дапамогі каню або іншай жывёле, калі тыя закульгаюць.

Перадусім, трэба даведацца, на якую нагу жывёла прыпадае, а потым ужо шукаць прычыну хваробы і тое хворае месца, адкуль ідзе кульгавасьць.

Часамі не адразу і разьбярэш, на якую нагу жывёла кульгае У такіх разох трэба глядзець ня так на ногі, як на галаву, бо конь хворы, напрыклад: на *пярэднюю* нагу, паднімае кожны раз галаву тады, калі ступае на хворую нагу, а кульгаючы на якую-небудзь *заднюю* будзе спускаць галаву *ўніз*, ступаючы на хворую нагу.

Дзеля гэтага спачатку трэба папрабаваць кульгавага каня, правёўшы яго ступою, а потым крыху пагнаць і трушком, спачатку па мягкаму, а потым і па цьвёрдаму грунту.

Калі конь моцна падымае і быццам выкідвае нагу наперад—гэта сьведчыць, што боль дзесьці ўверсі нагі, а калі конь асьцярожна прыступае і зьлёгку ставіць нагу на грунт і баіцца на яе абапёрціся, дык можна думаць, што хвароба крыецца ў нізе нагі.

Аднак, ня досыць яшчэ абглядзець хворую нагу: яшчэ трэба абшчупаць яе рукамі, каб даведацца, ці ня мае яна дзе вопуху, ці не гарачэйшая яна ў якім-колечы месцы, ці скарадзіцца жывёла, калі прыцісьнуць ей у якім месцы. А каб распазнаць хваробу ў капыце, патрэбна яшчэ папрабаваць капыт і абцугамі. Звычайна агляд хворае нагі пачынаецца з капыта і раўнуючы хворую да здаровае нагі, шукаюць на ёй захварэўшага месца.

Даволі часта прычынаю кульганьня бывае сплечаньне каня на пярэдней назе і клубавое кульганьне—на задняй назе.

**Сплечаньне** бывае ад розных прычын: то ад збою, то ад расьцяжэньня плечавога суставу, ці ад застуды, ці апою і іншых.

Калі конь сплечыцца, дык ён пачынае кульгаць так, што шагі хворае нагі робяцца карацейшымі, нага паднімаецца над зямлёю, так што праз якую-небудзь перашкоду конь заўсёды кульгае менш, чым ідучы на гару; ён прысядае, калі яго крута павярнуць на хворую нагу. Стоячы-ж на месцы, такі конь выстаўляе хворую нагу наперад. Досыць часта ў хворым плячы ніякіх зьмен можна і не найсьці. Але часамі, калі конь закульгаў толькі нядаўна, прымячаюць вопух і гарычыню ў плячы, а калі хвароба задаўняна, дык плячо пачынае ўжо ўсыхаць.

**Клубавое кульганьне** здараецца ад тых самых прычын, што і сплечаньне, толькі яно бывае на задняй назе ў клубавым суставе.



Распазнаюць яго тым, што пры ходзе конь мала выкідвае наперад хворую нагу, робіць ёю карацейшы шаг, а часам і загрэбае ёю. (Гл. рыс. I).



Рыс. I.

Хворая нага не падымаецца высока над грунтам, а клуб ападае крыху ўніз праз што ў гэты бок скрыўляецца крыж. Асабліва конь моцна кульгае, калі яго крута павярнуць убок хворае нагі. Стоячы на месцы, такі конь адстаўляе хворую нагу назад і ўбок.

Лечаць сплечаньне і клубавое кульганьне не аднальква. Спачатку ўжываюць ахалоджваньне (гліну), а дзён праз 3—5, калі гарачыня паменшае, робяць расьціраньне з шэрай мазі (можна купіць у аптэцы), або ставяць на хворы сустаў гарчычнік.

Хворую жывёлу трымаюць у хляве бяз працы, нікуды яе не паганяюць, нават носяць ей ваду ў хлеў і потым, калі яна зусім перастане кульгаць, пачынаюць браць яе на самую лёгкую працу, але спачатку на кароткі час.

Пры задаўненай хваробе робяць уколы з розных лякарстваў.

**Ахват** (апойка). Ахватам завуць тыя хваробы ў жывёлы, што звычайна ў людзей завецца рэўматызмам, ламатою. Найчасьцей ахват бывае ў каня і залежыць ад двух галоўных прычын: ад застуды або ад неадпаведнага кармленьня.

Распазнаецца хвароба тым, што конь раптам робіцца смутны, перастае есьці, заплюшчвае вочы і цяжка дыхае.

Калі спрабаваць крануць ахвачанага каня з месца, дык ён упіраецца і ня хоча ісьці, а потым пачынае паволі пераступаць хворымі нагамі і хадзіць як спутаны. Ногі, (асабліва капыты) робяцца гарачыя і скура набракае на іх, стаяць такія коні сагнуўшы сьпіну і падабраўшы пад сябе заднія ногі, каб на іх узваліць увесь цяжар; пярэднія-ж ногі далёка выстаўляюцца ўпярод.

А калі хвароба захопіць усе чатыры нагі, дык і пярэднія ногі падводзяцца пад жывот.

Чым раней пачнуць ратаваць хворую жывёлу, тым больш надзеі, што яна хутка ачуняе. Часта ахват зацягваецца і калечыць каня на заўсёды.

Захварэўшага каня трэба адразу раскаваць і паставіць на густа замешаную гліну, а ў летку ставяць па бабку ў рэчку, каб адхваціць канцы ног. У сярэдзіну даюць глаўбэравае солі каля 1 фун. ў дзень на два разы. Ногі расьціраюць лятучаю мазьзю або шкіпінорам з алівай папалам. Падчас лячэньня каню трэба даваць лёгкага і на палову менш корму.

Трэба мець на ўвазе, што ахват мае нахіл вельмі лёгка паўтарацца і часамі дрэнна ўплывае на сэрца.

**Улога** азначаецца тым, што спачатку конь пачынае патроху прыпадаць на заднюю нагу, але толькі спачатку хады, далей-жа разыходзіца і перастае кульгаць. Цераз тыдзень-два кульгавасьць павялічваецца і адзначаецца невялікі, але цьвёрды вопух на ўнутранай паверхні скакацельнага сустава.

Каб упэўніцца, ці сапраўды ў каня ўлога, робяць так званую спробу на ўлогу: (Гл. рыс. II) падкручваюць нагу,



Рыс. II.

падняўшы яе высока і трымаюць яе так хвілін пяць, а потым, раптам пускаюць нагу з рук і прымушаюць каня



з месца бяжаць. Калі ў каня будзе сапраўды ўлога, дык пасьля такое спробы ён востра закульгае з месца.

Лечаць улогу, як і іншыя накосьнікі, пераважна пякучымі расьціраньнямі, але гэта вельмі рэдка памагае. Часьцей улогавы конь перастае цераз некатары час кульгаць сам сабой і толькі пачынае неправільна хадзіць, высока падымаючы нагу.

Здараецца, што ўлога можа перадавацца жарабяці—ў спадчыну, дзякуючы чаму ў маладога каня можа зьявіцца ўлога з першых-жа гадоў працы. Вось чаму гэтакіх канёў ня варта пакідаць на племя.



## Календар цяжарнасьці дамовай жывёлы.

| Дзень становукі | ДЗЕНЬ ПАРОДУ | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Кабыла 340 дзён | Карова 250 дзён | Авечка і каза 154 дні | Сьвіньня 120 дзён | Сучка 63 дні |
| 1 студня | 6 сьнеж. | 12 кастр. | 3 чэрв. | 30 крас. | 4 сакав. |
| 16 „ | 21 „ | 27 „ | 18 „ | 15 траўн. | 19 „ |
| 1 лютага | 6 студня | 12 лістап. | 4 ліпня | 31 траўн. | 4 крас. |
| 15 „ | 20 „ | 26 „ | 18 „ | 14 чэрв. | 18 „ |
| 1 сакав. | 3 лютага | 10 сьнеж. | 1 жніўн. | 29 чэрв. | 3 траўня |
| 16 „ | 18 „ | 25 „ | 16 „ | 13 ліпня | 18 „ |
| 1 красав. | 6 сакав. | 10 студня | 1 верас. | 29 ліпня | 2 чэрв. |
| 16 „ | 21 „ | 25 „ | 16 „ | 13 жніўн. | 17 „ |
| 1 траўня | 5 крас. | 9 лютага | 1 кастр. | 28 жніўн. | 2 ліпня |
| 16 „ | 20 „ | 24 „ | 16 „ | 12 верас. | 17 „ |
| 1 чэрв. | 6 траўн. | 12 сакав. | 1 лістап. | 28 верас. | 2 жніўн. |
| 16 „ | 21 „ | 27 „ | 16 „ | 13 кастр. | 17 „ |
| 1 ліпеня | 5 чэрв. | 11 крас. | 31 лістап. | 28 кастр. | 1 верас. |
| 16 „ | 20 „ | 26 „ | 16 сьнеж. | 12 лістап. | 16 „ |
| 1 жніўня | 6 ліпеня | 12 траўня | 2 студня | 28 лістап. | 2 кастр. |
| 16 „ | 21 „ | 27 „ | 16 „ | 13 сьнеж. | 17 „ |
| 1 верас. | 6 жніўн. | 12 чэрв. | 1 лютага | 28 сьнеж. | 2 лістап. |
| 16 „ | 21 „ | 27 „ | 16 „ | 13 студня | 17 „ |
| 1 кастр. | 5 верас. | 12 ліпня | 3 сакав. | 28 студня | 2 сьнеж. |
| 16 „ | 20 „ | 27 „ | 18 „ | 12 лютага | 17 „ |
| 1 лістап. | 6 кастр. | 12 жніўн. | 3 крас. | 28 лютага | 2 студня |
| 16 „ | 21 „ | 27 „ | 18 „ | 15 сакав. | 17 „ |
| 1 сьнеж. | 5 лістап. | 11 верас. | 3 траўня | 30 сакав. | 1 лютага |
| 16 „ | 20 „ | 26 „ | 18 „ | 14 крас. | 16 „ |

# Коопэрацыя.

## ІДЭАЛ ГРАМАДЗКАГА ЛАДУ.

Пануючы цяпер грамадзкі лад у экономіцы прынята называць буйна-прамысловым, або капіталістычным ладам. Гэты лад не істнаваў заўсёды, а пачаў разьвівацца на парозе XIX сталецьця з папярэдніх формаў грамадзкай гаспадаркі. Сутнасьць капіталістычнага ладу выяўляецца ў тым, што капітал—сродкі вытворства адыгрывае наймагутнейшую ролю ў вытворстве, а другі дзейнік вытворства праца зьяўляецца толькі слугою капіталу. Вялізарная перавага капіталу над працай у капіталістычным ладзе пачала тварыць вялікія, што раз узрастаючыя сацыяльныя рожніцы сярод грамадзкіх клясаў. З аднаго боку маемасьць уласьнікаў капіталу ўзрастала, з другога — маемасьць рабочай сілы (пачаткова майстроў) зьмяншалася. Такім чынам, узьнікала кляса капіталістых і пралетараў.

Не затрымліваючыся тут даўжэй над працэсам тварэньня аднэй і другой скрайніх клясаў у грамадзянстве, бо гэтая справа можа быць асобнай тэмай для разважаньня, я пераходжу далей. Усім ведама, што капіталістычны лад зьяўляецца карысным толькі для нявялічкай, адносна іншых клясаў грамадзянства, групы—для капіталістых. Найбольш пакрыўджанымі зьяўляюцца працоўныя гушчы, якіх праца недацэньваецца. Вось гэтая крыўда працоўных ёсьць вынікам несправядлівага падзелу грамадзкага даходу і зьяўляецца шкоднай для людзкага роду. Каб спыніць гэтую несправядлівасьць, узьнікла шмат рожных праектаў новага ідэальнага ладу з роўнамерным падзелам грамадзкага даходу.

Адным з найбольш магчымых сыстэмаў новага грамадзкага ладу зьяўляецца коопэратыўная сыстэма. Праграма коопэрацыі ня зусім сацыялістычная, бо разьвіваецца ў межах пануючых цяпер гаспадарчых асноў, аднак-жа імкнецца да ідэалу зусім іншага як капіталістычны, да індывідуалістычнага ладу, жадаючы зьдзейсьніць у будучыне найважнейшыя дамаганьні сацыялістых.

Коопэратыўны рух апіраецца на такіх аснаўных тэзах:

1. Усе коопэратыўныя таварыствы маюць на мэце эканамічнае ўнезалежненьне пэўных гаспадароў, так, каб яны маглі абыйсьціся без пасрэднікаў і выстарчыць самі сабе.

2. Усе коопэратыўныя таварыствы імкнуцца да заступленьня канкурэнцыі салідарнасьцю, індывідуалістычнага прынцыпу—кожны для сабе—прынцыпам: кожны для ўсіх



3. Усе коопэратыўныя таварыствы імкнуцца ўграмадзкаваць індывідуальную ўласнасьць, пазваляючы набываць яе шляхам малых паёў, і разам з гэтым твораць калектыўную ўласнасьць у форме супольнае маемасьці і інстытутаў агульнага ўжытку.

4. Усе коопэратыўныя таварыствы імкнуцца адабраць капіталу яго кіраўнічую роль у вытворстве, і гэтым самым спыніць даходы на яго долю ў форме прыбыткаў і дывідэнды.

5. Усе коопэратыўныя таварыствы маюць выхаваўчыя мэты, бо не нарушаючы нічым індывідуальнасьці і ініцыятыўнасьці сваіх сяброў, нахіляюць іх да энэргічнае працы да памаганьня іншым, а гэтым і сабе самому, паляпшаюць эканамічныя адносіны скасаваньнем рэклямы, падрабляньня тавараў і г. д., словам імкнуцца да спыненьня эксплёатацыі і ўсялякіх прычын да спрэчакі няладу.

Гэтыя галоўныя мэты коопэратывізму сьведчаць, што новы грамадзкі лад, які можа наступіць праз узрост коопэратыўнага руху, будзе дасканальнейшым ладам. У гэтым новым ладзе спыніцца ўсялякая несправядлівасьць пры падзеле грамадзкага даходу, спыніцца эксплёатацыя працы капіталам: кожны грамадзянін гэтага ладу будзе атрымліваць увесь даход, як прадукт яго працы. Разам са справядлівым разьмеркаваньнем грамадзкага даходу ў грамадзянстве запануюць і новыя лепшыя палітычныя варункі жыцьця.

**Ад. Більдзюкевіч.**



# Парады для закладчыкаў коопэратывы.

Калі ў пэўнай мясцовасьці знойдзецца колькінаццаць асоб жадаючых залажыць коопэратыў, і калі яны могуць сабраць ня менш 1.000 зл. павінны яны сабрацца, абгаварыць гэтую справу, прыняць статут і выбраць управу і наглядную раду. Дзеля гэтага перадусім трэба, каб адзін з поўнапраўных грамадзян паслаў да староства свайго павету заяву аб дазволе на сход у справе залажэньня коопэратывы. Там дзе ёсьць Гурткі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры дазволу на сход ня трэба браць, а толькі трэба, каб загадзьдзя ўрад гуртка паведаміў старостава аб такім сходзе. Разам з падачай заявы аб дазволе на сход трэба выпісаць з Белар. Інст. Гасп. і Культуры ў Вільны, 3 экзэмпляры статутаў і іншых друкаў.

На арганізацыйным сходзе разглядаецца прысланы статут і выносяцца пастановы аб назове коопэратывы, аб высокасьці сяброўскіх складак, аб ліку сяброў управы і наглядная рады коопэратывы, аб адказнасьці (паруцы)

сяброў (абмяжаванай паямі, ці некалькі раз паямі, або не абмяжаванай) аб іншых не запоўненых мясцох статуту. На сходзе выбіраецца ўправа і наглядная рада коопэратывы. Усе пастановы запісваюцца ў пратакол, які можа быць напісаны па такой форме:

## ПРАТАКОЛ

Агульнага сходу закладчыкаў коопэратывы спажыўцоў „Запасьніца“ ў Вільні, з адказнасьцю паямі, які адбыўся дня 2 сьнежня 1928 г.

Сход адчыніў Янка Канцавы. На павадыра сходу ўсе згодна запрасілі Адама Каваленка, на заседацеляў — Пётру Акімовіча і Андрэя Белавежу, ды пісара—Якуба Дубовіка.

Пасьля гэтага прачытаны быў гэткі парадак нарады:

1. Абгавор пунктаў статуту коопэратыву, прыймо статуту і пацьверджаньне яго падпісамі;

2. Выбары Ўправы і Рады:

3. З чаго пачаць працу коопэратывы.

Пададзены парадак нарады сход прыняў бяз спрэчак.

Выслухаўшы праект статуту і абгаварыўшы некаторыя яго пункты, сход увесь згодна—бяз спрэчак прыняў гэны статут, а сябры закладчыкі падпісалі яго.

Згодна з арт. . . . . статуту, тайным галасаваньнем большасьцю галасоў выбранымі аказаліся:

у Управу Коопэратывы на сяброў:

1. Андрэй Белавежа,

2 ..........................................................

3 ..........................................................

і на заступніка ..........................................................

а таксама ў Раду на сяброў:

1 ..........................................................

2 ..........................................................

3 ..........................................................

і на заступнікаў: 1 ..........................................................

2 ..........................................................

3 ..........................................................



Пастанавілі: распачаць дзейнасьць коопэратывы, адкрыўшы краму на прадажу штодзеннага ўжытку тавараў; даручыць Радзе вызначыць час закладзін крамы. Дазволіць прадажу і не сябром.

На гэтым сход закончыўся.

Падпісалі:

Старшыня сходу
Заседацелі:
Пісар:
Радныя:
Управа:

На сходзе выбраная ўправа коопэратывы запаўняе ўсе тры экзэмпляры статуту паводле пастановы сходу і адзін з экзэмпляраў статуту падпісываецца сябрамі сходу закладчыкамі ў ліку ня менш 10 асоб.

Далей трэба, каб управа напісала заяву ў Акружны Суд для зарэгістраваньня коопэратывы. Гэтая заява можа быць напісана на такой форме:

У АКРУЖНЫ СУД
Адзел Гандлёвага Рэестру
ў Вільні.

Управы Коопэратывы спажыўцоў „Запасьніца“ у Вільні з адказнасьцю паямі.

Гэтым ветліва просім, апіраючыся на арт. 7 Закону аб Коопэратывах ад 29. X. 1920 г., запісаць у рэестар коопэратыву спажыўцоў „Запасьніца“ ў Вільні з адказнасьцю паямі.

Да гэтага далучаем:

1. Статут коопэратывы.
2. Дзьве копіі статуту.
3. Копію пратаколу агульнага сходу закладчыкаў ад 2.I.28 г., якая сьцьвярджаец прыймо, статут і выбары Ўправы і Рады.

Управа
Коопэратывы Спажыўцоў
„Запасьніца“
у Вільні
з адказнасьцю паямі.

Сябры
1 ..........................................................
2 ..........................................................
3 ..........................................................

Дня .............................................. 1928 г.

Адрэс:

Заяву падпісываюць толькі сябры і заступнік управы. Гэтыя подпісы павінны быць завераны ў валасной управе, або ў натарыуса, або ў міравога судзьдзі. Подпісы заклад-чыкаў на статуце завяраць ня трэба. Копіі пратаколу і статутаў завярае сама ўправа коопэратывы.

Пасьля гэтага, управа коопэратывы перасылае ў Акружны Суд заяву са статутам, 2-мя копіямі статуту і копіяй пратаколу.

Праз нейкі час Суд прысылае павестку аб узносе ў касу суду поўнай сумы грошы за рэгістрацыю, або просіць Управу зьмяніць некаторыя няясныя пункты статуту. Калі статут будзе ў парадку і калі ўправа заплаце ў касу Акружнога Суду патрэбную суму за рэестр, Суд павінен зьвярнуць Управе коопэратывы адзін экзэмпляр зацьвер-джанага статуту.

Пасьля гэтых фармальнасьцяў трэба выкупіць у скарбовай управе патэнт, і можна адкрываць краму коопэратывы.



# Праўныя парады.

Паводле законаў з 31 ліпня 1924 году аб мове дзяржаўнай і мове ўрадаваньня („Dziennik Ustaw" №№ 73 і 78) у ва ўсе адміністрацыйныя і самаўрадавыя ўлады, а так-жа Суды, пракурорскія ўстановы і натарыят на абшары Палескага, Наваградзкага і Віленскага ваяводзтваў і паветаў Горадзенскага і Ваўкавыскага ў Беластоцкім ваяводзтве ўсе вусныя і пісьменныя заявы **можна падаваць у беларускай мове.**

### ПАДСУДНАСЬЦЬ (компэтэнцыя).

У вокрузе Віленскага Апэляцыйнага Суда Міравым Судам („Sądom Pokoju") падсудны наступныя справы:

1). Позвы, вартасьць каторых ня больш 1.000 зл.;

2). Справы аб павароце ўтрачанага або нарушанага ўладаньня нярухомасьцяў і аб нарушэньні права ўжываньня сэрвітутаў, калі ад мамэнту ўтраты або нарушэньня да дня падачы позвы не прайшоў 1 год;

3). Просьбы аб забасьпячэньні довадаў у позвах на ўсялякую суму;

4). Справы аб падзеле нярухомай маемасьці, абшарам ня больш 33 гэктараў і калі на ей няма прамысловых прадпрыемстваў і другіх, апроч гаспадарскіх будоўляў, а так-жа справы аб падзеле рухомай маемасьці вартасьці да 5.000 зл.;



5). Просьбы аб наданьні выканаўчае кляўзулі актам вартасьці да 1.000 зл.;

6). Позвы ў справах аб спадкавай нярухомай маемасьці да 3.000 зл.,—калі нярухомасьць земляробскага характару і да 1.000 зл. у праціўным выпадку.

---

# ФОРМЫ ПОЗВАЎ.

## У МІРАВЫ СУД У ЛЫНТУПАХ.

Мікалая Яблыковіча, жыхара вёскі Бычкі, Лынтупскай гміны,
па справе супроць
Яна Сасновіча, жыхара гэтае-ж вёскі.

Цана позвы — 150 зл.

### Пазыўная скарга.

Дня 1 красавіка сёлетняга году пазваны Ян Сасновіч нарушыў маё ўладаньне куском зямлі, абшарам ½ дзесянціны, пад назовам „Пяскі", у вёсцы Бычкі, Лынтупскай гміны, заворуючы і засейваючы гэту зямлю без маей згоды. Да гэтага часу ўспомненай зямлёй уладаў я бяз ніякіх перашкод.

Дзеля вышэйсказанага ветліва прашу Суд:

1) вызваць і дапрасіць маіх сьведкаў Язэпа Худога і Ігната Вароніна, жыхараў вёскі Бычкі, Лынтупскай гміны, у доказ вышэйапісаных фактаў;

2) вярнуць мне нарушанае пазваным уладаньне куском зямлі, абшарам ½ дз. у вёсцы Бычкі;

3) прысудзіць ад пазванага для мяне судавыя кошты і за вядзеньне справы;

4) прысуд скіраваць да безадкладнага выкананьня і

5) справу разабраць і ў маей адсутнасьці, а ў выпадку незьяўленьня пазванага выдаць завочны прысуд.

23 красавіка 1928 г. Мікалай Яблыковіч.

# У Віленскі Акружны Суд.

Цана позвы 1200 зл.

Андрэя Якімчыка, жыхара места Дзісны, гэтага-ж павету па справе супроць Абрама Іцковіча, жыхара места Вільні, вул. Нямецкая № 2—10.

**Пазыўная скарга.**

Пазваны Абрам Іцковіч пазычыў у мяне 1.200 зл., на тэрмін да дня 1 мая сёлетняга году, на што выдаў мне далучаны да гэтага квіт. Ня гледзячы на тое, што тэрмін ужо прайшоў, грошай мне пазваны не аддаў.

Дзеля вышэйсказанага ветліва прашу Суд:

1) прысудзіць мне ад пазванага 1200 зл. з 10 проц. у год ад дня падачы позвы да дня заплаты, а так-жа судовыя кошты і за вядзеньне справы;

2) прысуд скіраваць да безадкладнага выкананьня і

3) справу разабраць у маей адсутнасьці, а ў выпадку незьяўленьня пазванага выдаць завочны прысуд.

Далучаю: 1) квіт з дня 1 лютага 1928 году
2) копію пазыўной скаргі і квіта—для пазванага.

2 ліпня 1928 г. Андрэй Якімчык.

---

## АБ ТЭСТАМЭНТАХ.

Тэстамэнты бываюць нотарыяльныя або прыватныя. Нотарыяльныя тэстамэнты можна рабіць толькі ў нотарыуса.

Прыватны тэстамэнт можа напісаць кожны, але, каб тэстамант гэты быў пасьля важны, трэба пісаць яго трымаючыся ніжэйапісаных правілаваў.

Тэстамэнт павінен быць напісаны абавязкава на **цэлым аркушу паперы,** (гэта знача, каб папера мела дзьве цэлыя карты або чатыры старонкі). Вялікасьць аркуша значэньня ня мае, можна пісаць нават на паперы да пісьмаў. Незапісанай карты аркуша ніколі ня можна адрываць.

Кожны тэстамэнт павінен быць падпісаны праз тэстатара, або, калі ён неграматны або ня можа падпісаць па прычыне хваробы, павінна за яго і па яго просьбе падпісацца другая асоба.

Калі тэстамант быў пісаны не самым тэстатарам, то прад подпісам апошняга (або па подпісе) павінен падпісацца той, хто тэстамант пісаў, але ня можа ён ужо пасьля



падпісывацца як сьведка, а такжа за непісьменнага тэстатара. Апрача вышэй апісаных подпісаў на тэстаманце павінны быць яшчэ падпісы сьведкаў.

Сьведкі могуць і ня ведаць зьместу тэстаманту. Яны толькі пацьвярджаюць, што асоба каторая прасіла падпісаць, ёсьць той самай асобай, каторая робіць тэстамант і што яны асобу гэту асабіста відзелі і яна была ў поўным розуме і прытомнасьці. Дзеля гэтага прасіць сьведкаў падпісаць тэстамант павінен тэстатар асабіста.

Калі тэстамант пісаў ня сам тэстатар, а другая асоба, то на тэстаманце павінны падпісацца трох сьведкаў, а прынамся двух, калі ў іх ліку будзе спавяднік тэстатара. Тэстамант пісаны і падпісаны самым тэстатарам, вымагае подпісаў толькі двух сьведкаў.

У працягу 1 году ад дня сьмерці тэстатара, тэстамант трэба падаць у Акружны Суд на зацьвярджэньне.

Сьведкамі пры тэстаманце, (а такжа асобай, каторая падпісывае тэстамэнт за тэстатара) ня могуць быць:

1) асобы, на карысьць каторых тэстамант зроблены, 2) сваякі гэтых асоб да чацьвертай ступені і павінаватыя да трэцяй ступені, 3) выканаўцы тэстаманту і вызначаныя тэстамантам апякуны, 4) асобы, каторыя паводле права ня могуць быць тэстатарамі і 5) усе тыя, каторыя ня могуць быць сьведкамі ў справах цывільных.



# Лякарскія парады.

## ДАГЛЯД НАД МАЛЫМ ДЗІЦЯМ.

Калыска павінна выйсьці з ужыцьця, бо дужа нездаровая для дзяцей. Не адно дзіця расло хваравітым, а пасьля і згінула дзякуючы калысцы такой, якая ўжываецца ўсюды ў нас на вёсцы. Паложанае дзіцё ў калыску закрываецца заўсёды посьцілкай, часта зложанай у два рады; робіцца гэта дужа шчыльна, каб ніводная муха не пралезла. Дзіця ў такой калысцы пацее і фармальна задыхаецца; яно змушана дыхаць сапсутым ужо паветрам, а бакі калыскі і посьцілка ўтрудняе доступ сьвежаму паветру. Дзіця сьпіць неспакойна, плача, бо ня мае чым дыхаць. Хто ня можа расстацца з калыскай, то для абароны ад мухаў трэба ўжываць сетку, праз якую мухі не пралезлі-б, а паветра даплывала-б свабодна. Бакі ў калысцы трэба зрабіць не з суцэльнай даскі, а з драбінкі.

Найлепш ужываць ложачак з высокімі берагамі, зробленымі з драбінкі, праз шчэлкі якой будзе свабодна дахадзіць паветра.

Дзеля абароны ад мух можна абкрываць газай (рэдзенькая тканіна), а калыхаць зусім ня трэба прывучаць, бо гэта не здарова для дзіцяці; бяз калыханьня дзіця абходзіцца дужа добра.

Купаньне каб захаваць дзіця пры добрым здароўі, трэба абавязкава купаць яго кожны дзень. Купаньне ёсьць ня менш важным ад кармленьня і сьвятла з паветрам. У нас на вёсках маткі купаюць дзяцей раз у тыдзень, або яшчэ радзей. Дзівяцца тады, што дзіця вечна ў больках, пархах і худое. Робіцца гэта найчасьцей праз незразуменьне або гультайства. Старшае дзіця можна купаць праз 2-3 дні. Купаючы трэба заўсёды мыць мылам усяго ня выключаючы галавы. Трэба ведаць, што чалавек дыхае і скурай. У дзяцей гэтае дыханьне адбываецца многа жывей, як у дарослых. Калі дзіця ня купаць, або купаць бяз мыла, то выдзелены праз скурныя гручолы лой і пот затыкае шчэлінкі ў скуры, што перашкаджае дыханьню скуры.

Дык маткі не лянуйцеся кожны дзень купаць у цёплай вадзе і мыць мылам сваіх дзяцей!

Гэта з'эканоміць вам час, які вы траціце даглядаючы вечна хворых дзяцей і прычыніцца да ўзгадаваньня іх здаровымі, жыцьцерадаснымі.

Кармленьне. Да 6-ці месяцаў матка павінна карміць дзіця толькі грудзьмі, і калі ня хапае грудзей трэба дакармліваць каровіным малаком. Даючы малако трэба разьвясьці папалам з вадой і перагатаваць; на шклянку такога малака дабавіць гарбатнюю лыжачку цукру і астудзіўшы да пэўнай меры, даваць дзіцяці. Пасьля 6-ці месяцаў можна пачынаць дакармліваць кожнае дзіця, пачынаючы ад разьведзенага, як вышэй, малака.

Пры штучным кармленьні дзіцяці яму не хватае ў малаку каровіным вітамінаў — патрэбных частак для нармальнага разьвіцьця. Дзеля гэтага пры кожным штучным кармленьні трэба даваць сок з фруктаў пачынаючы ўжо з першых тыдняў жыцьця. Сок падаецца сырым ад 2-х до 5-ці гарбатніх лыжак у дзень. Найлепш надаецца да гэтага сок памаранчовы, вішнёвы, або з яблыка. Калі-ж гэтыя фрукты трудна дастаць, то іх добра можна замяніць сокам памідораў, морквы, або буракоў. Пачаўшы з 5-ці месяцаў можна ўжо даваць кашкі наскрабанай з сырога яблыка ў тэй колькасьці, што і соку.

Падаваньнем вітамінаў, праз гэтыя сокі ўсьцерагаюць дзяцей, нараўне з вынашэньнем на сьвежае паветра і сонца, ад ангельскай хваробы. Калі-ж не магчыма дастаць аніякіх сокаў, трэба штучна кормленым дзецям даваць тран, які мае так сама многа вітамінаў.



Сьвятло. Ні адно жывое стварэньне, ні адна расьліна ня можа абыйсьціся даўжэйшы час без сьвятла! а дзяцей часта стараюцца доўгі час трымаць у цемнаце. Гэта ўсё робіцца праз калыску абкрытую посьцілкай. Каб захаваць дзяцей здаровымі, каб усьцерагчы іх ад ангельскай хваробы, апрача добрага кармленьня, трэба як найбольш трымаць іх на сьвятле і ў чыстым паветры. Дзеля гэтага ня трэба іх абкрываць у калысцы, каб было цёмна і кожны дзень вынасіць на двор, як летам, так і зімой. Зімой трэба адпаведна адзець і тады ня трэба баяцца прастуды. Вынасіць на двор трэба пачынаць ужо пасьля 4-х тыдняў жыцьця. На дворы дзіця падыхае чыстым паветрам, паглядзіць яно на бязьмежны прастор, а гэта ўсё прынясе яму аграмадную карысьць.

## ПЕРШАЯ ДАПАМОГА ДА ПРЫХОДУ ДОКТАРА.

Раны. Пры кожным зраненьні перадусім трэба затрымаць кроў.

Калі паранена артэрыя, то кроў вылятае фантанам і, каб яе затрымаць, трэба палажыць на рану чысты сухі кусок палатна і абвязваючы моцна ўціскаць. Калі гэта не памагае, а рана знаходзіцца на назе або руцэ, трэба вышэй раны перавязаць моцнай хустачкай і падлажыўшы палачку закруціць яе нескалькі разоў. Гэтым артэрыя, праз якую даплывае кроў да раны сьціскаецца і кроў перастае. З так перавязанай рану трэба неадкладна вязьці да дохтара, які падвяжа артэрыю.

Перавязка звычайнай раны. Параніўшы руку, або нагу, ці іншае месца, ня трэба датыкацца да яе пальцамі, або чым іншым, ня трэба, такжа і змываць вадой, наагул мачыць, а ўзяўшы кусок чыстага сухога палатна абвязаць яе. Так завязаная рана праз 4—5 дней падгоіцца, калі яе не перавязваць.

Пералом косьці можа быць 2-х родаў: канец пераламанай косьці прабівае ткані і скуру, ды выходзе, або толькі ламаецца косьць ня выходзячы праз скуру. У першым выпадку трэба затрымаць кроў, перавязываючы моцна вышэй пералому; пасьля ўлажыўшы проста пераламаную часьць, прыкладаюць з боку лучыну, ляску, парасон або што пападзецца пад рукамі і прывязываюць да пераламанай часьці, каб ня рухалася пры перавозцы да дохтара.

У другім выпадку кроў не цячэ, трэба толькі прывязаць, як і вышэй, нейкі доўгі прадмет, каб ня рухалася зламаная косьць і адправіць да дохтара.

**Вывіх.** Пры вывіху нагі, або рукі ня трэба прабаваць, цягнуць, паставіць на места, бо замест управіць— можаш зламаць. Трэба палажыць хворага спакойна, класьці зімныя аклады і пазваць дохтара.

**Кроў з наса.** Як кроў ідзе з наса ня трэба нахіляцца, чыхаць, трэба сядзець або стаяць, на пераносьсе палажыць зімны аклад. Можна ўцягваць у нос ваду з дамешкай воцту.

**Кроў з лёгкіх.** Калі падчас кашлю праврвецца кроў з лёгкіх, трэба легчы ў ложка і захаваць абсолютны спакой! Не гаварыць, ня рухацца і не пужацца. На грудзі класьці зімныя аклады, найлепш лёд; калі ногі зімныя абкладаць іх бутылкамі налітымі цёплаю вадой.

**Кроў з маткі.** Калі кроў пусьціцца з маткі, трэба ляжаць дагары; на ніжнюю часьць жывата класьці зімныя аклады (лёд). Абсалютны спакой! Пазваць дохтара.

**Атручаньне.** Пры ўсялякім атручаньні, найперш трэба пастарацца выдаліць з жалудка (трыбуха) атруту, дзеля гэтага даецца выпіць многа малака, або цёплае вады і увёўшы палец або пярыну ў горла вызываюцца ваніты. Найлепш калі ёсьць магчымасьць гумовай кішкой (зондай) добра выпаласкаць трыбух. Даведаўшыся чым асоба атруцілася пазваць або удацца да дохтара.

**Атручаньне алькаголям.** Перадусім апаражніць трыбух вызываючы ваніту, або прамываньнем; зімны аклад на галаву і зімныя абліваньні. Даваць піць моцную каву. Калі перастае дыхаць — штучнае дыханьне.

**Зачадзеньне.** Трэба перадусім хворага перанясьці на сьвежае паветра. У начаджанай хаце трэба паадчыняць або выбіць, калі накш нямажна, вокны і дзьверы, каб хутка выветрылася, і тады толькі ў ей можна знаходзіцца.

**Штучнае дыханьне.** Дужа важна ўмець яго рабіць. Дзеля гэтага асвабаджаецца асобу ад усіх каўняроў, станікаў, падвязак і г. д., бо яны ўціскаючы мяшаюць цыркуляцыі крыві. Кладзецца даную асобу на стале, зэдліку, або і на падлозе, дагары; бярэцца яе за рукі між локцям і кісьцьцю і моцна прыціскаецца, сагнуўшы ў локцях да грудзей ратаванага, каб сціснуўшы яму лёгкія выйшла з іх паветра; пасьля адцягваецца іх не разводзячы шырока да галавы, каб яны апынуліся ў такім палажэньні, як гэта бывае калі стоячы чалавек моцна падыме рукі ў верх. Ратуючы чалавек стаіць каля галавы і прарабляе гэтыя маніпуляцыі не часьцей, як сам дыхае. Можна штучнае дыханьне рабіць і ў дваіх стаўшы з бакоў. Штучнае дыханьне робіцца датуль, пакуль ня зьявіцца дыханьне самастойнае.



**Утапленьне.** Утоплены чалавек выглядае набракшым і сінім, або трупа-бледым. Калі ён самлеў уляцеўшы ў ваду, апошні выпадак бывае лягчэйшым да ратаваньня, бо лёгкія не залітыя вадой. Прыступаючы да ратаваньня ўтопленага трэба перадусім пасլаць за доктарам і разьдзеўшы асвабадзіць лёгкія і трыбух ад вады. Дзеля гэтага, ратуючы кленча на адно калена, кладзе ўтопленага ніжнюю часьцю грудзей на сваё другое калена і паддзержываючы аднэй рукой галаву за лоб, другой моцна націскае на плечы ўтопленага.

**Змарожаньне.** Ніколі ня трэба замерзых памяшчаць адразу ў цёплы пакой! Перш трэба памясьціць у зімнай будыніне, асьцярожна раздзець, каб не паламаць алядзянелыя часьці цела і расціраць сьнегам або зімным мокрым ручнікам пакуль не памякчэюць часьці цела. У тракце гэтага тасуецца штучнае дыханьне. Як замерзлы пачне самастойна дыхаць, можна яго перанясьці ў слаба нагрэты пакой абкрываючы зімнай пасьцілкай; толькі пасьля нейкага часу можна пачаць расьціраньне нагрэтымі хусткамі. Дзеля атравленьня арганізму ўжываецца сродкаў з сільным запахам: нашатырны спірт, моцны воцат, калі гэтага няма пад рукамі—бярэцца парэзаную цыбулю, або хрэн падносіцца да носу. Пры адмарожаньні часьцін цела паступаецца так сама.

**Паражэньне сонцам.** Пры вялікіх упалах здараецца, што людзі млеюць. Трэба такую асобу памясьціць у зімным месцы, галаву ўлажыць вышэй, моцна абліць зімнай вадой класьці пасьля змочаныя ў зімнай вадзе ручнікі на галаву і грудзі. Калі ня дыхае—тасаваць штучнае дыханьне.

**Самленьне.** Калі чалавек самлее, то перадусім трэба асвабадзіць яго ад сьціскаючай адзежы. Каўняры гарсэт, станік, падвязкі, абуў. Палажыць абамлеўшага, калі твар бледны, то добра ногі падняць вышэй, калі-ж чырвоны, то трэба галаву ўлажыць вышэй. Твар патроху скрапляць сцюдзёнай вадой. Калі доўга ня дыхае—трэба тасаваць штучнае дыханьне.

**Апараньне.** Апараную часьць цела, трэба асвабадзіць ад адзежы, калі гэта з трудом удаецца, то ножніцамі, або ножам разрэзаць рукаў, ці іншую часьць адзежы. Пасьля апараную часьць добра высмараваць гліцарынай, калі-ж гэтага няма пад рукамі, то можна алеям, смальцам, маслам. Калі паявіліся вялікія пузыры, іх трэба пракалоць напаленай іголкай. Для дальнейшага лячэньня трэба зьвярнуцца да доктара.

**Укушэньне зьмяі.** Прыпаліць, калі магчыма, раскаленым зялезам ранкі, калі-ж немагчыма — выціснуць,

або высcаць як найбольш крыві з раны. Даваць хвораму многа піць і старацца каб ён пацеў.

Пакусаньне шалёным сабакам. Прыпаліць рану і ўдацца ў места дзеля спэцыяльнага лячэньня.

Катар. Дзеці часта хварэюць на катар носу і горла. Як прычыну вызываючую гэтую хваробу, лічаць прастуду. Гэта ня зусім так. Катар носу ці горла—хвароба заразьлівая. Дзеці заўсёды заражаюцца—дастаюць катар. Даволі асобе, маючай катар так зв. „прастуджанай" пабыць нейкі час блізка дзіцяці, пакашляць, пачыхаць над ім, азяць на рукі, пацалаваць яго і катар у дзіцяці гатовы. Ведаючы аб гэтым, дзяцей трэба сьцерагчы не ад вады і паветра, а ад асоб з катарам носа, або горла. Трэба забараніць асобам кашляючым, наракаючым на боль горла, ня толькі зьбліжацца да дзяцей, але, калі гэта магчыма, уваходзіць у пакой іх. Гэты просты спосаб усьцеражэ дзяцей ад катару, які ў іх праходзе дужа цяжка і ня рэдка канчаецца сьмерцяй.

Грыпа (інфлюэнца, гішпанка). Хвароба дужа распаўсюджаная, заразная. Вызываецца нязнанымі яшчэ з пэўнасьцю бактэрыямі. Перадаецца ад хворага на здаровага найчасьцей праз кулькі сьліны, вылятаючай з роту ці носу падчас кашлю, чыханьня, смарканьня, або ажыўленай гаворкі. Пачакаўшы 2—3 дні пасьля заражэньня, чалавек адчувае боль, ламаніну, найчасьцей ува лбе, у крыжавіні, нагах і руках; пачынае кашляць, зьяўляецца катар носа, вочы сьлязяцца; жара павышаецца да 38—40°. Такі стан цягнецца ад 3—7 дзён, пасьля жара паніжаецца і самапачуцьцё хворага становіцца добрым.

У некатарых выпадках хворы на грыпу хоць і кепска чуецца, але можа трымацца на нагах і не адрываецца ад сваіх заняткаў (перамагае хваробу) і як раз у такіх выпадках, дзякуючы таму, што не захаваўся, як належыцца пры хваробе (не лягаў у ложку) лёгкая грыпа дае цяжкія камплікацыі (пасьледкі): яна можа абрушыцца на мазгі, почкі, лёгкія даючы запаленьні, або калі хто мае скрытыя сухоты, то яны пераходзяць у вострую форму.

Каб усьцерагчыся ад такіх небясьпечных пасьледкаў, трэба, пры ўсялякай, нават, найлягчэйшай форме грыпы, лажыцца ў ложка і праз 4—5 дней абсалютна з яго не выходзіць.

**Падаў д-р Б. Туронак.**





# Гумар і сатыра.

*В. Д.*

## Спэктакль.

„Коло млодзежы" ў Пляшчанцы знаходзячаяся пад надзорам пані сакратаровай ладзіла на другі дзень сьвят у памешканьні школы спэктакль-вечарыну, чысты збор з каторага меў пайсьці на барацьбу з алькаголем.

Як значылася на афішах, мелі быць адыграны „Ваўкі"—драма з жыцьця асаднікаў на Крэсах, у 3-х часьцях, і камэдыя „Сабачае вясельле"—з жыцьця велькапанскага. У канцы ўпераджалася, што буфэт будзе без гарэлкі.

Гэта апошняе і змусіла ўсіх выбіраючыхся на спэктакль упіцца добра ў хаце. „Можа астатні раз"—падумаў неадзін на сваё ўсправядлівеньне.—„А да таго і сьвята".

Для пачэсных гасьцей былі пастаўлены два рады крэслаў, для „хамаў"—на калодках паслалі дошкі.

Сярод пачэсных гасьцей, першае мейсца займаў войт з жонкаю. Ён—высокі чорны, худы, як вялікі пост, яна—маленькая, пярэстая, грубая, бязупынна варушаючая губамі, як-бы жвачку жавала.

— „Пара, як з самавара" — сьмяяліся з іх людзі.

Але ня гледзячы на гэткую розніцу ў будове і матэрыяле — яны як-бы створаныя былі адзін для другога, адзін без другого жыць не маглі. Ці то на хрысьцінах, ці то на вясельлі, ці так дзе ў гасьцях — ён прысаджываўся заўсёды бліжэй да гарэлкі, яна—бліжэй ежы. І што ён выпіць—яна закусіць. І абоім добра было.

Побач шляхотнай пары, з права і з лева сядзелі: сэкратар з жонкаю і швагеркаю, заступнік каманданта пан Клешч, паштар, колькі асаднікаў і 2 „прафэсары" тутэйшай школы. Іх калегі з суседніх вёсак спазьніліся трохі і па аднаму зьяўляліся ў часе прадстаўленьня. Віталіся сардэчна:

— „Антэк, пся нога! Сэрвус!".

— „Сэрвус, Віцэк!"

І займалі свае мейсцы.

Перад пачаткам і ў перарывах граў аркестр — Якуб з Кракоткі – знакаміты гарманіст, каторы знаў сорак танцаў; меў таксама і бубен, але бубніў на ім заўсёды хтось на ахвотніка.

— „Драбней сячы!" — толькі пакрыківаў Якуб, а сам разваліўшыся ў крэсьле і выцягнуўшы ногі ўзмацняў сваю музыку разьвясёлым „аля-ля-ля! Усі-сюсі!" і г. д.

Утаравала яму саля.

Доўга не пачыналі прадстаўленьня, чакаючы на доктара Загорскага, каторы меў зрабіць одчыт аб шкоднасьці гарэлкі.

Урэшце зьявіўся.

Для тых, хто ня чуў аб доктары Загорскім, мушу паясьніць, што быў гэта праўдзівы доктар, доктар, каторы лечыць людзей і бярэ за гэта грошы. Тымбольш праўдзівы доктар, што датуль трымаў і не адпушчаў на той сьвет хворага, пакуль ня выцягнуў з яго астатняга граша!

Бо ёсьць яшчэ дактары, каторыя самыя моцна патрабуюць, каб іх лячылі—гэта ўсім ведамыя галілеўшы з тытулам „доктара". У такім выпадку тытул „доктар", па старых расейскіх паняцьцях азначае „сьвядоцтва на першаклясны чын" і права на льготу 2-га разраду ў войску.

Одчыт празначаны быў для „хамства" і дзеля таго ўсе паны вышлі ў суседнюю клясу, дзе пад лаўкамі стаялі ў колькі радоў бутэлькі.

Апаражняліся адна за другой.

А доктар Загорскі гаварыў і гаварыў.

Бажыўся, што ад гарэлкі псуюцца вантробы. Словы яго далятаді і да суседняга пакою і рабілі там найбольшае ўражаньне.

— Добра гаворыць!

— Прыгожа гаворыць!

— Вантробка? Добрая рэч пры гарэлцы вантробка!

— І яшчэ падсмажаная ў сьмятане!

Але вантробкі ня было і закусывалі селядцом. Або і так: адзін вып'юць, другім закусяць. „Службовым".

— У вашыя рукі!

— Абысьмы!

— Кахаймыся!

Скончыўся одчыт. Лектар хутка пераканаў слухачоў аб патрэбе перастаць піць гарэлку. Абяцалі, абы толькі скарэй кончыў.

— Пачынаць прадстаўленьне!—раўлі дружна.

— Або грошы вярнуць!

— Рэж, Якуб!

— Плюнуў са злосьці доктар і сам пайшоў туды, дзе запраўды бароліся з алькаголем.

Пачаўся спэктакль. Артысты, каторыя „для сьмеласьці" таксама трохі „пацяжнулі", гралі зусім добра. У цяжкіх хвілінах памагала ім саля. Калі дайшло да таго, што „асаднік" пачаў спрачацца з „Андрэям" і ўрэшце хваціў яго за грудзі — на салі заварушыліся.

— А ў морду яго, сукінага сына! У морду валі!



І Андрэй ня доўга думаючы, разьвярнуўся і нават добра заляпіў сваўму праціўніку ў вуха, хоць гэта ня ўходзіла ў яго роль.

— А, ты гэтак! Пачакай-жа — скочыў „асаднік".

Гатова была распачацца бойка, але ўмяшалася паліцыя і далей гралі спакойна.

— Пасьля парахуемся—згадзіўся „асаднік".

Горш было ўтрымаць парадак на салі.

Паны пазакурывалі папяроскі. Гледзячы на іх, круцілі мужчыны „цыгаркі". Ад дыму задушыцца можна было.

Хлопцы разгойдалі адну лаўку; ножкі падагнуліся і раптам паляцелі ўсе на зямлю.

Падняліся, папраділі і зноў гойдалі, але ўсе цяпер уважалі добра і ў крытычны момант схопліваліся з мейсц.

На другой зноў лаўцы падняліся ўсе і пасьля як селі адразу, дык тонкая дошка на тры часьці трэснула.

Весела было.

Дзяўчаты нібы неўзнарок паўлазілі паміж хлапцоў і пішчалі, як мышы, калі тыя шчыпалі іх або рабілі від, што шчыпнуць хочуць.

Па сканчэньні спэктаклю пачаліся скокі. Чуліся цяпер яшчэ свабадней, бо ўсіх паноў запрасіў да сябе кіраўнік школы.

Меў кіраваць танцамі Юлюк, але фактычна кіраваў паліцыянт, бо так сьціснулі кола, што і парушыцца ня можна было. Расьпіхаў ён народ і прапушчаў пару за параю.

Міхась, каторы стаяў з боку і ўсім танцуючым падстаўляў нагу, урэшце дапяў свайго. Расьцягнуў такі адну пару на падлозе.

Бедная Марылька! Ня ведала, куды дзецца ад стыду. Уцякла да хаты.

Затое Міхася злавілі за галаву і ногі, вынясьлі на двор і размахнуўшыся сьцінулі з ганку.

— Вярніце мне за білет — крычаў той, варушаючыся ў лужы, але дзьверы зачыніліся.

Словам, усё йшло як ня трэба лепей. Забава цягнулася аж да сьвету. На заканчэньне пабіліся троху і колькі хлапцоў пайшло спаць на пастарунак.

А ў кіраўніка тым-часам вялася заядлая барацьба з алькаголем. Увесь чысты збор адразу пайшоў па свайму простаму назначэньню. У Янкеля пад раніцу не засталося ні аднае бутэлкі.

Прыемна, сапраўды, успомніць аб сьвятах, асабліва, калі яны так карысна праведзены!

## СУЧАСНЫЯ ЖАДАНЬНІ.

— Я хацеў-бы мець машынку да падрабляньня грошаў.
— На што-ж гэта?
— Падрабляў-бы грошы, так мне іх шмат трэба.
— А я хацеў-бы быць судзьдзёй?
— А дзеля чаго гэта?
— Каб цябе асудзіць на сьмерць праз павешаньне, за падрабляньне грошаў.

## ГРАШАВАЯ ЎДЗЯЧНАСЬЦЬ.

Адвакат выбавіў кліента ў вельмі трудным працэсе. Па добрай для яго пастанове суда кліент дзякуіць:
— Пане адвакаце! Як-жа мне выразіць сваю ўдзячнасьць за так добрае разьвязаньне справы? Чым я вам аддзякую?
Адвакат: Няма аб чым гаварыць, каханы кліенце! Ад таго часу, як выдумалі грошы, такіх пытаньняў ужо ня ставіцца.

## ТАКСАМА ДАКТАРЫ.

Да хворага на консыліюм запрасілі двох дактароў.
— Гм... стан вельмі паважны,—кажа адзін. Гэта цяжкое запаленьне мазга.
— Гэ... гэ — маю ўражаньне, што калега памыляецца: мне здаецца, што хворы мае тыфус брушны... але ведаеце што? Для сьвятой згоды зробім кампраміс: хай ён будзе хворы на лёгкія.

## У СЯМ'І.

Жонка: Калі дзяўчына застаецца старой паннай, то—зьнішчанае жыцьцё. Калі-ж выходзіць замуж...
Муж: Дык зьнішчаныя два жыцьці.

* * *

— Ці шмат будзе ў вас людзей на гэтым прошаным абедзе?
— Не, якіх чалавек восем, адны разумныя людзі... ну, і вы.

## ЗЛОСНЫ.

Адходзіць цягнік. У куце вагона расплакалася дзіця. Старая панна затыкае вушы рукамі.
— Гэта немагчыма! Збрыдне мне такая падарожа!
Бацька дзіцяці: — Трудна, вы таксама былі дзіцям і плакалі.
— Але-ж не ў вагоне.
— Разумею; калі вы былі дзіцям, чыгунак яшчэ ня было.



Бацька. Думаю, што бяручы маю дачку, вы ведаеце, что бярыцё?
Зяць. Добра ня ведаю, але казалі, што 5 тыс. даляраў.

* * *

— Былі мы з вамі, калісь сябрамі. Ня ведаю ці вы гэта помніце?
— Мушу перш ведаць, які вы маеце да мяне інтэрэс.

## ЛЯКАРСТВА.

— Ведаеце кумка, ужо я свайго чалавека вылячыла ад водкі. Цяпер у карчму сам ня ходзіць ніколі.
— Ну, а як-жа?
— Цяпер я з ім заўсёды хаджу.

## ВЫТЛУМАЧЫЎ.

— Пане вучыцель, чаму гэта рыбы ня могуць жыць на паветры?
— А гэта бачыце, дзеці, пераважна затое, што зараз здыхаюць.

## У ДОКТАРА.

— Пане доктар, ратуй маю жонку; зламала нагу!
— У якім мейсцы?
— На дарозе ля карчмы.

## У ШКОЛЕ.

— Два бяз двух, колькі будзе?
Вучань маўчыць.
— Меў у кішані 2 грошы, якія ты згубіў, што асталося ў кішані?
— Дзюра.

## У ДОКТАРА.

Паночку, дзіця зьляцела з рук маей жонкі і вельмі пабіла сабе галаву.
— Што-ж вы адразу зрабілі?
— Вылупцаваў бабу, больш нічога.

## НЕПАРАЗУМЕНЬНЕ.

Арыстакрат. Вы пэўна ня ведаеце, што я маю блакітную кроў ў жылах.
Дэмократ. Ой-ей, паночку, раджу вам ад гэтай брыдкай хваробы лячыцца ў найлепшых маскоўскіх „прафэсароў“.

Кавалер (да дзяўчыны з далярамі): Сьніў я, што прасіў вашай рукі ў вашага бацькі.

Дзяўчына: А што бацька?

Кавалер: Ня помню, але прабудзіўся на зямлі.

———

Вучыцель: Ніколі ты яшчэ так дрэнна не зрабіў лекцыі. Няма ані ладу, ані складу. Пастаўлю з прыкрасьцяй двойку.

Вучань: Вось тата будзе злы! Хацеў каб я атрымаў пяць і дзеля гэтага рабіў лекцыю сам.

### СТАРАЯ НАЛПА.

— Дзядзька, пакажы мне якую штуку.
— Ня ўмею, дзіцятка.
— Ня веру, дзядзька мусіш умець цікавыя штукі.
— Чаму?
— Бо як дзядзька прыдзіш, то мама зараз кажа: ізноў прышла гэта старая налпа.

### ДОВАД.

Судьдзя: Скуль у вас гэта пэўнасьць, што Дзяргача падсудны ўтапіў, а ня сам ён утапіўся?

Сьведка: Бо ў кішані нябошчыка была бутэлька водкі. Каб сам тапіўся, то не змарнаваў-бы, а выпіў-бы.

### У КАРЧМЕ.

— Тата, я нашоў рукавіцу.
— Ну, на што табе, Іцка, адна рукавіца?
— Будзе і другая. На ей яшчэ гэты пан сядзіць.

———

— Скажы мне, дзядзька, казку.
— Аб чым, дзетачка?
— Аб ціхім добрым хлопчыку, што меў надта добрага дзядзьку і даў яму надта многа цукеркаў.

———

Голда Рубінштэйн едучы санкамі ў сваім новакупленым маёнтку кажа: Ах як прыемна ехаць па сваім уласным сьнягу.

———

— Учора на вечарыне ваша сястра згадзілася выйсьці за мяне замуж. Ці вы, панна Анна, не пагневаецеся на мяне, што ад вас сястру забяру?
— Вось дзіўны! На гэта-ж рабілася вечарына.

### У РЭСТАРАНЕ.

Госьць: Чаму гэты сабака так глядзіць на мяне?

Кэльнэр: Бо кормім яго з гэтай самай талеркі.



### У СУДЗЕ.

Судзьдзя: Голас сумленьня павінен-бы вас сьцерагчы ад гэтага паступку.

Адвакат: Трэба высокаму суду ведаць, што абвінавачаны глухі і гэтага голасу ня мог чуць.

———

Пані да служанкі: Марыся, ніколі нічога не рабі без майго дазволу.

Марыся (крыху пачакаўшы): Панічка, сабака панёс увесь кумпяк. Ці адабраць яго?

### МІЖ ПРЫЯЦЕЛКАМІ.

— Як табе падабаецца мая новая сукенка?
— Цудоўная! Твая швачка шые так, што і на калодзе ляжыць добра.

———

Жонка: Сьніла я сяньня, што ты мне купіў новыя камашы.

Муж: Можа-б ты цяпер прысьніла скуль мне на іх узяць грошы.

———

— Чаму ты на сяньняшнім паседжаньні ніразу рот не раскрыў?
— Няпраўда, я зяваў у часе тваей прамовы.

# Інфармацыі.

## Важнейшыя Беларускія ўстановы Заходн. Беларусі.

### А. Палітычныя:

**Беларускі Нацыянальны Камітэт.** Вільня, Людвісарская № 1.
**Цэнтральны Камітэт Беларускай Хрысьціянскай Дэмократыі.** Вільня, Людвісарская № 1.
**„Беларускі Сялянскі Саюз“.** Вільня, Востробрамская № 8.
**Праваслаўнае Дэмократычнае Аб'яднаньне.** Вільня, Востра-брамскея 9.

### Б. Культурна асьветныя і інш.

**Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.** Вільня, Востра-брамская № 8.
**Таварыства Беларускае Школы.** Вільня, Віленская № 12.
**Беларускае Навуковае Таварыства.** Вільня, Віленская № 8.

